## “Я ПРЫЙШОЎ ДА ЦЯБЕ...”

### Пошукі ідэалу жанчыны ў беларускай літаратуры

Чалавецтва не можа жыць без ідэалу, не таму што яму даспадобы ідалапаклонства, а мабыць па іншых прычынах, калі пошукі абсалютнага ва ўсіх сферах нашага жыцця ёсць праява найвышэйшага стану духу, калі хочаце, яго геніяльнасці. Розныя формы гэтага працэсу, калі сцвярджаюцца ідэальныя узоры для пераймання, вечна рухомыя "догмы", сярод якіх маюцца дзве непадзельныя і раўназначныя, як іпастасі Святой Троіцы. Гэта геній жанчыны і ідэал кахання.

У нашай класічнай літаратуры ёсць цудоўны твор - аповесць пра каханне, дзе, здаецца нам, той ідэал створаны. Гэту аповесць можна чытаць і перачытваць бясконца. І не толькі ў пару вясны нашай. Бо гучыць яна сапраўднай паэзіяй, музыкай: "Ці ж гэта не была б праўда, каб ён прыйшоў і сказаў да яе: "Я прыйшоў да цябе, бо хачу бачыць цябе, хачу чуць твой голас: ён гучыць для мяне, як вясна; хачу пачуць твой смех, бо ён, як прамень сонца, асвятляе мне душу. Я прыйшоў да цябе, бо прывяло мяне сэрца". Якуб Колас "У палескай глушы".

Колькі чытаю аповесць, столькі шкадую, што гэтая "Зорка Венера" ў прозе перарасла ў трылогію "На ростанях". Бо ўсё самае значнае, што знаходзім у першай частцы, паблякла, згубілася, страцілася на тых шырокіх прасторах, па якіх класік павёў свайго героя, за значнасцю тых праблемаў, той мастацкай звышзадачы, якую ён вырашаў. І, зразумела, за "адзіна магчымым" шляхам, паўз які ніяк не мог прайсці Лабановіч. Таму дзве іншыя часткі трылогіі ў многім перакрэсліваюць першую. Найперш перакрэсліваюць аповесць пра няспраўджанае каханне, Ядвісю. Ідэал жанчыны. Прыгожае знайшло ў гэтым вобразе найдасканалае ўвасабленне. Ядвіся - загадка, таямніца. Так, Лабановіч не здольны ахвяраваць дзеля яе ўсім, што мае, а, правільней, тым, што хоча знайсці. А такой жанчыне патрэбна ўсё, без астатку. «Ёй патрэбна не памяць пра іх каханне, а ён сам" (І. П. Чыгрын). Але нам галоўнае не гэта, не прычына, чаму каханне няспраўджанае. Галоўнае разуменне, сцверджанне героя, аўтара: Ядвіся - лепшая, найпрыгажэйшая казка Палесся". Ядвіся - ідэал жанчыны.

Ці здольны Лабановіч, з якім мы развітваемся на апошніх старонках кнігі, які яшчэ ўсё на ростанях, які і зараз імкнецца "насустрач жыццю і яго прыгодам", але ўжо "асновай жыцця і дзейнасці" для яго запавет сацыял-дэмакрата Галубовіча, яшчэ ўсё верыць у казку? І таму: набыў ён ці страціў? І мы разам з ім? І ці не

затушаваў, засланіў і нават у многім закрэсліў класік свой ідэал жанчыны іншым вобразам, які ўзнікае ў канве твора, каб "вывесці" Лабановіча на шлях "сапраўдны"? Вольга Віктараўна Андросава. Хто яна? Найперш, і гэта мы чуем ад яе пры першай сустрэчы, - настаўніца.

Спадзяюся, маё лірычнае адступленне будзе зразумела. Гэта такое шчасце - упершыню прыйсці ў школу ў новай ролі - настаўніцы. Гэта свята. Гэтага дня чакаеш, не дачакаешся. Гэта як ... чаканне сустрэчы з каханым. А што наша настаўніца? На месца сваёй працы яна спазнілася на два месяцы. Асабліва "важная" апошняя прычына-тлумачэнне: "У Пінску трохі ў знаёмых пабыла". Затрымалася. Ды і куды спяшацца, калі праца настаўніка для яе - "нудная гэта справа!" Несур'ёзнасць, нясталасць і нават несумленнасць гэтай маладой жанчыны ў адносінах да працы адразу кідаюцца ў вочы: "Спішу ваш расклад, здзяру яго да літары". Таму, невыпадкова, і школа, дзе працуе Андросава, пакідае вельмі цяжкае ўражанне. Але Вольга Віктараўна не проста не хоча, не ўмее і не будзе працаваць настаўніцай. Яна мае на гэты конт ідэйныя перакананні: "Дабро вы робіце народу ці зло, забіваючы розум дзяцей і іх чыстыя душы ўсякаю казённаю трухляцінаю?" Умець апраўдаць сваю абыякавасць, несумленнасць - гэта яна ўмее.

Відавочна, як настаўніца наша гераіня не адбылася. У чым жа значнасць, вартасць гэтага вобраза? У чым яго значэнне дзеля пошуку тых шляхоў у жыццё, па якіх ідзе герой? Самае парадаксальнае ў тым, што яна вучыць. Настаўніца, якая не адбылася, вучыць Лабановіча, сапраўднага настаўніка. Вучыць, куды ісці, з кім ісці, у што верыць. Ці не іранізуе Колас са сваёй гераіні, паказаўшы ўсю нявартасць яе як настаўніцы, з таго, што яна імкнецца вучыць Лабановіча? Чаму яна можа навучыць яго? Яна - разумнейшая, лепш ведае жыццё, людзей? Зусім не. Нават даследчык Ю. С. Пшыркоў адзначыў некалі, быццам з прабачэннем: "Праўда, маладая жанчына не была інтэлектуальна больш развітай за свайго калегу". Але, аказваецца, гэта зусім не абавязкова - быць "інтэлектуальна больш развітай", каб вучыць. Сапраўды, хто хоча ведаць, той вучыцца, хто не хоча, той вучыць іншых. Галоўнае - "яна была звязана з рэвалюцыйнай арганізацыяй" (Ю. С. Пшыркоў). Якраз у гэтым асноўны сэнс вобраза Андросавай - рэвалюцыянерка. Эсэрка? Бальшавічка? Гэта ізноў жа неістотна. Важна тое, што яна як рэвалюцыянерка, нясе ў сабе сілу неспакойную, стыхійную, разбуральную, часцей неразумную, нелагічную. Антыжаноцкую. Лабановічу лёгка спрачацца з ёю, жартуючы адмаўляць яе

пераканнанні. А мо Колас, паказаўшы Андросаву як тыповую рэвалюцыянерку, хацеў давесці, што не маглі такія людзі поўнасцю пераканаць героя ў сваёй праўдзе. Іх намаганні, безумоўна, закранулі. Успомнім хоць уражанне ад першага чытання нелегальнай літаратуры. Але ісці іхнім шляхам - усё ж не.

Хто яна - жанчына Вольга Віктараўна Андросава? Літаральна ўрываецца ў жыццё героя, упэўнена, напорыста. Бойкая, смелая. Колькі трэба было перадумаць, узважыць Ядвісі, каб асмеліцца ступіць на парог пакоя Лабановіча. Ды так, каб на вочы ягоныя не трапіць. Андросава - новы чалавек, новая, перадавая жанчына. Але хіба жанчына не нясе ў сабе нешта спрадвечнае, заўсёднае, што ў сваёй заўсёднасці і з'яўляецца новым?

Мы міжволі параўноўваем Ядвісю і Вольгу Віктараўну. Імёны. Андросаву нават нельга назваць Вольгай. Яна страціла жаночае імя за гэтым недарэчным дадаткам "па бацьку". Іх знешнасць. Доўгія, пышныя, незвычайнай прыгажосці валасы Ядвісі - абавязковы атрыбут класічнай жаночай прыгажосці - і падстрыжаныя валасы Вольгі Віктараўны. "Стрыжаная!" - няхай гэта кінуў у адрас маладой жанчыны, бадай, самы брыдкі, слізкі чалавек, самы непрыемны вобраз рамана дзяк Бацяноўскі, але ж гэта - класічны твор. А "ў класічным творы адмоўныя персанажы ведаюць філасофію жыцця не горш, чым станоўчыя" (В. А. Каваленка). Гэта аксіёма. І няхай у нас, цяперашніх, такое вызначэнне ніяк не асацыіруецца са словам "прапашчая", усё ж гэта вельмі істотны штрых у абмалёўцы вобліку гераіні. Спачатку пазбавіцца доўгіх валасоў, нейкага пэўнага тыпу паводзін, пасля адрачыся ад агульнапрынятых нормаў жыцця, няпісаных законаў. Урэшце пачаць ламаць, знішчаць тое, што было раней. Недарэмна Лабановічу Вольга Віктараўна нагадала ў першую ж сустрэчу тургенеўскую нігілістку. А першае ўражанне з'яўляецца найбольш адпаведным.

«Не прайшло і пяці хвілін, як яны разгаварыліся, нібы даўно ўжо былі знаёмыя», - добра гэта ці не зусім? Безумоўна, добра. Выдатна, калі чалавек умее адчуваць сябе ўсюды як дома. Але ці ўсюды - ягоны дом?

Найбольш непрыемна ўражвае ў паводзінах Андросавай адзначанае Коласам быццам бы незнарок, выпадкова: "загаварыўшыся, курыла ..." Так, свет перавярнуўся. Але нават і ў наш час, і ў нашым перакуленым свеце ці можна ўявіць сабе жанчыну ў вёсцы, якая, не саромеючыся, паліць? А то ж пачатак стагоддзя. Ці магчыма ўявіць Ядвісю з цыгаркай?

Безумоўна, такая жанчына не магла абудзіць у душы героя пачуццё, якое валодала ім у Цельшыне. Безумоўна, ён не мог пра яе не думаць. "Калі Лабановіч ішоў дадому, ён думаў аб сваей нелегальная рабоце і аб Вользе Віктараўне". Пра Вольгу Віктараўну як пра прыдатак да нелегальнай работы. Калі Лабановіч думаў пра Ядвісю, ён не мог думаць ні пра што болей, хоць настойліва гнаў ад сябе думкі пра гэтую "казку Палесся".

І яшчэ адзін штрых у абмалёўцы вобраза Андросавай: "Гутарка яе развязная, бойкая". Якое непрыемнае слова - "развязная". Ці мог бы аўтар, Колас, выкарыстаць гэты "эпітэт" пры апісанні ідэальнага вобразу?

"У яе асобе ён бачыў першую такую дзяўчыну і прасякся да яе вялікаю павагаю". Калі Ядвіся - таямніца, казка, то Андросава - усяго толькі асоба. Казка знікла. Знікла паэзія. Засталіся сухія, звычайныя словы. А мо таму, што знікла жанчына? А ў жыццё ўвайшла нігілістка, рэвалюцыянерка.

Ітак, місія Андросавай у творы - "выкаваць" з Лабановіча сапраўднага, "добрага рэвалюцыянера". Хіба гэта можа быць прызначэннем жанчыны? У перавернутым свеце можа. Прыклад таму шукаем далей.

Але ж чалавек, калі ён нават марыць стаць "сапраўдным бальшавіком", калі ў ім яшчэ не знішчана жывая душа, павінен жыць і нечым іншым. І ён жыве. "Ён ужо не мог думаць ні пра што іншае, як пра гэтую дзяўчыну, якая зблытала ўсе ягоныя думкі, апанавала яго новым нязведаным клопатам. Вельмі карцела бачыць яе ..." - але ж гэта ўжо не Колас. Так, гэта Васіль Быкаў. Гэта адлюстраваная ім страшэнная, злая, дзікая ў сваёй ненатуральнасці, пачварнасці, несправядлівасці сцюжа, якая прайшлася па нашым людзе, перайначвала, перараблята тое, што перайначыць, перарабіць нельга, бо тое – спрадвечнае - аснова жыцця, яго няпісаныя законы, якія вырошчваюць у чалавеку людскасць. Адвернецца чалавек ад гэтага - перастане быць чалавекам, забудзецца, што самая моцная сувязь паміж людзьмі сувязь кроўная. Але ж у гэтым і была сутнасць, прызначэнне той сцюжы - разарваць, знішчыць у чалавеку людскасць. І сама ж сцюжа зруйноўвала, замятала ўсе сляды сваіх злачынстваў. І выйсця - не было. Бо нішто не даруецца проста так. Бо чорнае, злое, калі ўжо авалодала чалавекам, самахоць ніколі не адпусціць яго, да якога б светлага, як здаецца чалавеку-ахвяры, ён не ішоў бы. Чорны вялікі ваўкалака і ёсць спараджэнне злавеснай сцюжы. Ён не адстане. Ён не пакіне ў спакоі. Пакуль на зямлі будзе лютаваць сцюжа.

Яна ж імкнецца знішчыць і таго, хто павінен несці ў сабе ідэю жыцця, чысціні, нараджэння, прыгажосці - жанчыну. Робіць яе здрадлівай, бруднай, цынічнай, прадажнай, жорсткай. Гэта - Паліна Пташкіна, гераіня "Сцюжы", спараджэнне сцюжы. Але самае страшнае не тое, што такая жанчына з'яўляецца ў жыцці (у тым жыцці не магла не з'явіцца); страшна, што яна, такая, - ідэал жанчыны. У аповесці - для Ягора Азевіча. "Такая ладная, адукаваная жанчына", "такая разумненькая, да таго ж прыгожая". І ўрэшце, як адкрыццё, з вялікім захапленнем: "... Ім не патрэбны ні пасаг, ні шлюб, ні вяселле, яны без прымхаў. Во гэта перадавая, бальшавіцкая моладзь!"

А ў нашым народзе такія вяселлі называюць сабачымі. Што ж выбраў ты, малады беларус трыццатых гадоў, селянін, учора адарваны ад зямлі, сабе ў якасці ідэалу? Што зрабілі з табою, калі ты не здольны быў бачыць відавочнае? Калі ты без усялякага змагання, як сляпы і неразумны, даў заблытаць сябе гэтай страшнай сцюжы, даў засланіць сабе той свет, у якім ты вырас, які зрабіў з цябе чалавека? І ты стаў адначасова і прыгонным, і прыганятым гэтай сцюжы. Ты стаў нішчыць сваё, не разумеючы, што нішчыш сябе. "Штосьці ў ім зламалася", - так выразна акрэслівае Васіль Быкаў стан Азевіча пасля знішчэння жорнаў (ці не самы страшны эпізод у творы?). Што - гэтае "штосьці"? А гэта і ёсць тая мяжа, пераступіўшы якую чалавек перастае быць чалавекам. Селянін, хлебароб разбівае жорны, якія робяць хлеб. Сын перастае быць сынам, брат - братам.

Так, Паліна ў многім выканала сваё абяцанне, дадзенае Ягору ў тую першую ноч: "Слухай мяне, і ты будзеш харошы малады бальшавік. Хочаш стаць бальшавіком-сталінцам?" Пташкіна - таксама настаўніца. Такая ж, як і Андросава. І яна робіць з Азевіча бальшавіка, яна прапаведуе новыя законы, новую праўду, новую мараль. "Нядобра гэта", - няўпэўнена імкнецца Ягор выратавацца, адмежавацца ад той бруднай пасткі, якую расставіла Паліна і ў якой яна сама (невыпадкова - Пташкіна). І ўпэўненае, безапеляцыйнае яе, жанчыны: "Нядобра? Затое па-бальшавіцку"...

Як гэта ўсё ж добра, што Колас развітаўся са сваімі героямі, пакінуўшы іх у тых далёкіх дзесятых гадах.

Тры жаночыя твары. Але ці тры жанчыны? Ці тры ідэалы?

Ядвіся як ідэал, але кахання незямнога, нязведанага. Няздзейсненасць пачуцця заканамерная, бо рэальнае толькі пачуццё зямное, як у чымсці супрацьлеглае гэтаму абсалюту, першай і галоўнай іпастасі самога кахання. Вобраз Андросавай - гэта не проста празмернае, крайняе выражэнне другога, крайняга боку пачуцця.

Гэта зусім іншы "ідэал", іншая сфера бытаваня ідэі жаноцкасці і прыгажосці, "краса з брудам". Гэта чалавек з іншага свету, "перакуленага", карнавальнага, цынічнага ў сваёй аснове, дзе каханне проста не існуе, яно не ўпісваецца ў гэтую сістэму, у цэнтры якой толькі інстынкт кахання. Ідэя жаноцкасці пачынае аспрэчваць саму сябе. І тады як натуральны вынік — з'яўленне "ідэалу" Паліны Пташкінай - жанчыны супраць жанчыны, пачварнасці супраць прыгажосці. Высокая ідэя жаночай прыгажосці дыскрэдытуецца. Як гэта ні парадаксальна, разбуральнае забруджванне ідэалу жаноцкасці назіраем у сучаснай "жаночай" паэзіі, калі маладая паэтка называе сваю лірычную гераіню, не без гонару, "паэткаю з распушаю душой". Першаасновай мастацкай інтуіцыі становіцца катастрафічнае тамленне жаночай душы, якое не здольна знайсці выйсце ў святле, чысціні. Тут ужо не да прыгажосці, не да ідэалу. Таму і прыходзіць у сучаснае мастацтва магутны антыідэал жанчыны тыпу пачварнай спявачкі Мадонны. Ці не пахавала наша людства гэты вечны ідэал у сваёй разбуранай свядомасці? Ці не варта аглянуцца і паглядзець на крынічна чыстую Ядвісю, апамятацца?..

Шыкоўныя валасы Ядвісі. Адзіны, нечаканы, чысты, гарачы пацалунак. Стрыжаныя валасы развязнай Андросавай, побач з якой няма месца каханню наогул. Безумоўна стрыжаная Паліна - і першая ноч у ложку.

Андросава знішчыла казку, але яшчэ няздольная была знішчыць Лабановіча, бо сцюжа толькі набірала моц. Паліна Пташкіна непасрэдна спрычынілася да знішчэння ў Азевічу таго галоўнага "штосьці", што рабіла яго чалавекам, бо ўсё на нашай зямлі ўжо было "ў зацьмішчы, у завеі" (Янка Купала). Гэта наша гісторыя? Гэта гісторыя тых часоў, калі на нашай зямлі зараджалася і панавала сцюжа.

Які ж ідэал жанчыны выбірае наш сучаснік? Ці возьме ён за ідэал жанчыну "з распуснаю душой"? Але гэта ўжо - іншая тэма.

## ХАЙ БУДЗЕ СВЯТА!

### *Амаль святочныя нататкі*

Жанчына заўсёды марыла пра свята. Пра абавязковы атрыбут яго, сімвал прыгажосці - кветкі, пра цяпло і каханне. І ўсё гэта найлепш атаясамлялася з воблікам Вясны, адрачэннем ад холаду, вітаннем сонца і росквіту.

Чаму менавіта 8-га Сакавіка? Не, я не буду заглядваць у гісторыю сусветнага руху жанчын, працоўных і непрацоўных. Не. Васьмёрка – 8 - такая зграбная, мяккая, плаўная, з пераходам у далікатныя выгібы, што так нагадваюць пэўныя элементы жаночага вобліку, адшліфаваныя самой Маці-Прыродай. Акруглая, вытанчаная, як гітара, дасканалая ў сваёй завершанасці. Ці няма ўжо ў самым гэтым знаку-лічбе нечага, што міжволі спрыяла стаць святам менавіта гэтай даце? Ды ў дадатак яшчэ акруглыя і паўакруглыя, сонцападобныя літары ў назве першага вясенняга месяца, якімі так хораша можна аздобіць святочную паштоўку.

Так, гэта агульнавядома, што ад пачатку свайго ідэя гэтага свята была цалкам афарбавана колерамі чырвонымі, якія ў дадзеным выпадку сімвалізавалі не красу, а змаганне. Ля вытокаў маячаць вобразы Розы Люксембург, Клары Цэткін і кагосьці там яшчэ. Свята - Міжнароднае, як сцвярджалася на нашай зямлі. Менавіта так, з вялікай літары. А што сцвярджалася, таму, безумоўна, верылася. Міжнароднае - можна было прачытаць на ўсіх календарах, паштоўках, віншаваннях. У маім дзіцячым уяўленні пры слове "Міжнародны" ўзнікаў вобраз вялікага натоўпу (сапраўды, шматнароднага) жанчын, што выйшлі змагацца за свае правы, што патрабуюць роўнасці, вольнасці, незалежнасці. Моцныя мускулістыя фігуры, што быццам бы сыйшлі з плакатаў тых часоў, смелыя позіркі ў светлае заўтра, дзе вось-вось і наступіць усеагульнае шчасце, і высока ўзнятыя далоні, якія грозна скрыжаваныя над ... крывавымі разорамі. Але гэта яшчэ адзін чырвоны міф савецкіх часоў ці, дакладней, беларускага савецкага літаратуразнаўства. Гэта Цётка з яе рэвалюцыйнымі алегорыямі. Алаіза Пашкевіч, вытанчаная пані, такі тонкі псіхолаг, цудоўны празаік, шчырая беларуска. Як жа і яе здолелі перафарбаваць у выключна барвовыя колеры і зрабіць цалкам паэткай-рэвалюцыянеркай, адкінуўшы ўсё тое, што было ў ёй галоўным - жаноцкае, светлае, прыгожае, часам трагічнае, як у апавяданнях "Зялёнка", "Лішняя". Яе гераіні да апошняга імгнення заставаліся здольнымі бачыць у звычайным незвычайнае: "Здаецца

Зялёнцы, што адплывае з залай кудысь углыб, а чырвоныя кветкі сыплюцца ёй пад ногі". Гэта не кветкі. Гэта яе гарачая кроў пакідае змучанае невылечнымі сухотамі цела. Жанчына адыходзіць у вечнасць велічна, ярка: "Разбілася жывая ліра..." І нават перакрэсліўшы спрадвечнае народнае разуменне пра тое, што самагубства - найвялікшы грэх, яна ўздымаецца над гэтым грахом, узвышаецца, свабодна перайшоўшы ў іншую рэчаіснасць: "А на дне русалкам-сёстрам нова госця былі складала" ("Лішняя"). У тым, што жанчына здольна ўспрымаць свет незвычайна, самастойна зрабіць выбар: быць альбо не - яна і застаецца па-сапраўднаму вольнай.

Але вернемся да колішняга (і не толькі майго) разумення жаночага свята. Уяўляецца яшчэ адна ненатуральна магутная жаночая рука, што надзейна трымае серп побач з мужчынскай, з молатам. Яшчэ адзін атрыбут сілы, незалежнасці. Але хіба сапраўднай вольнасці? Жаночая роўнасць у тым, каб жаць, будаваць, а то і араць, прыручыўшы жалезных коняў? Шырока вядомая скульптура Мухінай "Рабочы і калгасніца". Але недарэчнасць нават не ў ненатуральнасці жаночага вобліку, адлюстраванага ў гэтым "шэдэўры" сацрэалізму, а ў тым, што ... Але лепш працытую: "Венера Мілосская застанецца для чалавецтва вялікім помнікам мастацтва. Але наш сацыялістычны ідэал прыгажосці нязменна шырэйшы і вышэйшы за ідэал мінулых эпох. Успомнім скульптуру Мухінай "Рабочы і калгасніца". Якое шматграннае хараство новага, сацыялістычнага жыцця адлюстравана ў ёй!.. Гэта з падручніка да курсу "Уводзіны ў літаратуразнаўства" для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ. Такім чынам тлумачыўся сэнс паняцця "эстэтычны ідэал". Такое паняцце пра прыгожае прывівалася будучым настаўнікам літаратуры. Гэта састаўныя элементы тэатру абсурду, у якім гадаваліся цэлыя пакаленні жанчын.

Прага жанчыны да незалежнасці, барацьба за роўнасць. Хто гэтага прагнуў? Услед за вялікім Л. М. Талстым, які сцвярджаў, што фемінізм - з'ява ілжывая, антыжаноцкая, з усёй адказнасцю сведчу: так, антыжаноцкая, бо яна накіравана супраць жанчыны ў жанчыне. Ад імя тых жанчын, якім непатрэбна такая вольнасць, якую прапанавалі сёння нашы шаноўныя мужчыны, урачыста адмаўляюся ад роўнасці ва ўсіх правах і ў бяспраўі. Роўна з вамі працаваць, ствараць, будаваць, ажыццяўляць, гадаваць (але хіба што гадаваць часцей няроўна), ісці ў шэрагах барацьбітоў за ўсеагульнае шчасце. І быць вольнымі, вольнымі, вольнымі!.. Якая ўсё гэта лухта? І нават прапаноўваючы жанчыне стварыць сям'ю, самае святое адзінства, вы здольны гаварыць пра саюз вольных людзей, забываючыся на тое, што вольнасць і саюз - з'явы супрацьлеглыя, узаемавыключальныя, бо

можа быць або вольнасць, або саюз. Бо ў кожнай вольнасці адзінкі абавязкова заключана няволя іншага, ад якой і здольна сілкавацца вольнасць першай. А сям'я - гэта і ёсць саюз. І ў ім, абсалютна свядома ахвяруючы сваёй незалежнасцю, жанчына толькі і здольна быць шчаслівай. Не змагацца за ўсеагульнае шчасце, а стварыць шчасце ў сваім гняздзечку - "каханы, кухня, дзеці" (Д. Бічэль-Загнетава). І няхай я ўслед за паэткай таксама павінна рытарычна канстатаваць:

Хіба я не сучасная жанчына?
А вось маёй адсталасці прычына -
прыёмны мой пакой,
мая дзяржава кухня,
дзе пры цяпельцы ў дзежцы цеста пухне..,

калі я нармальная жанчына і аддаю перавагу ў жыцці колерам не крывава-чырвоным, а блакітна-ружовым, я згодна жыць і працаваць на карысць менавіта гэтай дзяржавы маёй сям'і. Бо тым самым найбольшую карысць я прынясу і сваёй вялікай дзяржаве. Натуральна ў мяне, выхаванай у традыцыях сацыялістычнага зместу, узнікае пытанне: што ў такім разе здолею зрабіць для народа? (Гучыць фальшыва-пафасна. Але няхай.) Адказваю горда разам з гераіняй паэмы Веры Вярбы "Альфа":

- Што ты зрабіла для народа?
- Я гадавала вам дзіця.

Бо толькі жанчына, па-сапраўднаму вольная ад той недарэчнай роўнасці, у якой мусіць існаваць зараз, здольна выгадаваць Чалавека.

У гэтым захаванні і прадаўжэнні спрадвечных спраў продкаў бачыла сэнс жаночай долі і Ларыса Геніюш:

Наша доля - кудзеля, лён,
нітку віць з недапрадзенай шпулі,
вартаваць адвечны агонь -
казкі, песні забытай бабулі.
Дом - адвечная доля жанчын...

Вобраз жанчыны ўзвышаны, авеяны арэолам загадкавасці, таямнічасці, бо яна зберагае не толькі матэрыяльныя сімвалы дабрабыту пакаленняў, але і яго духоўныя здабыткі, культуру, мову.

У нашым сучасным грамадстве асноўнай прычынай няшчасця жанчыны якраз і з'яўляецца страта дому. Скасаванне шлюбу. Бо для жанчыны страта яго, адзінага, каханага, гаспадара, абаронцы гэта і ёсць страта галоўнага, што захіляе яе ад знешніх нягод. Адзінокая жанчына безабаронная перад светам. Разбураюцца сцены яе мікракосму. Яна — бяздомная. Верш гродзенскай паэткі Галіны Самойлы пра зруйнаванае жаночае жыццё так і называецца "Дом". Але не дай, Божа, ні адной жанчыне мець такога дому. Не дай, але яшчэ як дае. І гэта - бяздомнасць, бяздольнасць - з'ява звычайная, на кожным кроку:

Дом згарэў,
Каб ачысціцца ад граху,
І дымяць галавешкі,
Слёзы дрэў
На бяздольным маім шляху
І людскія насмешкі.

Дзе ж тая слаўная гаспадыня, што зберагала скарбы продкаў? Страціла, згубіла ўсё. І самае галоўнае - без долі пакінута будучыня - дзеці:

Дом палаў.
Дымны вецер праз вокны ляцеў,
Вынес кніжку-пацешку,
Цень вясла
І бяздомных маіх дзяцей
сінявокую усмешку.

Гэта, бадай, яшчэ больш жахлівыя карціны тэатру абсурду, чым наіўныя дзіцячыя ўяўленні пра "міжнароднае" часоў сацыялістычнага рэалізму.

А колькі жанчынаў, сапраўдных пакутніцаў за грахі роду чалавечага сплывае нечалавечым болем, прагнучы стаць маці, даць жыццё і так і не здолеўшы гэтую прагу спатоліць. Пры чым тут свята, жаночая вольнасць, наша грамадства? Усё гэта бачыцца мне суцэльным ланцугом пакутаў. Занадта многа менавіта зараз такіх няшчасных, хілых, невядома чым выкармленых, невядома як выхаваных, прастуджаных, схварэлых і ці падрыхтаваных мо найперш фізічна для выканання свайго спрадвечнага прызначэння. Ці быў у іх сапраўдны дом, сапраўдны спрадвечны агонь, які пяшчотна і надзейна саграваў іх? Заглянем, хоць і балюча, ізноў у

тэатр абсурду, дзе пакутуе гераіня Анжаліны Дабравольскай з "Балады скверу":

Рассычалася рэха
апошніх трамваяў,
за шпітальнай фіранкай
калыхаліся дрэвы.

Я была па-за светам,
па-за сном, па-за вамі –
у тэатры абсурду
з дэкарацыяй скверу;

там, між бэзу і клёнаў,
як і мы, шчэ зялёных,
абламанай галінкай
я знайшла цябе, сынку.

Абломваюцца, знікаюць цэлыя галіны некалі магутных родаў. Беларусы як нацыя вымірае?

Але хіба ў занадта трагічным напрамку скіраваўся мой, а хацелася ж, святочны роздум. Вернемся да святлейшага. Жанчына ўсё ж шукае выйсце. З няшчасцяў, з нястачаў, з шэрай штодзённасці. Як гэта цудоўна, калі яна яшчэ ўмее ўзлятаць - хай сабе нават у нейкую прывідную, мройную пазамежнасць, як гераіня паэзіі Анжаліны Дабравольскай:

А там, па-за светам, -
пяшчота, пяшчота, пяшчота,
А там, па-за светам -
бяздонне, святло і каханне...

Як хораша верыць. Але калі раптам "тут нам" не "хвілінны супынак, прыстанак, адхланне"? Калі тут нам, на гэтай зямлі, у гэтых прасторы і часе - адзіная магчымасць рэальна існаваць, увасобіць сябе ў нешта вартае, годнае, давайце будзем імкнуцца дарыць сваім блізкім тут пяшчоту, святло і каханне.

Жанчына заўсёды марыла пра Свята... Хай яно будзе.

## ЯНА ДАЛА БЕЛАРУСІ ПАЭТА

Марыя Апанасаўна Багдановіч. Вечна юная Маці вечна юнага Паэта. Сыйшла ў вечнасць у 27 гадоў. Яе не стала 4-га кастрычніка 1896 года. 100 гадоў таму. Пахавана ў Гародні.

### *Насупраць белай царквы*

Яе магілка якраз насупраць белай царквы. Над цяжкім помнікам-каменем, і спрэс - у камені. Кветкі можна толькі прыносіць. Не пасадзіш. Ні лапінкі жывой зямлі. Але добра, што і так. Ёсць і магіла. І помнік. Ёсць куды прыйсці.

Месца магілы вызначылі дзякуючы надзвычайнай педантычнасці Адама Ягоравіча. Ведаў ці прадчуваў, што славы яго роду не пазбегнуць, што патрэбна будзе беларусам ведаць месца, дзе пахаваў сваю Марыльку. Таму дакладна апісаў тое месца. Такі ўважлівы, такі клапатлівы, так кахаў яе! Перажыў на сорак чатыры гады. І ні разу магілку не наведаў? Як зразумець? Хіба так: меў прыгожую, але мармуровую душу. Інакш бы яна столькі стратаў не вытрымала.

### *Марылька*

Яе вобразу, як мне тое ўяўляецца, лепш за ўсё адпавядае менавіта такая форма імені - Марылька. Не высока-ўрачыстая, велічная Марыя, не ласкава-ўзнёслая Марыля. І тым больш ніяк не Маша на расейскі лад, як клікаў сваю сястру Адам Ягоравіч. Па сваёй ахвярнасці, адданасці дзецям яна мо і сягае да найвышэйшай Маці - Марыі. Але тая - адзіная ў свеце ва ўсе часы. І ўрэшце, ужо ёсць адна Марыя Багдановіч, тая ж Маша, сястра Адама Ягоравіча. І Марыля на нашай зямлі ўжо была - Міцкевічава каханне-легенда.

Марылька - так падпісвала свае лісты да каханага мужа. Ён часцей менавіта так у адказ. Сыйшла ў вечнасць такой юнай. Па сутнасці, па выгляду хоць і чатырыжды маці, а зусім дзяўчынка.

Ці было каму ў дзяцінстве гладзіць яе мілую галоўку, пяшчотна, як толькі ўмее мама, кажучы: Марылька!.. Спакутаваная ад бясконцых нястачаў родная маці Таццяна Восіпаўна ці мела сілы на такую ласку. Не з дабра ж дзетак у прытулак мусіла аддаць. А выхавацелька, губернатарша Пятрова, хоць і міласэрная пані, але ўсё ж чужая.

Мо таму і называла яна сябе Марылькай, што не спатолена была ў дзяцінстве смага пяшчоты, якой так прагла яе чулая душа. Не толькі аддаваць, але і мець. Пэўна ж, гэта ён, Адам Ягоравіч, нядрэнны ўсё-

такі псіхолаг, адчуў, як патрэбна ёй праяўленне гэтага пачуцця. І таму так звяртаўся да яе: мілая Марылька. Адсюль, пэўна, і дзіцячыя слоўкі-пяшчоткі ў яе лістах "Адамка", "коцік". Як у іншым месцы - дык і не да месца. А тут - так зразумела, і так кранальна.

А мо яна сама папрасіла мужа так сябе клікаць? Ніколі не даведаемся. Таму, як мне, дык найлепш - Марылька.

## *Лыжка дзёгцю*

Чакаць ад Марылькі высока развітага пачуцця нацыянальнай годнасці, безумоўна, ніяк не выпадае. Ні каранёў адпаведных, ні ўплываў. Але ўсё ж неяк само сабой зразумела, што яна - маці Максіма, мусіла быць шчырай беларускай. Гэтак яшчэ са школьных гадоў уяўлялася. Аднак, не. Сям'я Багдановічаў была, як і большасць сем'яў інтэлігенцыі таго часу, рускамоўнай. Усё ж хочацца верыць: калі б лёс дараваў Марыльцы дажыць да юнацкіх гадоў Максіма, яна падтрымала б і зразумела яго захапленне беларусікай. Апекавалася б, канешне, як магла. У цяпле трымала б. Ды гэта не Адам Ягоравіч з ягонай празмернай амбітнасцю і жаданнем наперад усё пралічыць: што выгадна, што не. Беларусіка, безумоўна, і ў гэтым ён меў рацыю, ва ўсе часы - не. І пралічыўся ўрэшце рэшт. Бо менавіта Максім і прынёс славу сям'і Багдановічаў, якой так прагнуў бацька. Максім - беларускі паэт.

Першае сутыкненне Максіма з жывым, натуральным, стыхійным беларускім асяроддзем адбылося ўлетку 1895 года, калі Марылька з сынамі адпачывала ў сваёй сястры Стэфы ў Вяззі. Даследчыца спадчыны паэта В. Бяляўская піша пра гэта: "Думаецца, якраз тут, у Вяззі, запала ў сэрца і стала такім родным і пажаданым беларускае слова для Максіма Багдановіча". Мо і так. Але ж яму тады было ўсяго толькі тры з паловай гадочкі. І побач маці, якая з непрыхаванай скрухай піша ў лісце да мужа: "Вот только плохо, что стали говорить по-белорусски..." А мо я са сваім "калі б лёс дазволіў" памыляюся? Мо яна пачала б актыўна супрацiўляцца таму, што стала для Максіма справай жыцця?

Як зразумець цябе, маці Марылька, маці найвялікшага паэта беларускага? Хіба так: яна імкнулася, каб усё было прыгожа. Мова чыстая, правільная. Думаецца, яна проста пратэставала супраць той жахлівай трасянкі, што ў наш час узведзена ў ранг дзяржаўнай мовы. Яшчэ яе палохалі тыя грубыя словы з вуснаў яе анёльчыкаў, якім яны вучыліся ад вясковых дзяцей. Але ж тыя словы ніяк не з'яўляюцца беларускімі, "Иногда такое словечко выпалят, что хоть сквозь землю

провались",- з жахам піша Марылька ў тым жа лісце. Але ж тое, пэўна, пра "славуты" расейскі мат.

Не дачакалася Марылька, каб прачытаць вершы свайго Максіма на той мове, якой яна палохалася. Ніколі не паверу, каб мова яго вершаў падалася ёй непрыгожай, нявартай. Але, калі б дачакалася, то ці мелі б мы паэта?.. Пра тое - крыху пазн'ей. Такая вось лыжка дзёгцю. Але яна ніяк не здольна заплявіць воблік Чыстай Маці.

### ***Гародня***

"Славу горада, як і зямлі, робяць славутыя людзі. У гэтым сэнсе Гародні пашэнціла - у ёй жыло нямала выдатных, славутых людзей. І сярод іх наш першы інтэлігент у літаратуры, тонкі і трагічны Максім Багдановіч", - Васіль Быкаў.

Сям'я Багдановічаў пражыла ў Гародні чатыры гады і чатыры месяцы. Быццам і няшмат. Але калі гэта - шостая частка ўсяго Максімавага жыцця, амаль такая ж Марылькі, Лёвы, прыблізна чацвёртая Вадзіма і ўрэшце - цэлая палова сям'і Марылькі і Адама Ягоравіча, то гэта вельмі, вельмі шмат.

Так, Максім сказаў Зосьцы Верас, што "ён з Гродна помніць адно - смерць сваёй маці". Але адкуль тады Нёман у яго паэзіі? Хіба ж не вадзіла Марылька дзяцей да Нёмана ў розныя часы, і ў час паводкі таксама. Адтуль, думаецца, з тых дзіцячых уражанняў вылілся ў верш "Перад паводкай" такія наглядныя, зрокавыя вобразы, якія, не ўбачыўшы ніколі, і не ўявіш гэтак ярка:

І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме банька Нёман
На хрыбце магутны лёд.

Адтуль і верш "Над Нёманам", напісаны да новае рэдакцыі "Вянка". А наша Швейцарская даліна! Праўдзівая легенда Гародні. З якім захапленнем расказваюць пра яе старажылы горада! Мне - бачыць не давялося. Знішчылі бальшавіцкія вандалы, як і фару Вітаўта, у якой хрысцілі Лёву, Ніну, адпявалі Марыльку.

У тыя пяць месяцаў у Менску Максім нікому не казаў пра тое, што яго маці - так блізка. Ці хацеў ён наведаць магілку? Так, магчымасці не было. Гародня - пад немцамі. А каб была магчымасць? Няўжо не прыехаў бы?

І ўсё ж гэтая назва – Гароднея - ёсць у Максімавых творах. Няхай адзін толькі раз. Пра тое хараша напісаў гродзенскі гісторык Аляксандр Госцеў: "Перачытаем яшчэ раз першы на Беларусі паэтычны пераклад урыўка са "Слова аб палку Ігаравым" - "Песню пра князя Ізяслава Полацкага", 1910 год. Ці выпадковы выбар урыўка? Бо не аб Нямігі крывавых берагах тут ідзе гаворка. Значыць, не аб Менску, які паэт, безумоўна, любіў, успамінаў ён у той момант. Не. Максім. Багдановіч стварыў маленькі шэдэўр, заключны радок якога знянацку, з асаблівай вастрынёй выкрывае боль і нуду паэта па роднай старонцы: "...І жалобна, сумна трубы ў Гароднi граюць".

Не хацелася б, каб гэта - пра Гародню і Максіма - успрымалася як наш гарадзенскі правінцыйны патрыятызм. Бо, урэшце, сапраўдны патрыятызм менавіта такім і бывае: "...к тому месту..."

### ***Стужка-эстафета***

Так ужо склалася, што святыні ў Гародні падзяліліся па нацыянальнай прыкмеце. Для беларусаў гэта найперш Каложа і магіла Марылькі, для палякаў — тое, што звязана з імем пані Ажэшковай. Вось толькі ў расейцаў, хоць і пачуваюць яны сябе гаспадарамі, сваёй святыні тут няма. Да Марылькі прыходзяць нямногія, бо і беларусаў нямнога. Нехта з іх прынёс на магілку кветкі і абвязаў іх стужкай. Тонкім паяском. Бел-чырвона-белага колеру. І кожны з нас, хто сюды прыходзіць, выкідае ўжо засохлыя кветкі і абвязвае паяском свае. І мае бледныя астры таксама абвіла тая стужка-эстафета. Бачыш, Марылька, ты ёсць і будзеш у памяці менавіта тых, хто шануе беларускую мову і нашы спрадвечныя колеры-сімвалы. І сама ты, якая была так далека ад беларускасці, стала яе сімвалам.

### ***Нiначка***

Не на шчасце з'явілася ў гэты свет адзіная дачушка Марылькі. Стала міжвольнай прычынай невылечнай хваробы маці. Памёрла, маючы ўсяго толькі восем месячыкаў. У анёльскім узросце. Як цяжка было вытрымаць Марыльцы расстанне з дзецьмі ў тое апошняе яе лета! Яна ж ніколі з імі не расставалася. Усё было зроблена, каб адпачыла, каб вылечыць ад хваробы, ад якой не лячылі.

Асаблівы клопат маці - пра немаўлятка. "'Больш за ўсё ў мяне крывёю душа абліваецца па Нiначцы. Вочкі яе блакітненькія, так у

мяне перад вачыма заўсёды і стаяць", - з ліста да мужа. Колькі скрухі ў гэтым прызнанні, колькі непапраўнага гора!

Як цудоўна трымаецца Адам Ягоравіч. Захапляюць не столькі метады ягонага выхавання, колькі тое, як ён апавядае пра гэта ў лісце да Марылькі: "Пакрычаўшы хвілін дзесяць з перапынкамі, быццам абмяркоўваючы мае доказы, яна, з'яўляючыся дзявіцай ад прыроды разумнай, але толькі сапсаванай дрэнным выхаваннем, прыйшла да вываду, што па сутнасці намнога зручней спаць у калясцы, дзе нішто цябе не турбуе, чым на руках, ведаючы, што ўсё роўна цябе пакладуць у каляску, і ты мусіш праз сон лавіць гэты момант, каб выказаць неразумны пратэст". Колькі тут светлага гумару, каб падтрымаць, развесяліць няшчасную маці. А за ўсім - глыбока схаваная скруха. Ды трэба трымацца. А гэта Адам Ягоравіч умеў заўсёды.

Адзіны фотаздымак Ніны - у труне. Сапраўдны анёлачак. Светлая, яшчэ бязгрэшная душа. Нібы заснула. Нібы не ў труне, а ў дзіцячым ложачку. Ці памятаў Максім гэты тварык, гэтае - назаўсёды - супакаенне, што адбілася на ім? Калі і не памятаў, то фотаздымак быў напамінкам.

Апошняе дзіцятка Марылькі першым пайшло ўслед за маці.

### *Якою яна была?..*

"Маці паэта - сама прыгажосць і дасканаласць", - так пра Марыльку паэтка Данута Бічэль-Загнетава. Хораша, проста і ўзвышана.

Паслухаем яго, хто ведаў Марыльку найлепш, Адама Ягоравіча: "Рухавая, заўсёды вясёлая, з іскрыстымі вачамі, з незвычайна вялікаю касою, яна да ўсяго ж валодала пяшчотай кацяняці і той чароўнай прыгажосцю, якую называюць жаноцкасцю". Як бачым, галоўнае ў яго аповедзе - не партрэтная дакладнасць, не апісанне рысаў твару, фігуры, а тое незвычайнае ўражанне, што яна выклікала і што ён захаваў праз столькі гадоў. Вочы - якія? якога колеру? вялікія? круглыя? якія? - "іскрыстыя"! Калі здольныя сыпаць іскры - прамяністыя, жывыя і, безумоўна, - прыгожыя. І тады сапраўды няважна якія. Адзіная канкрэтная дэталь - незвычайна вялікая каса. Сімвал жаночай прыгажосці.

Як усё ж такі добра, што гэты педант не стаў з фатаграфічнай дакладнасцю выпісваць яе аблічча, вымерваць яе постаць. Тады мы не ўбачылі б у ёй гэтага галоўнага - жаноцкасці. Якім ён усё ж быў разумным! Ён здолеў паказаць яе нам такой, якой бачыў сам, якой

захапляўся, якую кахаў. Так, гэта каханне вадзіла ягонай халоднай рукой, калі ён пісаў успаміны. Ну і што, што яе ўжо даўно не было? Ну і што, што ўжо былі іншыя? Ён кахаў яе. А каханне не памірае.

І далей - пра тое, што ёсць толькі мёртвым адбіткам, але што мы сёння адно і маем - фотаздымкі: "Яе фотакарткі не даюць ніякага ўяўлення як аб яе душы, так і аб выглядзе знешнім. Гэта - маска, пазбаўленая жыцця; а яна была ўся - ясная, спеўная, рухавая, усцешная, захопленая..." Тое ж, што мы ведаем і пра адзіную выяву Марылі Верашчакі: ніякага падабенства з арыгіналам.

Напэўна, гэта і зразумела. Толькі людзі з мармуровай прыгажосцю і душы, і цела здольны быць на фотаздымках гэткімі ж, як і ў жыцці. Як, зрэшты, той жа Адам Ягоравіч.

## *Адзіны грэх*

"Адзінае, у чым яна была непапраўна перакананая і крышку грашыла супраць справядлівасці, дык гэта ў тым, што лічыла сваіх дзяцей непараўнальна лепшымі за ўсіх іншых, якіх ведала". Ах, Адам Ягоравіч! Як жа тонка, далікатна ўмеў ён узвысіць жанчыну, сапраўды вартую таго, і пра сябе не забыцца. Бо як жа: гэтая жанчына яго жонка, яго абранніца, маці яго дзяцей. Якой значнасці, гонару дабаўляе гэта яму! Яго кахала такая, бездакорная ва ўсім жанчына! Значыць, і ён - бездакорны.

Кажучы пра гэты "грэх" Марылькі, Адам Ягоравіч захапляецца ёю. Захапляецца тым велічным пачуццём мацярынства, якое яна так арганічна пераплятала з вялікім каханнем да яго. Пра каханне, пяшчотнае, глыбокае, сапраўднае - у лістах. Пачуццё ўзмацняецца ўсведамленнем таго, што ён ім вельмі патрэбны. І нават так: без яго і ім не выжыць. Як не выжыць няшчаснай удаве з малымі дзеткамі з адзінага вядомага твора Марылькі "Перад калядамі".

"Апроч мяне, маці нікому дзяцей не давярала, а дома ад іх не адыходзілася",- які гонар. Найперш за сябе: давярала дзяцей толькі яму. Бо ён, бацька, варты такой маці сваіх дзяцей.

І гэта - адзіны грэх? Бязгрэшная! А значыць - святая...

## *Апошнія месяцы Марылькі*

Сарамлівасць. І гэта маці чатырох дзяцей? Толькі калі пасля нараджэння Ніны ёй стала зусім блага, дазволіла лекару агледзець сябе. "Да таго моманту, як сцвярджае Адам Ягоравіч, жонка з

пачуцця жаночай сарамлівасці не дазваляла сябе паслухаць ніводнаму лекару".

Яе апошні ліст - бы не яе ліст. Раздражненне, папрокі. Ёй балела. Боль быў неадступным, пакутлівым, жахлівым. І тэмпература. Знясільвала. Звесткі ў лістах, што яна насылала пра тэмпературу, уражваюць: 38 гэта добра! Яна задыхаецца. Ёй холадна. На вуліцы лета. А яна мусіць кутацца ў паліто. (Тое, што мінулым летам у Менску справіла і якое так многа клопатаў прынесла?) Невыносны боль цела, невыносны боль душы: пра дзяцей. Боль знішчаў яе.. Гэта ўжо была не яна. "Што зрабіла хвароба з гэтым вясёлым, жыццяздольным, прыгожым і целам і душою, цудоўным стварэннем? Жахліва ўспамінаць яе воблік... Скура ды косці. Уся згарэла ад гарачкі. І гэтая скурчаная ў клубочак фігурка, што сядзіць на ложку з прыціснутымі да ўпалых грудзей каленямі, каб заглушыць бясконцы кашаль, ад якога калаціўся гэты жывы, спакутаваны клубочак?" Адчуваеце, Адам Ягоравіч не толькі спачувае, ён пакутуе, яму баліць таксама.

Адна з апошніх яе думак, выказаная ізноў жа яму: "Навошта мне доўга жыць, калі я была такой шчаслівай..."

Яе апошнія месяцы былі часам згасання. Ужо не яе часам.

### ***Паэт пачынаецца з болю***

У Доме Максіма ў Гародні - гаспадыняй паэтка Данута Бічэль-Загнетава. Яна найбліжэй да Максіма. І да Марылькі. Менавіта ад яе пачула такую парадаксальную па сутнасці, але абсалютна праўдзівую думку: сваёю смерцю маці нарадзіла Паэта. Бо паэт і сірата - сінонімы. Бо Паэт пачынаецца з трагедыі. А яна гэтую трагедыю засланіла б. Магчыма, гэта быў бы талент, але - выпеставаны, прыгладжаны, цяплічны.

Яна, што так любіла сваіх дзяцей, што не адпускала іх ні на крок, дазволіла б Максіму зведаць той боль, тыя пакуты, якімі ён жыў? Якія прапускаў праз сваю душу, гартуючы яе, ачышчаючы? Боль адчужанасці, адзіноты ў сям'і - гэтага не было б. Няшчаснае каханне. Яна б спачуваннем, спагадаю, разуменнем ратавала б яго, а не вершы. Яе апека звязала б яму крыллі. Яна занадта любіла сваіх дзяцей, каб дзяліць іх з некім. Хай нават з Радзімай. Урэшце, што для яе - Радзіма. Усё самае велічнае і значнае ў яе жыцці - яе дзеці.

Яна адпусціла б Максіма на Беларусь у 1911 годзе? Магчыма. Але следам, напэўна ж, - сама. А зрэшты, навошта ім ўвогуле патрэбна было б пакідаць Беларусь? І не было б у Максіма Беларусі як чароўнай мары, была б мо не лепшая рэальнасць.

Яна адпусціла б Максіма на Беларусь у 1916 годзе? Ніколі! У пекла, у прыфрантавы горад?!

Ён паміраў бы адзін у Ялце? Ніколі! Яна адчула б сэрцам сваім. Гэта не "стары варабей" Адам Ягоравіч, у якога - справы. У яе самыя важныя справы - яе дзеці. Ды яна б здолела пешшу дайсці туды. І даглядала б, і суцяшала б, і ратавала б...

Сваей смерцю адпусціла дзяцей на волю. І ў іх выраслі крыллі.

Не ўратавала сябе, каб уратаваць Беларусі Паэта.

За тое, што Беларусь мае Паэта, мы мусім дзякаваць лёсу, што забраў у яго маці!?

## ВЯРНІСЯ ДА СВАЁЙ ЗОРКІ

Вясной 1995 года ў Новым замку адбылася выстава берасцейскай мастачкі Анастасіі Фецісавай. На карцінах - вернутыя ўяўленнем творцы Храмы старога Бярэсця, па-варварску зруйнаваныя чужынцамі. Але найбольшае ўражанне зрабіла на мяне карціна "Дыялог". Твар жанчыны, прыгожай, інтэлігентнай, у залатым ранне-восеньскім веку, валасы хвалі, тонкія, далікатныя рысы, глыбокія вочы. А над ёю ў бяздонным небе Зорка. Бяссloўны дыялог, калі словы і непатрэбныя, калі размаўляюць душы...

## ДЫЯЛОГ

*Пасля наведвання выставы берасцейскай мастачкі Анастасіі Фецісавай*

Размаўляю са светам
мовай фарбаў і ліній,
далікатных і тонкіх,
як дзівосная мроя,
як празрыстая ява,
што праз дождж пранікае,
светлы "Дождж над кляштарам..."
Не знаходжу на свеце
я праз безліч сустрэчаў
тых, хто здольны развеяць
недавер, боль, тугу.
І табе, мая зорка,
дзе прытулак сустрэну,

шлю цяпло свайго сэрца,
шлю пяшчоту сваю.

Мы прыходзім у гэты свет знекуль, з невядомасці, ці, бясконцасці, блукаем тут, хто па сцяжынках, хто па дарогах, хто па пакутах. І забываемся часта, што ўрэшце павінны будзем вярнуцца ў тую ж бясконцасць. А гэта ўсё ж патрэбна - памятаць пра вяртанне і вучыцца рабіць гэта ўжо тут, зараз. Вяртацца ў маленства, у нашы вёскі, што гінуць, у нашы праўдзівыя месты, што даўно зруйнаваны, у першы снег. Вядома, вяртацца не на ўзроўні рэальнага дзеяння. Бо тое - папросту немагчыма. Застаецца - вяртацца ў мроях. Навошта? Каб паспець за адведзенае тут адчуць сябе на сваёй зямлі, адчуць сябе не бязродным, не бяздомным, паспець палюбіць і пакахаць. Ці хаця б зразумець, што гэтыя намаганні – паспець - марныя. І тады спадзявацца на сваё шчасце там, у зорным небе.

Свет Анастасіі Фецісавай усхваляваў якраз гэтым - спробай вяртання ў тое, колішняе Бярэсце, якое сталася ўсяго толькі міражом, блакітна-ружовай марай. А мо і сапраўды, існуе толькі тое, пра што мы памятаем. Няхай яго няма ў сапраўднасці, але калі мы пра нешта памятаем, то для нас гэта нешта існуе. "Под небом голубым есть город золотой..." А ў горадзе мноства дзівосаў, якія кожны стварае сабе сам. Найбольшае з цудаў - калі ў тваім горадзе ёсць ён, каханы, адзіны. Найсвятлейшае, калі ён думае пра цябе, найгоршае, калі ўсё між вамі перакрэслівае здрада. І самае страшнае, калі ты хочаш назаўсёды пакінуць гэты блакітна-ружовы горад, гэты свет. Не спяшайся, пачакай! Вярніся да сваёй Зоркі. Яна абавязкова недзе ёсць у высокім небе. Яна абавязкова зразумее, і, вер, дапаможа, пашле табе сваю пяшчоту, цяпло. І ты па-новаму адчуеш, што ты ёсць, і гэта - шчасце. Няхай ваш бясслоўны дыялог доўжыцца столькі, колькі трэба будзе душы дзеля супакаення. Няхай ён узнаўляецца заўсёды, калі ізноў стане невыносна. Няхай твая Зорка вучыць цябе вяртацца да сябе, а мо і да яго, хай вучыць, як знішчыць нявернасць і прайсці праз вернасць. Здаецца, знайшла. Ці, дакладней, успомніла паэтава, менавіта - прайсці праз вернасць. Вось тое, чаго не хапае, што страцілі. Страцілі абсалютна свядома, з лёгкасцю. Бо навучыліся без ваганняў, без сораму нават, як непатрэбнае шалупінне, адкідаць усё, што патрабуе душэўных высілкаў, што прымушае адмовіцца ад ярка-салодкага, лёгкага, даступнага, але ж - непраўдзівага, пустога і - ці патрэбнага? Адмовіліся ад таго, што робіць нас людзьмі. І верыць развучыліся. Бо самі - нявераныя. Страшэнна баімося пакутаў здрады, баімося быць падманутымі. Бо гэта абражае, гэта балюча. Таму вырашаем: лепш абмануць, чым абмануцца.

Дыялог Анастасіі Фецісавай са светам, з намі - гэта не толькі спроба паказаць нам, што мы ўжо страцілі, але і папярэджанне - не страціць тое, што яшчэ маем.

Вера, вернасць, вяртанне. Вернемся?..

## НА ШЛЯХАХ ДА ХАРАСТВА

Гальяшу Леўчыку суджана было пабачыць надрукаванай толькі адну сваю паэтычную кніжку, з дня выхаду якой у 1997 годзе споўніцца 85 гадоў. У Вільні ў друкарні "Зніч" у 1912 годзе быў выдадзены зборнік з традыцыйнай з адбагушэвічаўскіх часоў назвай "Чыжык беларускі". Як ні клапаціўся паэт пазней пра свае падрыхтаваныя да друку кніжкі, а гэта паэтычны зборнік "Беларускі жаваранак", кніжка "Мудра прыгаворка — саладка і горка", што складалася са 135 трыялетаў, зборнік памфлетаў, у якіх былі намаляваны сатырычныя партрэты палітычных лідэраў, "Камплект дзеячоў" і пераклад паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды" - яны так і не пабачылі свет. Пра гэтыя клопаты, надзеі, мары, што змяняліся пазней расчараваннем і болем, даведваемся з лістоў паэта да У. Знамяроўскага, І. Маразовіча, у Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні. Ён тлумачыць свае стаpанні вельмі кранальна, даверліва: "Як умру, то й так усё прападзе". А ён, зразумела, марыў, каб плён ягонай працы не прапаў намарна.

Гальяш Леўчык усё жыццё шукаў тую надзейную аснову, абапіраючыся на якую чалавек здольны быў бы пабудаваць сваё шчасце, дасягнуць так жаданай гармоніі. Пачаў паэт з напоўненых глыбокай тугою вершаў, арыентуючыся на "забыты шлях", куды скіроўваў Максім Багдановіч. "Чыжык" - бясспрэчна, "праграмны верш" (Ул. Калеснік) першага зборніка. Матыў фальклорны, вельмі прасценькі, нават прымітыўны (яго паэт цалкам захоўвае ў пытаннях-зваротах: "Чыжык, чыжык, дзе ты быў?") перамяжоўваецца, разрываецца матывам узнёслым, велічным, калі перад намі раскрываецца карціна народнага жыцця — шырокая, панарамная: "Я на Белай Русі жыў: бачыў слёзы, жалю крык..." Паэт быццам імкнецца схіліць у нейкае іншае рэчышча балючую споведзь, абрывае яе, пачынае ізноў, ужо на новым вітку, ускладнёным ранейшым прызнаннем, сваё бясконца звычайнае: чыжык, чыжык...? А чыжык ізноў, не прымаючы знешняй лёгкасці, гуллівасці пытальнай інтанацыі, скіроўвае наш погляд на значнае, велічнае, балючае, сцвярджае, што і ў песнях, крыллях народных, узнімаецца той жа

матыў тугі, жалю. Што стварае найбольшае ўражанне ў гэтым вершы? Мо і сапраўды, "рознасць маштабаў аб'екта і суб'екта ўспрымання" (Ул. Калеснік), калі маленькі шэранькі аскепачак прыроды становіцца выразнікам народнай нядолі? А мо апеляцыя да чытача, якая выразна чуецца, падкрэсліваецца ў апошняй страфе: "Па магілках я блудзіў, //Па курганах ля дарог, // З жалю вытрымаць не мог!.." Калі ён, маленькі Божы птаха, "з жалю вытрымаць не мог", то як чалавек, чыя душа прывязана, прыкута да гэтай зямлі, павінен рэагаваць на бясконцасць панавання горкай нядолі? Як ягонае сэрца не рвецца ад гора?

"Падае лісце" (Nocturno) - адзін з класічных "вечных плачаў" аб старонцы, дзе кожны вобраз: "пажоўклае лісце", "холад, якім дыша зямля", змоўклыя птушкі, сумныя дрэвы - нагнятаюць атмасферу неадольнай тугі, жалю. Nocturno - песня ночы, а ноч, халодная, уладарная, насоўваецца, каб панаваць на гэтай зямлі, тчэ бясконцую мелодыю знікнення, паміранне. Жыццё прыроды і жыццё чалавечае пераплятаюцца ў сумнай музыцы, у апошнім танцы лісця, што падае, падае, "падае лісце пажоўклае". Адчуваецца стомленасць, немажлівасць у адным рытме, без зрываў вытрымаць гэты бясконцы колапад. Яго падтрымліваюць аднагучныя а-а: па-да-е, якія ўсё ж зрываюцца, пераходзяць у рэхавы водгук - э. Музыка, танец, сатканыя з перажывання вялікага болю, пераадолець які немагчыма. Бясконцасць, апантанасць і нейкая трагічная наканаванасць пачуцця маркоты, безумоўна, аддае празмернасцю, экзальтаванасцю. Але адначасна і шчырым памкненнем выбрацца з адвечнага колазвароту пакутаў.

Адзінота чалавека сярод людзей, у свеце, дзе ўсе мы, як дрэвы, хінемся адзін да аднаго, дакранаемся, але не пераплятаемся, не зліваемся сутнасцю сваёю, асновай - галоўнае ў вершы "Ніхто маіх не знае слёз". Верш пераплятаецца з лірычнай навэлай Ядвігіна Ш. "Бярозка", з апошнім пытаннем няшчаснай Марылькі, гераіні твора: "А чаму паміж людзей я не знайшла, каму пажаліцца?"

Гэты матыў безнадзейнай адзіноты пераносіцца, пераліваецца з верша ў верш, паварочваецца нейкімі новымі гранямі, бо паэт імкнецца ўсё ж дайсці да разумення: чаму?.. "Чаму ж я ў журбе?..." У гэтым вершы разуменне сваёй далучанасці да ўсеагульнага болю, сцверджанне немагчымасці асабістага шчасця, долі, калі "ўсюды боль ходзе па бедных людзях". А мо прычына ў нас? Мо прычына ў кожным? Мо гэты ўсеахопны боль валадарыць ад таго, што "ўсюды ў сэрцах пануе зіма"? Сэрца ж чалавечае павінна выпраменьваць цяпло, саграваючы іншае сэрца. А ўзамен атрымоўваць промні ад

сагрэтых у ім жа душаў чалавечых. Але яны, гэтыя сэрцы, заледзянелі, счарсцвелі. Таму так часта апелюе паэт не да чалавека, не да сябра, не да прыроды з яе магчымасцю, гатоўнасцю ўсё прыняць, зменшыць боль, а да кволага чалавечага сэрца. Надзея на выратаванне прыходзіць, увасабляючыся ў спрадвечнай крыніцы, стваральніку цяпла, святла, жыццёвай моцы - "свет - сонейку"; "што абдыме цеплатой і ласкаю" (Верш "О сэрца, ты не плач!").

У творчасць Гальяша Леўчыка ўсё часцей уваходзяць вобразы-сімвалы красы як надзеі на абуджэнне, выратаванне душы. І прыходзіць разуменне: жыццё без кахання - гэта страчанае жыццё. Бо калі сэрца маўчыць, калі душа спіць - хіба гэта жыццё? "Я сэрцам спаў," - такое страшнае прызнанне выказана ў вершы "Цёмная кветачка". Гэта стан надзвычайнай маркоты, калі чалавек не звязаны ні з кім у гэтым свеце, калі і думкі ягоныя лунаюць далека, адасоблена, губляюцца дзесь у прасторы, блукаюць "па неба... палетку". Але ўсё тое - у мінулым, бо адбыўся цуд, што змяніў найперш яго, затым - усё вакол. З'яўленне яе - як Прышэсце Хараства. Таму яна і ўвасоблена ў вобразе кветкі. Яна, адзіная, выключная, нёзвычайная, хай нават знешняй "красою так, як больш там кветак, не зіяе". Яна - каханая, таму здольна асвятліць усё вышэйшай прыгажосцю. Але шчасце, прыгажосць, якія здольна дараваць зямная жанчына, - прывідныя, хуткаплынныя. Таму і цёмная кветачка, бо за цемнатой яе хавалася не велічная таямніца глыбіннай, бясконцай пяшчоты, а непраглядны холад бяздушнасці: "Яна ж была... з камення".

Гальяш Леўчык праз усё жыццё шукаў шляхоў да красы, да гармоніі. Калі тое, што здавалася ідэалам, паварочвалася іншымі сваімі, далека не ідэальнымі гранямі, паэт скіроўваў на іншы шлях. Урэшце ягоныя пошукі прыводзяць да захаплення метадызмам. Гэтая філасофска-рэлігійная плынь, пэўна, прывабіла сваёй гуманістычнай сутнасцю, узвышэннем чалавека, які, нават саграшыўшы, не страчваў боскага вобліку, заставаўся разумным, вольным, здольным дасягнуць вышыняў, наблізіцца да пазнання Хараства. Гальяш Леўчык стварае пад уплывам метадызму дзве паэмы "Хараство" і "Чалавек", якія значна адрозніваюцца ад усяго, напісанага раней.

Паэма прозай "Хараство"- разнавіднасць эсэістычнага жанру, калі паэт імкнуўся ў пэўнай ступені паяднаць уласную мастацкую інтуіцыю са строгім эпічным рацыянальна-сістэмным пачаткам, сваю асабістую суб'ектыўнасць з аб'ектыўнасцю бясконцага працэсу пазнання Сусвету. Філасофія жыцця і мудрасць аўтарскага "я"

адлюстроўваюцца ў творы адной непадзельнай мастацкай катэгорыяй "Хараство".

Характар асэнсавання гэтай эстэтычнай з'явы Гальяшом Леўчыкам досыць метадычны, у значнай ступені сістэмна-вызначаны самім унутраным глыбінным сэнсам гэтага "феномену". Хараство разумеецца як суцэльнасць у межах "Вялікай Цэласці, званае Сусветам". Адно з'яўляецца прычынай, гарантам, перадумовай і вынікам другога. Прычым само Хараство з'яўляецца, акрамя таго, і этычнай катэгорыяй, бо "Дабро гэта Хараство ў дзеянні". У вышку аўтар гаворыць аб трыадзінстве Хараства, Дабра і Сусвету. Усе гэтыя паняцці рухомыя і ўзаемазалежныя, а таксама ў чымсьці тоесныя. Дабро і Сусвет цэнтральныя, вызначальныя фактары. Хараству адводзіцца важнае месца ў гэтым трыадзінстве. Яно з'яўляецца непазбежным прамежкавым станам паміж Дабром і Сусветам. Гэта надзейны сродак, які нібы матэрыялізуе і рэальна прадстаўляе ў адчуваннях і пачуццях тое недасягальнае, што ёсць сама бясконцасць і "бясчас". Дзякуючы гэтай уласцівасці Хараства чалавек не адчувае "ні радасці, ні суму, ні болю", калі звычайныя, не асвечаныя вышэйшымі сіламі пачуцці знікаюць. Іх месца займае нешта больш значнае, лучнасць з бясконцасцю, а разам з гэтым нязменным парадкам, з вечнай суцэльнасцю з'явішчаў, калі нават сам хаос і беспарадак становіцца адваротным бокам Вялікае Цэласці, арганічна ўрастае ў яе, зліваецца з ёю. А гэта і ёсць вышэйшая гармонія. Энергія яе такая магутная, што здольна дасягнуць сэрца кожнага чалавека. Адбываецца і адваротны працэс: душы чалавечыя выпраменьваюць святло ў Сусвет. Узнікае ўсеагульнае паяднанне, "калі малы чалавек і велізарнае сонейка - частка Аднае Вялікае Цэласці".

Ідэйна-тэматычна вельмі блізка прымыкае да твора "Хараство" і паэма ў прозе "Чалавек". Адзіным дамінуючым звышцэнтрам абодвух твораў з'яўляецца "Бесканчатны і Беспачатны Усясвет" ("Чалавек") або "Вялікая Цэласць, званая Сусветам" ("Хараство"). Але калі ў першай паэме Сусвет знаходзіцца ў асноўным тэкстуальным пласце, то ў другой ён у падтэксце, ці нават у звыштэксце. Асноўны план у апошнім творы ўжо не ў расшыфроўцы звязкі "Хараство - Сусвет", а ў іншым ключы: Сусвет – свет - чалавек.

Рэфлексіі наконт Аднае Вялікае Цэласці змяняюцца роздумам наконт быццам бы маленькай яе часцінкі - Чалавека. Калі там была спроба нібы перастварэння Сусвету, каб разабрацца ў яго сутнасці і дайсці да разумення крыніцаў прыгажосці і гармоніі, то тут галоўнае - нараджэнне асноўнага чынніка, таго, хто б здольны быў адчуваць гэту

велізарную веліч і моц, звышсілу і звышхараство. І гэтым галоўным выканаўцам такой высокай місіі з'яўляецца менавіта чалавек, "прыгожы ў сваёй Вялікай Тайніцы і ў сваім трагізме".

Матыў трагізму ўзнікае тут невыпадкова. У паэме "Хараство" гэтага матыву быць не магло. Там была "дзіўная лучнасць у прывідным хаосе ці беспарадку", што прадыктавана асноўнай ідэяй твора, калі сам Сусвет - увасабленне той Цэласці, дзе "няма ні радасці, ні суму, ні болю..." У другой паэме Чалавек выходзіць у свет на "дарогу жыцця", якая ніколі не бывае гладкай, роўнай. Таму тут заканамерна гучыць ужо "музыка радасці і болю". Не толькі радасці, але і болю. Музыка "любасці і суму".

Боль і адчай узнікае сярод людскога жыцця, сярод зямнога граху, калі нянавісць "мізэрных людзей, варожых для Чалавека", хоча пазбавіць яго адчування далучанасці да таямніцаў Усясвету. Але ці такімі ўжо магутнымі з'яўляюцца варожыя Чалавеку сілы, каб знішчыць гэтую вялікую еднасць? - пытаецца аўтар. Безумоўна не, бо найвялікшае "акружэнне Чалавека ёсць Светлая, Ясная Думка - Мысль". Яго з яе магутнай верай у "тварэнне Дабра, бо ці ж тварэнне Дабра мае канчатак?" І гэга ўсё робіць чалавека вольным, свабодным і несмяротным у гэтым свеце зямнога зла і нянавісці. Тады няма "канчатку яго дарогі".

Канцэпцыя паэмы "Чалавек" у выніку даволі такі парадаксальная. Песімізм, нявер'е ўвесь час аспрэчваецца, перамагаецца аптымізмам. Абедзве гэтыя з'явы ўяўляюць адзіны працэс, у якім яны - дзве антыноміі, і якія адна без другой існаваць не могуць. "Песімізм" свету і, умоўна кажучы, "звышаптымізм" Сусвету (а ў ім няма радасці і болю) маюць сваю логіку. Калі ў зямным жыцці трагедыя - асноўны неадменны факт, то ў існаванні Сусвету гэта абсалютна неістотна, бо моц і сіла Веры ўздымае праз Мысль-Думку Чалавека па-над усім звычайным і чалавечым, зямным, пераходным, па-над радасцю і скрухай. І нездарма Чалавек тады перарасце сябе самога, узвысіцца, стане "Зверхчалавекам" (зразумела, не ніцшаўскага кшталту), далучыцца да "Вялікага, Адзінага і Цэласнага", калі імкнецца ён усё "наперад і вышэй".

Хоць у творы ёсць і пэўны дыдактызм і рыторыка, але ўжо само імкненне ў жанры вольнай эсэістычнай замалёўкі з пэўнай сюжэтнасцю выказацца па такіх глабальных праблемах ёсць факт знамянальны для творчасці Гальяша Леўчыка на шляху да разняволення мастацтва ад канонаў і догмаў, калі на аснове гэтага ствараюцца "прыгожыя краскі паэзіі".

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

# *ПАД ЗОРКАЙ АЛАІЗЫ*

Усё лета 1996 года прамінула пад яркай зоркай Алаізы. Пэўна, праўда тое, што ва ўгодкавыя часы яны ізноў набліжаюцца да тых, хто іх шануе, памятае. Яна была ўсюды: пранікліва зазірала сваімі прамяністымі вачыма з партрэтаў, са старонак кнігаў, газетаў. Усюды мне гучала яе слова, то палымянае, упэўненае: "Веру, братцы...", то шчымліва-балючае пра адзіноту на чужыне, то светла-захопленае пра прыгажосць дзяўчыны-кветкі Касі. Таму і ўзнікла неадольная прага ісці па яе дарогах...

## ЯЕ ДАРОГІ

### *"Крыж міласэрнасці"*

Пісьменніца Валянціна Коўтун назвала свой раман пра Цётку "Крыж міласэрнасці". Гэтая назва як нельга лепей адлюстроўвае сутнасць асобы Алаізы Пашкевіч. Яна - наш крыж, сімвал ахвярнасці, пакутаў і веры.

### *Ах, Алаіза, Алаіза!..*

Тонкая, далікатная постаць. Такая выкшталцоная паненка ў шляхетных строях. Як уявіць цябе на барыкадах, мітынгах, у абуджаным да змагання натоўпе? Дачка гаспадара, што меў 100 гектараў зямлі ды яшчэ 200 здаваў у арэнду. Не на той шлях стала, пра які марыў бацька.

Гэта і пра яе радкі Дануты Бічэль-Загнетавай: "Пышна магла красавацца, як маладыя суседкі, звабіла доля паэткі". І не проста паэткі, а паэткі-беларускі, змагаркі за Адраджэнне Беларусі. Усюды і заўсёды першай, апантанай. А магла проста спяваць пра тое, што спрадвеку блізка жанчыне: пра кветкі, каханне. Магла б стаць нашай Ахматавай: талент магутны. Душа ж прагла нечага іншага.

Ах, Алаіза, Алаіза...

### *Пра крывавы царскі рэжым*

Мяне заўсёды здзіўляла прычына, якая дала магчымасць Цётцы вярнуцца на Радзіму з эміграцыі: у 1911 годзе Алаіза выйшла замуж за літоўца Сцяпонаса Кейрыса, змяніла прозвішча. Каб пазбегнуць рэпрэсій, у царскай Расіі дастаткова было змяніць прозвішча? І не хавацца недзе на дне сямейнага шчасця, не адыйсці ад грамадскіх спраў, а быць у самым цэнтры адраджэнскага руху. Друкавацца, выдаваць часопіс. Ці можна сабе ўявіць, каб вораг камуністычнага рэжыму мог, эміграваўшы з СССР, наведваць сваю Радзіму нелегальна, няхай нават і па чужым пашпарце, як гэта не раз рабіла Цётка, і пасля легальна вярнуцца, змяніўшы прозвішча? "Караючы меч" знаходзіў "адхіленцаў" і там, на чужыне. Нагадаем пра забойства Троцкага, гвалтоўную смерць Францішка Аляхновіча. І нават тых, хто, паверыўшы бальшавіцкім уладам, вярнуўся на Беларусь у 20-ыя гады і сумленна служыў беларускай навуцы, культуры: Вацлаў Ластоўскі, Максім Гарэцкі, Уладзімір Жылка... - знішчылі ў 30-ыя гады. Ці застаўся хто з тых беларускіх рээмігрантаў пасля крывавых 30-ых?

Якім жа мяккацелым да сваіх ворагаў падаецца ў такім параўнанні крывавы царскі рэжым.

### *Яшчэ адзін крыж*

У гады імперыялістычнай вайны Цётка - сястра міласэрнасці. Працуе ў ваенным шпіталі. Дарэчы, успомнім, тут адбылася сустрэча з параненым Максімам Гарэцкім. Усюды, дзе небяспечна, цяжка, а для яе змучанага сухотай цела тым больш, - яна павінна быць! Узваліла на сябе крыж міласэрнасці і несла яго да канца. Але ж у шпіталі маглі працаваць дзесяткі, сотні іншых жанчын. Бо яна ж на той час засталася ледзь не адзінай беларускай паэткай, пачала пісаць сапраўды класічную прозу. Была яшчэ, канешне, слаўная Зоська Верас, шчырая мурашка-працаўніца на ніве Беларушчыны. Ярка ўспыхнула сваёй "Курганнай кветкай" Канстанцыя Буйло, але гэтак жа хутка і адцвіла, адышла. Цётка фактычна засталася ў беларускай літаратуры адна. Але яна няздольная была ашчаджаць сябе. Здольна была на адно - гарэць.

### *На Вялікім Сходзе*

Снежань, 1917 год. Калі б Цётка дажыла да гэтага часу, а ёй не хапіла меней году, то ніякія доказы яе рэвалюцыйнасці не дапамаглі б

ёй застаца ў беларускай літаратуры ў савецкія часы. Бо ўсё, што звязана з арганізацыяй і працай 1-га Усебеларускага кангрэсу, замоўчвалася так надзейна, што цэлыя пакаленні беларусаў нічога не ведалі нават пра гэты сапраўды народны Вялікі Сход.

Цётка не магла не ўдзельнічаць у працы гэтага форуму. Яна, паплечніца Луцкевічаў, Вацлава Іваноўскага, Вацлава Ластоўскага, адна з арганізатараў Беларускай сацыял-дэмакратычнай работніцкай групы, бачыцца мне ў прэзідыуме з'езду. Калі б я не ведала, што на той час яе ўжо не было, то ў вобразе гераіні апавядання Максіма Гарэцкага "1-ы Усебеларускі з'езд 1917 году" ўяўляла б яе - беларуску, патрыётку, палітычную дзяячку, якая так палымяна агітуе за вольную Беларусь, над якою пасля чыняць здзек бальшавіцкія каты. Удзел у гэтым з'ездзе - найпершы доказ варожасці да савецкай улады, што не дароўвалася.

### *У часы БНР*

Колькі працы чакала яе ў часы БНР! Калі былі адчынены настаўніцкія курсы ў Вільні, настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы, выходзілі газеты, працавалі выдавецтвы газеты "Гоман", Беларускага народнага камітэта ў Вільні. А хіба магла яна не ўдзельнічаць у працы Беларускага клуба з тэатрам Францішка Аляхновіча? Яна такая таленавітая акторка! Адно толькі на Франку з "Хама" пані Ажэшковай сілаў ці пачуццяў не хапіла. Хоць урэшце, хто ведае, чаму нешта ў нас у пэўны час не ўдаецца. А мо яна працавала б у Мінскім пэдінстытуце побач з В. Іваноўскім, Б. Тарашкевічам, Я. Ф. Карскім? Я ж аддаю ёй пасаду, вартую яе: постаць Цёткі мне бачыцца сярод сяброў Народнага Сакратарыяту БНР. Яна магла б узначаліць аддзел па справах асветы, культуры. У гэтым урадзе не было ні адной жанчыны. Яна магла б быць.

### *Калі б...*

Гэтае мае "калі б" з працягам гучыць, разумею, наіўна. Але ў чалавеку заўсёды жыве жаданне не згаджацца з тым, што напрыканцы жыццёвай дарогі няма ніякага выбару, няма альтэрнатывы. Гэта быццам бы і справядліва, калі ўлічыць, што жыццё - гэта ўсеагульны рух, змены, пераход. Але жаданне адхінуць заслону небыцця - такое неадольнае, што верыш: яны, блізкія, родныя, недзе тут, побач з намі ці над намі. Бо не павінны ж сапраўдныя Апосталы нашага Адраджэння пакінуць Беларусь у такі

змрочны сённяшні час, калі "найгусцей прыпаў туман на прасторы Беларусі". Недарэмна Максім Гарэцкі ў гэтай сваёй рэалістычнай "фантазіі" сабраў іх "над распятай краінай". І пабудзілі Францыск Скарына і Францішак Багушэвіч найперш Цётку, "бо гэтая руплівая сяброўка склікаць умее найлепш за ўсіх". Яна, "поўная запалу і энергіі, хаця худзенькая і бледная", і сёння са сваёй недасяжнай вышыні заклікае беларусаў: "Мейце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова". Дзеля гэтага сапраўды трэба мець сілу і адвагу.

## *З Цёткай - у дарогу!*

Адна з пачынальнікаў беларускай нарысістыкі, Цётка пакінула свае дарожныя нататкі "З дарогі" і "Успаміны з паездкі ў Фінляндыю".

А спадарожніца яе - боль, хвароба, што не адстае ні на крок, як прывязаная. Думкі пераплятаюцца, супярэчлівыя, блытаныя, знішчаюць адна адну. Надзея то ўспыхвае, то згасае: "Думкі сілай ціснуцца да галавы: "Жыць, жыць!" "Памрэш", - нейкі жалосны голас адказвае з хворых грудзей.

Калі ж побач людзі, то бачым чалавека гордага, што не жадае чужога жалю, спачування, што здольны змагацца і пераадолець: "Не хачу відзець іх жалосці, бо веру, што ашукаю ваш жаль, людзі добрыя, што змагу цябе, смерць лютая, а цвёрдае жыццё вазьму ў свае рукі і буду з яго прасці доўгую нітку быцця, унізваючы, як белымі перламі, працавітыя дні неслухмянай долі". Якая Прага жыць! Якая ўпэўненасць у сваёй моцы! І якая прыгажосць слова! Паэзія!

На што б ні ўпаў погляд там, на чужыне, увесь час прасочваюцца параўнанні: як у нас, чым у нас... І такая чыстая, напраўду, белая зайздрасць прабіваецца праз яе апісанні-любаванні нямецкім ладам, чысцінёй, дагледжанасцю, гаспадарлівасцю. Нат і кароўкі тут - шчаслівыя! Якая ж роспачная крыўда наплывае, калі ўспамінае: як у нас. "Закрываю змучаныя вочы і бягу думкай у родную старонку да вас, кароўкі нашы палавенькія, замучаныя голадам..."

Паклікала па яе дарогах - і сыйсці цяжка: столькі хараства бачыш яе вачыма, столькі пакутаў-думак перадумаеш! І здаецца, сама мацней становішся, свае нягоды-напасці здалееш.

## *"Веру, братцы..."*

Побач з палымяным купалаўскім: "Што чалавек я, хоць мужык", (калі ж адчуў сілу грамады, то адчайна "захацелася" - "людзьмі звацца!"), загучала і Цётчына "Вера беларуса": "Людзьмі станем". Ці

сталі? Ці змяніўся мужык? Не, мужык не змяніўся. Не мог змяніцца, бо яго папросту не стала. Знішчылі. Мужыка-беларуса, што марыў пра сваю зямельку, аснову жыцця і дабрабыту, вывезлі ў Сібір, як "варожы элемент", што перашкаджае калектывізацыі. Ягоныя ж дзеці наладзілі на яго аблаву, як на дзікага звера, калі ўздумаў вярнуцца, каб легчы ў сваю зямельку. Пра гэтую горкую праўду кажа Быкаў. Няма мужыка. Застаўся калгаснік. І адзін вялікі калгас, што сваімі «здзяйсненнямі» і смешыць, і палохае свет. Тыя ж, што "выйшлі з народа", зайшлі так далека, аж у часы Цёткі: "Забываюць родную мову, адракаюцца бацькоў і братоў сваіх найбольш тыя, хто дайшоў навук, выйшаў у людзі. Яны няцёмны, пераймаюць чужое - дзеля карысці".

### *"Стану песняй у народзе"*

Стала. Велічнай песняй, узнёслай, таямнічай легендай, гераічнай баладай. Свеціць яркім полымем. Яна - Апосталка беларускага Адраджэння, - наш гонар і слава. Новая беларуская Ефрасіння, нясе свой крыж пакутаў, змагання, міласэрнасці. Жанчына-легенда Беларусі.

Вось каб яшчэ і народ быў здольным чуць гэтую песню!..

## "Я ЗАГРАЛА Б СМЕХАМ КВЕТАК..."

### *Пра яшчэ адну старонку творчасці Алаізы Пашкевіч*

Сярод магутнай плеяды нашаніўцаў, дзеячаў беларускага Адраджэння пачатку стагоддзя выдзяляецца велічная постаць Алаізы Пашкевіч, Цёткі - паэткі, празаіка, арганізатаркі беларускага друку, асветніцы, палітычнай дзяячкі. У часы ўгодкавыя адчуваецца непасрэдная блізкасць зробленага гэтымі людзьмі, асабліва, калі створанае імі - актуальна ў нашы часы. Тое ж, пра што дбала Цётка, - сёння надзвычай надзённа.

Але ўсё гэта агульнавядома. Разуменне яе клопату, яе пакутаў падсвечваецца трагічнымі рэаліямі нашага часу. Мне ж хочацца - пра іншае, пра тую своеасаблівую старонку яе творчасці, што засталася па-за ўвагай. Пра Алаізу і... кветкі. Пра гэта не пісалі. А між тым якой шчодрай рукою рассыпала яна вялікі букет красак па многіх старонках сваіх твораў. Таму што ў творчасці сваей заставалася жанчынай, што так далікатна ўмела скіраваць погляд чытача на

блакітныя вочкі васількоў ці цнатлівую бель лілеяў, выхапіць са звычайнага яркае, светлае.

Прыгледзімся ж да яе кветак. Яны шмат раскажуць нам пра разуменне сутнасці красы гэтай незвычайнай жанчынай.

У адным з самых ранніх вершаў, што дайшлі да нас, "Лета" з залатога збожжа ветла ківае да нас сваёй галоўкай сіні васілёк. Як жа без яго - спелае жыта, як плён працы рук без задавальнення патрэбаў душы, як увогуле без васілька - лета?! Але найярчэйшыя кветкі зямлі нашай - людзі: "Ну! Не людзі! Дальбу, кветкі". Гэта вясёлкавы рэй жнеек стварае праўдзівы дыван "з руты ды нагнетак". І сярод гэтага хараства найпрыгажэй выглядае Кася, каб данесці прыгажосць якой паэтка шчодра сыпле "кветкавымі" параўнаннямі:

Стан танюткі, як былінка.
Ну і Кася, ну дзяцінка!
Як царэўна, як багіня!
Як нарцыса, як вяргіня!
Як лілея на Дунаю,
Як пралеска сярод гаю,
Цвіце Кася на ўсю вёску
Зоркай яснай...

Але такое лета-шчасце, лета-песня - толькі кароткае імгненне ў жаночым жыцці, шчодра перасыпаным трывогай, пакутай, болем. Таму зразумела кранальная, даверлівая просьба-жаданне паэткі: "Не дай цвісці жалобным кветкам". Ды і ў яе лёсе, і ў жыцці яе герояў жалобных кветак было нямала. Найперш таму, што на нашых палетках растуць каменні, "палынамі цвіце ніва" (верш "Наш палетак"). Наш беларускі загон ніяк "зысці не можа". Ніяк з часоў Цёткі не здолее закрасаваць. Таму шмат тут працы тым,

...Хто араці добра зможа,
Хто разоры скора ладзіць,
Хто шчасліва сее збожжа,
Хто гароды добра садзіць...

Колькі спагады ў паэткі да спрадвечных працаўніцаў - вясковых жанчын, што, як "кветкі прызавяты", марнеюць, губляюць сваю красу ўжо ў маладым веку ў штодзённай цяжкай працы, без сапраўднай пяшчоты, без належнай павагі, што звыкліся і з грубасцю, і з лаянкай,

і з пабоямі. Што ўсё зносяць маўкліва, не наракаючы: "Ой, лілейкі вы без мовы" ("Вясковым кабетам").

Цудоўная лірычная балада Цёткі "Тры кветкі" - пра сапраўдную і фальшывую любоў, пра імгненнае, што хутка сплывае, не пакінуўшы следу, і вечнае між людзьмі. Самай трывалай, надзейнай, сапраўднай, што не завяне ні ад далечы, ні ад часу, ёсць любоў маці. Гэта кветка яе пяшчоты, вернасці квітнее заўсёды: "Адна толькі кветка як сонца цвіла: // Бо крэпка любіла матуля адна..."

Пышна красуе ўроблены, дагледжаны дбайнай гаспадарскай рукой рай-сад. Верш уражвае надзвычайнай спеўнасцю, меладычнасцю:

Стаіць мой сад пад белым цветам:
Нарцыс стыдлівых поўны крас,
Звісае бэз ў акно букетам,
Тульпанаў куст расцвіў зараз.
Цвіце ляўкой, у пуках рабіна,
Вішнёва дрэва ў малацэ...

"Мой сад"

Такім, яркім, святочным у вясеннім убранні павінен быць сад у шчаслівай жанчыны, з такім настроем, узнёслым і радасным, павінна страчаць жанчына кожную сваю вясну.

Усім сэрцам імкнучыся наблізіць гэты рай да сваёй зямелькі, Алаіза ведала, у якіх пакутах жывуць часам людзі. Маючы чулую душу, бачыла, колькі няшчасця творыцца на свеце. Калі найлепшыя кветкі - дзеці чалавечыя, гаротныя сіраты, гадуюцца без ласкі, цяпла, растуць, "як тое дзікае зеллечка пад абваліўшымся тынкам". І вырастаюць дзікім асотам, злым і калючым, бо дабра ні ад каго не ведаюць. Ды якімі ж адданымі здольны быць да тых жывых істот, што да іх ласку маюць. Трагічная гісторыя кароткага жыцця сялянскага хлопчыка Міхаські з аднаіменнага апавядання кранае да слёз, быццам датыкаешся да балючай раны. Міхаська і ёсць тое "дзікае зеллечка", што так і звяла, вырванае з жыцця нядобрымі людзьмі і злым лёсам.

Складаны, балючы матыў: тут- там, увесь час праступае сярод іншых у мастацкай публіцыстыцы Цёткі. У нарысах "З дарогі" тут - гэта блізка зараз, побач, на такой дагледжанай і такой далёкай для сэрца чужыны, там - далека, недасяжна зараз, але на такой заўсёды блізкай радзіме. Тут заўважае сваім зіркім поглядам усё навокал: "Ва ўсіх вёсках брукаваныя вуліцы, дамы пекныя, сады чысценькія,

гародчыкі ўпраўленыя, і нідзе ля хаты ні дрывотні не відно, ні лужы пры карыце, і навокала ўсё падворка градкамі абкопана; на градках - засеяны кветкі..." Усюды тут - кветкі!.. А ёй так хацелася б, каб і ў нашых беларускіх вёсках былі дагледжаныя вуліцы, квітнелі рознымі колерамі і пахамі гародчыкі ля хатаў. Таму невыпадкова, клічучы моладзь да навукі, асветы, у сваёй "Лучынцы" вучыць не толькі любіць сваю зямельку, свой край, не толькі шанаваць роднае слова, але і належным чынам гаспадарыць на сваёй зямлі, упрыгожваць яе. Не проста навучае, а з глыбокай пяшчотай просіць юных гаспадыняў дбаць пра свой дворык. Артыкул называе ласкавым зваротам "Да дзяўчатак". Звяртаецца да іх, як да малодшых сяброваk, даверліва, шчыра. Запрашае палюбавацца плёнам працы "рупнай дзяўчынкі": "Ах, як міла апынуцца каля такой хаткі! Яшчэ не падышоў, а ўжо тоўсты кракос вясёлым вочкам прыязна табе падміргвае; чырвона вяргіня важна ківаецца ў паклоне; сіва пахучая мята апусціла аслабелыя ад спякоты лісточкі і як бы кажа: «Выбачай, што не магу прывітацца"; дробнымі гузічкамі смяецца нізкі румянак суседкі мяты..." Колькі праўдзівага замілавання ў гэтай карціне! Якое веданне характару, настрояў кветак! Якое ўменне перадаць гэта мастакоўскім словам, заахвоціць юных гаспадыняў да працы!

Далей аўтарка падбадзёрвае дзяўчатак: "Калі з ахвотай адны і другія адклікнуцца на нашу просьбу, то за рок самі здзівіцеся, што так веска перамянілася: уся будзе ў кветках; чужынец, едучы, падзівіцца, свой чалавек, праходзячы, пацешыцца".

І напрыканцы артыкула, каб яшчэ болей заахвоціць маладзенькіх чытачак, абяцае адзначыць іх працу: "Рэдакцыя ж "Лучынкі", даведаўшыся праз сваіх чытачоў, у якіх дзяўчатак пякнейшыя гародчыкі, прышле ім гасцінца - насенне розных кветачак". Якой жа мудрай выхавацелькай была Цётка! Вучыла ствараць хараство вакол сябе.

Кветкі - у шчасці, кветкі - у горы... Пышнае вянчанне. Нечае шчасце, пераплеценае міртавымі вянкамі. І сярод гэтага балю жыцця - адзінокая, нікому не патрэбная жабрачка, зусім яшчэ маладая дзяўчына з лілiяй у руках. Падае маладому. Як сімвал чысціні, пяшчоты, якую гэтак жа даверліва аддала людзям, гэтаму злому, нялюдскаму свету, што насмяяўся з яе і адкінуў са свайго балю ў вір галечы, знявагі. «А з белай лiлii глядзела раса нявіннымі чыстымі слязамі..." Душа гэтай няшчаснай засталася такой жа нявіннай, бо грэх яе не мог не растварыцца ў мільёнах шмат страшнейшых людскіх грахоў, здзейсненых свядома, жорстка. І яе адыход з гэтага

свету - гэта пошукі тых, хто хоць бы паспагадае, хто гэткі ж няшчасны: "А на дне русалкам-сёстрам нова госця былі складала".

Пякучай журбой крывавых ружаў захлынаецца жыццё яшчэ адной Цётчынай гераіні - студэнткі Зялёнкі. Памірае яна, перапоўненая болем, у незвычайны час, у незвычайным месцы. У час канцэрту класічнай музыкі. Душа яе блукае то па сцяжынах маленства, то ў нейкіх мройных прасторах быцця. Адчуванне музыкі ўражвае сваёй пранікнёнасцю, паўнатой: "Ціхая мелодыя, як першы ўздых дзіцяці, палілася; ідзе, вядзе некуды ў засветныя разлогі чыстага лірызму. Маладая душа верыць у шчаслівыя далі, узнімаецца, рвецца да іх смелым лётам. Мерацць у яе адзін за другім сілы абману, зла..." Уяўляецца беднай Зялёнцы магутнае змаганне сілаў жыцця і смерці, дабра і зла. І бачыцца ёй крывавая раса. "Здаецца Зялёнцы, што адплывае з залай кудысь углыб, а чырвоныя кветкі сыплюцца ёй пад ногі (кроў з рота бухае)". Гэтая апошняя, афарбаваная ў чырвоны колер мроя - апошні напамін аб красе, апошні дарунак няшчаснай гаротніцы ад жорсткага жыцця. Якія ж кветкі падалі пад ногі ёй, адзінокай, гаснучай знічцы Алаізе, што самотна канала, без належнай лекарскай дапамогі? Пры ёй быў яе суджаны Сцяпонас Кейрыс. Але Цётка памерла, так і не прыйшоўшы да памяці. Ці прашапталі ёй, як яе Зялёнцы, "нейкія тайныя цені": "Разбілася жывая ліра"?..

Як кожны вялікі паэт, Цётка ведала, што ўвайшла ў вечнасць. У вершах сваіх вобразна выяўляе сваё будучае: "На магіле ўзыду дубам", "Стану песняй у народзе"... І ў памяць пра яе, пра чысціню мараў і справаў з пахаванай ліры павінны вырасці, канешне ж, кветкі. "З парваных струн - белыя кветкі".

Чароўная кветка-папараць. І пра яе не магла не напісаць Алаіза Пашкевіч. З'яўляецца гэтая кветка-легенда ў мроях канаючай Зялёнкі, у артыкуле "Аб душы маладзёжы", дзе маленькі хлопчык стаўся ахвярай свайго жадання знайсці кветку шчасця: "І радасць дзіўная напаўняе сэрца дзіцяці: ён бачыць кветку, ён дастане яе, і не будуць ужо волікі цягаць ярма на плячах..." Вытлумачыла таямнічы сэнс гэтай легенды паэтка ў артыкуле, які так і называецца - "Папараць-кветка": "Папараць-кветка - гэта сімвал усёзнання. Народы ўсяго свету выцягваюць да яе рукі, ідуць з спрагненымі сэрцамі. Шукаючы папараць-кветкі ўсёзнанне, тысячы ахвяр гіне ад непасільных трудоў і працы".

Алаіза Пашкевіч таксама ўсё сваё жыццё шукала для Беларусі папараць-кветку. Таму і згарэла так рана, стала адной з тых тысячаў ахвяр-шукальнікаў...

Пэўна, здзічэла наша беларуская ніва. Бо ніяк не народзіць папараць у чароўную купальскую ноч кветку шчасця.

## "ЖЫВЕМАЯ ЛІРА НАНОВА"

На Беларусі заўсёды было няшмат знакамітых жанчын - грамадскіх, палітычных дзяячак. Няшмат было (літаральна да сённяшняга часу) і вядомых паэтак. Жанчына спрадвеку захоўвала матэрыяльны дабрабыт сям'і, зберагала духоўныя скарбы роду. І, канешне ж, гадавала дзетак, спявала над іх калыскамі найлепшыя свае творы - калыханкі. І ўсё ж у розныя часы, у часы часцей зорныя для Беларусі, з'яўляліся тут жанчыны, што сталі гонарам і славай нашай зямлі.

Такой жанчынай-легендай Беларусі стала Алаіза Пашкевіч – Цётка - таленавітая паэтка, адна з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы, нарысістыкі. Асветніца, педагог, арганізатарка беларускага друку. Актыўная дзяячка беларускай сацыял-дэмакратыі.

Найбольш вядомымі з'яўляюцца вершы Цёткі перыяду 1905-1906 гадоў. Іх змагарны пафас падкрэсліваецца магутнымі рамантычнымі вобразамі буры, віхураў, мора, крылляў. Але ўсё ж самымі значнымі паэтычнымі здабыткамі ёсць вершы эмігранцкага перыяду творчасці Алаізы Пашкевіч. Плаўная, велічная, надзвычай адшліфаваная інтанацыя верша "З чужыны" падмацоўвае тужлівы, самотны стан душы героя:

І душна, і цесна, і сэрца самлела
Мне тут на чужыне, здалёк ад сваіх...
Як птушка на скрыдлах, ляцець бы хацела,
Як хваля па моры, плыла бы да іх.

Глыбокім празаікам паказала сябе Цётка. Літаральна кожнае яе апавяданне з'яўляецца сапраўдным здабыткам беларускай прозы. Творы вызначаюцца надзвычайнай стылёвай разнастайнасцю. Ад глыбока рэалістычнай замалёўкі сялянскага жыцця ("Навагодні ліст") да складанай псіхалагічнай прозы, раскрыцця філасофскіх праблемаў чалавечага жыцця. Большасць твораў пісьменніцы вызначаецца трагічным пафасам. Усё гэта, прапушчанае праз чулую душу творцы, глыбока кранае. Трагедыя нікому не патрэбнага, скалечанага страшнай воспай і нялюдскімі адносінамі іншых "дзікага зеллечка'" сіяцінкі Міхаські з аднаіменнага апавадання. Што робіць чалавека злым, нягодным? Адказ на гэта у роспачным пытанні Міхаські: "...Але

хто для мяне добры?" Зло нараджае ў адказ яшчэ большае зло. Але як прагне такая адзінокая, няшчасная ў сваёй нянавісці душа хоць кроплі пяшчоты. Як моцна жадае яна быць патрэбнай хоць каму-небудзь. І няхай крыўдаў ад жорсткіх людзей не зменшыцца, але іх ужо можна будзе раздзяліць з блізкай, гэтак жа няшчаснай істотай. Так і сышліся дзве сіраціны: хлопчык і жораў. Разам у цёмным запечку адужвалі свае няшчасці-хваробы: "Цёмная чэлюсць скрыла дзве бяссільныя крыўды..."

Не можа не ўразіць яркі, незвычайны адыход з жыцця маладой курсісткі Зялёнкі. У час канцэрта, калі гучыць класічная музыка, якая магутнай хваляй адносіць дзяўчыну ад разумення таго, што з ёю адбываецца. Адносіць далека, аж у маленства, у купальскую ноч, калі расцвітае папараць-кветка. Паслужліва стварае яркія рамантычныя карціны супрацьстаяння, змагання, віхураў: "Маладая душа... змагаецца з цёмнымі сіламі прозы, б'е скрыдламі ў нябесныя скляпенні паэзіі. Бой даходзіць фазы смерці і жыцця. Белая шата паволі пакрываецца крывавай расою..." Якое незвычайнае ўспрыняцце музыкі, і якая вялікая прага перамагчы смерць. Толькі не смерць! І хоць перамагчы яе, жудасную пачвару, немагчыма, спакутаваная ад болю Зялёнка не ўспрымае яе. Жыве гэтай музыкай, гэтым канцэртам. Калі ж надыходзіць апошняя яе хвіліна, з рота "бухае кроў", то і ў гэтае імгненне яе свядомасць засланяе ад няшчаснай горкую праўду. Зялёнцы здаецца, што гэта да яе ног падаюць ружы. Яркія ў сваёй крывава-чырвонай прыгажосці, апошні дарунак жорсткага лёсу - ружы да яе ног.

У многіх апавяданнях Цёткі - яркі, запамінальны фінал. Гэта звычайна адна ўзнёслая паэтычная фраза. Як і ў апавяданні "Зялёнка": "Разбілася жывая ліра".

Вобраз разбітай ліры сустракаем і ў вершы "Грайка", адным з самых лепшых паэтычных твораў-прадказанняў. Магутнае жаданне тварыць, граць абрываецца прадчуваннем немінучай блізкай смерці: "Граў бы я многа, ды сіл не хватае,//І рвецца за стрункаю струнка". Але і па смерці творцы сапраўднае мастацтва працягвае жыць:

А на задушкі пад цёмнаю івай
Жывое пачуецца слова,
Што песня паўстала з стотысячнай сілай,
Жыве мая ліра нанова.

Педагог, асветніца. Па-сапраўднаму любіла дзяцей. Гэта яе сэрца заходзілася ад болю, спачуваючы няшчаснай сіраціне Міхаську. Гэта

яна так дбала клапацілася пра душу моладзі, раскрываючы сутнасць тых уздзеянняў, што фармуюць гэту душу. Гэта яна так пяшчотна звярталася да дзяўчатак у артыкуле з такою ж назвай, настойліва прапаноўваючы ім упрыгожваць нашу зямельку кветкамі. Вучыла, як гэта трэба рабіць, падахвочвала. Вучыла клапаціцца пра свой выгляд і пра хараство вакол сябе. Гэта ж яна, Цётка, запаліла яркі агеньчык - стварыла першы дзіцячы беларускі часопіс "Лучынку", што асвятляў моладзі шляхі ў жыццё, вучыў дбаць пра галоўнае, што робіць чалавека прадстаўніком нацыі, народа - пра мову, культурную спадчыну, здабыткі народнай творчасці.

Усю сваю апантанасць, палымянасць душы ўклала паэтка ў артыкул "Шануйце роднае слова!", на жаль, надзвычай актуальны для беларусаў і сёння. Твор перасыпаны сапраўднымі паэтычнымі крупінкамі, іскрынкамі высокай мастацкай вартасці. Пра тое сведчыць ужо самы пачатак яго: "Роднае слова. З малых дзён чуем мы цябе з матчыных вуст. Ты нам тлумачыш усе дзівы свету, якія дзіцячае вока бачыць навокал сябе першы раз. І табе выказваем мы свой дзіцячы жаль, крыўду, жаданне, радасць..."

А з якой пашанай, любоўю піша Цётка пра беларускія народныя песні: "Наша народная песня вылілася з сэрца, вуснаў і фантазіі ўсяго народу беларускага і дзеля таго называецца - народнай".

Дзе б ні была Алаіза Пашкевіч, а пабывала яна ў многіх краінах Заходняй Еўропы, заўсёды ў думках вярталася на родную бедную старонку, людзям якой хіба спрадвеку наканавана лёсам гібець, пакутаваць. Асабліва кранаюць падарожныя нарысы Цёткі "З дарогі". Хворая на сухоты, апошнія сілы аддаючы змаганню з невылечнай хваробай, яна ўсё ж увесь час клапоціцца пра тое, што ж адбываецца там, на Беларусі. Так балюча рэагуе на праявы неўладкаванасці, занядбанасці беларускіх вёсак, іх жыхароў. І форму для гэтых нарысаў аўтарка выбрала вельмі ўдала - эпісталярную. Лісты маладой дзяўчыны з чужога краю да роднай матулі. Таму і прасякнуты падарожныя нататкі такім шчырым лірызмам, такой адкрытасцю, задушэўнасцю. Бо дачушка прамаўляе да маці. Таму і магчымы тут, у публіцыстычным па сутнасці творы, такія кранальныя, мілыя прызнанні, якія адно толькі і можна што прашаптаць на вушка: "Мамачка, хачу нешта табе сказаць, але не паверыш так адразу пасля маіх лістоў, дай хіба вушка: мамачка, нідзе так не пекна, як у нас".

У адным са сваіх вершаў Цётка звяртаецца з просьбай: "Арлы-брацці, дайце скрыдлы..." Яна сапраўды з крылатага арлінага племені. Пранеслася на магутных скрыдлах над жыццёвымі хвалямі. Не

зламалася, не сагнулася. Засталося жыць яе жывое слова, засталася гучаць яе ліра. Здзейсніла ўласны запавет: "Стану песняй у народзе".

## ВЯРТАННЕ "МІХАСЬКІ"

Пачатак стагоддзя ў беларускай літаратуры вызначаецца станаўленнем і развіццём па сутнасці не існуючых да таго часу празаічных жанраў. У сваіх творах пісьменнікі імкнуліся заглянуць у патаемныя глыбіні чалавечай душы, раскрыць прычыны тых ці іншых учынкаў герояў. Якуб Колас, Ядвігін Ш., Максім Гарэцкі, Власт вырашалі вельмі важную задачу, якую так эмацыйна, узнёсла акрэсліў М. Гарэцкі ў артыкуле "Развагі і думкі": "Прозы, прозы! Больш добрай прозы!" Значны ўклад у вырашэнне гэтай задачы зрабіла і Цётка, чые апавяданні вызначаюцца жанрава-стылёвай разнастайнасцю, глыбокім псіхалагізмам, падсвечваюцца звычайна глыбокім трагічным пафасам.

А між тым празаічныя творы Цёткі, апроч імпрэсіі "Прысяга над крывавымі разорамі", амаль невядомыя. Адзіным напамінкам пра цудоўнае апавяданне "Міхаська" ў ранейшай школьнай хрэстаматыі былі ўражанні-перажыванні, выкліканыя гэтым творам у малога Даніка, героя аповесці Янкі Брыля "Сірочы хлеб". Зараз урэшце гэтае апавяданне ўключана ў школьную праграму. І гэта справядліва, бо расказаная Цёткай трагічная гісторыя кароткага пакутнага жыцця няшчаснай сіраціны, вясковага хлопчыка Міхаські не можа не крануць юныя душы, не можа не выклікаць у іх пачуцця спагады, жалю, ад якіх сціскаецца маленькае сэрца таго ж Даніка Мальца. Хлопчык слухае, удумваецца, аналізуе, параўноўвае. І вынікае з гэтага параўнання, што ягоная ўласная сірочая доля нашмат ласкавейшая, чым у таго Міхаські. Але чамусьці "і ў Сівага таксама слёзы закружыліся ў вачах..." Душа маладога беларуса перапаўняецца спачуваннем, успрымае нялюдскі лёс сіраціны, з якога "здзекаваліс Бог і людзі" (Францішак Багушэвіч), як уласную бяду.

Што ёсць прычынай, карэннямі чэрствасці, жорсткасці чалавека? Чаму малы хлапчына "ўпатайне ўсіх ненавідзеў"? За што ён "кожнаму мсціў колькі мог"? Пісьменніца глыбока пранікае ў скалечаную душу Міхаські і дае адказы на гэтыя няпростыя пытанні ва ўнутраным маналогу, што цяжкай скаргай вырываецца з самага сэрца дзяціны: "Праўда, ... нягодны я хлопец, усім прыдумваю ліха, але хто для мяне добры? Усе як на ліхога сабаку: "А-ту... А-тата!" Нялюдкасць, злосць у адносінах да чалавека здольны спарадзіць яшчэ большую злосць, нянавісць.

Страшна здзекаваўся з Міхаські жорсткі лёс. Ад самых першых хвілінаў прыходу хлапчука ў гэты свет. Забраў маці, насылаў бясконцыя хваробы. Жахлівая воспа, што яшчэ больш скалечыла і без таго непрыгожы твар. Як толькі выжываў ад хваробаў у сваім запечку без догляду, без лекаў, без спачування? Але самая вялікая бяда Міхаські - адзінота, адчужанасць ад людзей. Што можа быць страшней адчування непатрэбнасці нікому ў цэлым свеце, халоднай беспрытульнасці, калі нават да бязмоўнай скаціны ўзнікае зайздрасць: "Міхасю стала завідна, што нават бычок і той мае да сябе прыхільнае стада..."

Але якой жа мяккай, пяшчотнай здольна стаць гэта счарсцвелая душа, калі адчуе хоць нейкую крупінку прыхільнасці! Калі адчуе, што патрэбна некаму. Сустрэча "дзвюх бяссільных крыўдаў" - хлопчыка і жорава - адзін з самых важных момантаў у творы. У душы Міхаські нараджаецца вялікая дабрыня, ён жыве клопатам пра няшчасную, як і сам, птушку, ён поўніцца пяшчотай.

Бадай што самым значным мастацка-выяўленчым сродкам у апавяданні з'яўляецца параўнанне, псіхалагічна дакладнае, надзвычай паэтычнае. Цётка некалькімі штрыхамі падае смерць маці. Трагічны адыход у вечнасць яшчэ адной беларускай Мадонны, пакутніцы, што памерла, але ў невыносных муках дала жыццё дзіцяці. У апавяданні гэты момант пададзены на такім жа высокім мастацкім узроўні, як і ў цудоўных вершах Максіма Багдановіча з цыкла "Каханне і смерць". Дзякуючы менавіта параўнанню: "Зацiхла так, як песня часам ціхне на найжаласнейшым сваім слове..." Трагедыя абарванай на высокай ноце песні якраз у тым, што зараз гэта жанчына як ніколі патрэбна тут, на гэтай зямлі, найперш сваёй ужо жывенькай крывінцы.

Якім жа мог вырасці не патрэбны нікому хлопчык-сірацiна? Ізноў цудоўнае параўнанне, якое ўмяшчае ў сабе прадказанне долі Міхаські: "...Рос, не мяркуючы, як тое дзікае зелле чка пад абваліўшымся тынкам". Тынк - гэта тыя нягоды, што адна за другой звальваюцца на няшчаснага хлапчыну. Дык дзе ж таму дзікаму зеллечку ў такіх варунках закрасаваць пяшчотнай кветкай? Яшчэ болей дзічэе, нядобрым, нялюдскім робіцца. І да болю шкада гэтае зеллечка, што на няшчасце сваё ўзышло, расце, да святла, цяпла, сонечнага ды людскога, цягнецца. Але не дала доля яму таго цяпла, якога так прагнуў. Бо лёс усялякага зелля - быць выпалатым, вырваным, каб не перашкаджаць квітнець іншым. Таму ўжо ад самага пачатку жыццёвы шлях хлопчыка прадвызначаны.

Сярод слотнай, бяздушнай восені ў халодным полі воддаль гурту пастушкоў віднеецца нейкая адзінокая купіна. Гэта і ёсць Міхаська: "Стуліўся ў клубок, быццам тая шэрая купінка, наточаная кротам". Шэрая, непрыкметная ў гэткім жа шэрым непагодным дні. Нерухомая, бы нежывая. Ды хіба ж гэта - жыццё? Скамянелы аскепачак вялікага болю адзінокай душы. Што ж у гэтай душы? Думкі-мроі, думкі-нараканні, думкі-крыўды: "Думкі яго былі невясёлыя, поўныя слёз, бы тыя асеннія хмаркі, нявыплаканыя дажджом". Асеннія хмаркі, што надзейна засланяюць сонейка, што заўсёды навяваюць тугу і роспач. Якая ж гэта пакута - неаблегчаная ачышчальнымі слязамі горыч, што джаліць у самую душу! Калі да горла набягае, падпаўзае злой вужакай пакута, скручваецца, ператвараецца ў атрутны камяк, сціскае, душыць. А паспавядацца, паплакаць няма перад кім.

А якімі кранальнымі параўнаннямі падсвечвае аўтарка чарговую бяду-навалу, злую хваробу, што звалілася на беднага Міхаську: "Хлопец ляжаў, бы надломаная саломінка". Яшчэ жывая, але ўжо выпрастацца, выстаяць ці хопіць сілаў? А дома, пад злыя вокрыкі мачыхі: "Прысланіўся ў качарэжніку, стаіць, бы асінавы пеньчык". Ужо і не дрэўца нават, хай бы хоць кволае, пахілае, адно толькі пянёк. Ссечанае дрэва, што новых парасткаў выпусціць-нарадзіць не здолее.

Маналог-споведзь Міхаські да адзінага сябра жорава таксама змяшчае ў сабе скрушнае параўнанне. Наогул, гэты маналог нагадвае народныя песні-плачы няшчасных сірат: "І я таксама адзін, як той калочак у плоце; матулька ў пясочку ляжыць, не прыйдзе сынка хворанькага адведаць".

Мастацкія параўнанні, што дапамагаюць нам уявіць выгляд хлопчыка ў яго апошнія дні, вызначаюцца лёгкасцю, нейкай незвычайна светлай бязважкасцю. Быццам усё тое зямное, нядобрае, бруднае, што так мучыла Міхаську, пакінула яго, адна толькі чыстая, ясная душа свеціцца як бы незямным ужо святлом: "Белы, як сняжыначка...", "Ляжаў, як аплатачак сухенькі, таяў, як васковая свечачка". Памяншальна-ласкальная форма слоў надае параўнанням яшчэ большай пяшчоты, узрушвае да слёз.

Тужліва і разам з тым узвышана ў незваротнай бядзе выглядае мудрая птушка, што страціла свайго абаронцу і сябра: "Сумна, важна, як сплаканая маці, жораў першы пайшоў за Міхасём". Параўнанне з маці вельмі глыбокае. Бо гэта за яе, так рана адышоўшай маці, аддаваў жораў сваю любоў сіраціне. Ніхто так не шкадуе сваё дзіця, як маці. Ніхто сярод гэтых людзей не шкадаваў Міхаську так, як жораў.

Надзвычай паэтычны фінал апавядання: "Жоўты ліст сцелецца зямлёю і ціха, ціха на задушкі ў цёмную ночку шэпчацца з крынічкі вадою. Я падслухала гоман той пажоўклага лісця з крынічкі з чыстай вадой і цяпер вяду сказ, як калісьці жыў Міхась у запечку нашых хат - беларус малы, брат". Гэта спрадвечная доля малога сіраціны - жыць у запечку ў сваёй роднай хаце. Дачасна адыходзіць, адзінокаму, нялюбаму, няшчаснаму. Хто ж яшчэ пра яго ўспомніць. Адно толькі жоўты ліст, што ўжо сам чуе свой адыход...

## "ЦЁТКА - СТАРОЖКА ЗАПАЛЕНАЙ "ЛУЧЫНКІ"

Купала, Каганец, "Лучынка" - у кожным слове - агонь. То шугае да неба магутным полымем кастроў над усёй беларускай зямлёю ў купальскую ноч, зачароўвае таямнічай легендай пра папараць-кветку, то зіхаціць яркім святлом часам сапраўды па-мастацку выштукаванага каганца, то ласкава міргае кволым, але такім надзейным агеньчыкам лучынкі ў сялянскай хаце.

Гэтыя агнявыя словы вабілі беларускіх адраджэнцаў пачатку стагоддзя, бо для іх магутнай плеяды самым асноўным было данесці да людскіх душаў "высокіх праўд святы агонь" (Янка Купала), абудзіць беларусаў ад спрадвечнага сну. Гэтую ж задачу ставіла перад сабой і Алаіза Пашкевіч, Цётка, чыя яркая постаць мае годнае месца сярод тых, хто стаў гонарам нашай нацыі, хто спрычыніўся да ўзнёслых і вельмі няпростых часоў, калі Беларусь мела рэальны гістарычны шанс стаць незалежнай.

У асобе Цёткі здзіўляе многае. Гэта і надзвычай багатае спалучэнне талентаў: цудоўная паэтка, глыбокі празаік, яркі публіцыст, удумлівы, назіральны нарысіст. А яшчэ - талент арганізатарскі, калі яе хапала на тое, каб стаць адной са стваральнікаў беларускага друку, наведваючы Радзіму з эміграцыі. Разам з братамі Луцкевічамі, Вацлавам Іваноўскім арганізоўвала дзейнасць Грамады. А яшчэ - несла святы крыж міласэрнасці. У гады вайны пайшла працаваць сястрой міласэрнай у шпіталь. У жахлівых умовах ваеннай калатнечы аддавала свае веды, сілы, здароўе, дабрыню скалечаным нялюдскім молахам вайны. Была апантанай змагаркай. Сама стала тым велічным крыжам, імкнучыся засланіць Беларусь ад нягодаў. Выбрала шлях нялёгкі, ахвярны. І не збочыла з яго, бо ў руках трымала той святы агонь, якім і для іншых свяціла.

Асаблівую ўвагу надавала працы з моладдзю. Гэта яна запаліла чарадзейную "Лучынку" - стварыла па-сутнасці першы беларускі

дзіцячы часопіс з такой пяшчотнай назвай. Уяўляеце Цётку, такую кволую, тоненькую, але разам з тым моцную, смелую, са шматлікіх партрэтаў, што ідзе наперадзе гурту "з "Лучынкай" паволі ў зімовую ночку" ад хаты да хаты, каб дапамагчы шчырым душам маладых беларусаў, якія так прагнуць святла. А найперш трэба давесці гэтым юным галінкам, з якога дрэва-кораню яны ўзышлі, што ёсць іх Радзімай, што было ў мінулым:

Падойдзем да іх мы з "Лучынкай", пасвецім,
Аб роднай старонцы сцікавіма іх, -
Можа, з "Лучынкай" іскры разнецім
Ў думках і ў сэрцах сіл маладых.

Алаіза Пашкевіч так і называла сябе – Цётка - старожка запаленай "Лучынкі". Надзейна сцерагла гэты кволы агеньчык, клапацілася, каб усё святлей разгараўся, клікала іншых да падмогі. Захаваліся яе лісты ў Пецярбург да прафесара Браніслава Эпімах-Шыпілы. Як пяшчотна, з якой вялікай спадзеўкай звяртаецца яна да мудрага настаўніка пецярбургскіх беларусаў, каб паспрыяў "Лучынцы", каб падштурхнуў студэнтаў да працы: "Дзядзечка, клікніце кліч між беларускай маладзёжы, хай бярэцца да працы..." А ўжо да саміх студэнтаў прамаўляе горача, палымяна, апелюючы да іх нацыянальнай свядомасці, чалавечага сумлення: "Браткі-студэнты! Не маеце права атрасці рукі ад працы ў "Лучынцы": на вашым сумленні будзе ляжаць найбольшая часць сораму, калі "Лучынка" будзе дрэнна свяціць вашым братам і сёстрам у вёсцы беларускай, што для вас хлеб сеюць і жнуць".

Асабліва ўражваюць лісты да Браніслава Тарашкевіча, якога пасяброўскі, з добрым гумарам, але разам з тым і настойліва кліча да працы, будзіць. Адны звароты-пачаткі лістоў чаго варты: "Тарас, чаго сядзіш на Парнасе? Злазь! А то лазы ад Цёткі дастанеш" ці "Тарас, не сядзі на Парнасе! Чаго маўчыш, як вады ў губы ўзяўшы?" Сама працавала, не шкадуючы здароўя, і ад іншых патрабавала таго ж. Патрабавала настойліва, рашуча, аж да душы праймала, не цярпела жыцця і працы напалавіну: "Душу напаўжывую, напаўмёртвую страсяні ад мяне за чупрыну" (да Б. Тарашкевіча).

Дзівосны агонь папараць-кветкі заўсёды вабіў Цётку - шукальніцу народнага шчасця. У многіх творах успамінае гэты вобраз. Але найбольш поўна сэнс створанага народнай фантазіяй шэдэўру раскрыла пісьменніца ў артыкуле, які так і называецца "Папараць-кветка". Даследуе, што ж гэта за цуд такі папараць-кветка, адкуль

вера ў яе чарадзейную сілу. І прыходзіць да высновы: "Папарацькветка - гэта сімвал усёзнання. Народы ўсяго свету выцягваюць да яе рукі, ідуць з спрагненнымі сэрцамі". Усёзнанне - ведаць усё. Вось у чым сапраўднае святло. Вось што дае магчымасць "тайніцу за тайніцай" вырываць у прыроды. А само "Купалле - гэта свята яснасці, свету і найбольшага разросту сіл у прыродзе".

Якім абсурдам з'яўляецца забарона цяперашніх валадароў святкаваць Купалле -"свята яснасці".

Паверым жа не тым, хто народныя беларускія святы называе "нацыяналістычным шабашам", а Алаізе Пашкевіч - Цётцы беларускай нацыі, што яшчэ ў 1914 годзе пісала пра наш час: "Свядомым беларусам-інтэлігентам хочацца з Купалля зрабіць нацыянальнае беларускае свята. Але народ беларускі, пачынаючы ад хмурнага Палесся, па ўзбярэжжам рэк Немана, Дзвіны, Віллі, па глухіх берагах Белавежскай пушчы яшчэ глыбока верыць у цуды купальскай ночы і сніць аб папараць-кветцы, аб кветцы перуновай, што красуе крывава-вогністым колерам. Але кругом гэтай кветкі разляглiся зямныя сілы, страшныя змеі сыкаюць, звяры дзікія галоднымі зубамі ляскаюць..."

Як і вялікі Купала, аўтар артыкула "Моладзь ідзе!", Цётка верыла ў беларускую моладзь, з ёю звязвала надзеі на будучае Беларусі. І гэтую сваю веру да юных беларусаў даводзіла: "Верце, дзеткі беларускія, верце: цэлы свет вам падтакне, што заслужваеце на папараць-кветку сімвал - знання, навукі!" Беларусь чакае на сваіх дзяцей, бо не ўсе адракліся, забыліся на сваю маці:

Моладзь, вы - сіла ў кожнае хаце,
Вы - сонейка, радасць для бацькі, для маці,
Вучыцесь, старайцесь, багаццесь у сілы,
Бо жджэ вас з надзеяю край наш радзімы.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

# КНІГІ. ГЕРОІ.
# ІХ ДАРОГІ.

### "РЫФМУЮ: СОНЦА І НЯМА"

***Іван Чыгрын. Капеж.***
***Вершы. Мінск, 1992.***

Не раз задумвалася: праца даследчыка літаратуры - гэта выбар ці прадвызначэнне? Быць поўным фаталістам не выпадае хоць бы таму, што нецікава зводзіць чалавека да ўзроўню марыянеткі, няхай нават ёю кіруе сам вышэйшы лёс. Безумоўна, ёсць сярод людзей абраныя: паэты, мастакі, кампазітары, наогул, творцы. А як жа тыя, хто ідзе па іх слядах, мо калі заглядваючы наперад, нават дапамагаючы абраным, - даследчыкі літаратуры, навошта яны? Сцвярджэнне, што работа даследчыка літаратуры другасная ў параўнанні з творчасцю паэта, мае сэнс. Але ці азначае гэта, што абавязкова другаякасная? І ўжо ніяк нельга згадзіцца з думкай, што непатрэбная. Няхай для тых, хто пачынае гэту справу, падтрымкай стануць словы пісьменніка Івана Навуменкі: "Калі вашу работу прачытае хоць адзін чалавек, то і ў такім разе яна адбылася і намаганні вашыя недарэмныя".

Хіба, напрыклад, паэту, калі ён яшчэ не развучыўся слухаць іншага, непатрэбна слова пра яго вершы? Патрэбна, як водгулле ад яго ўласнага слова, якое не павінна знікнуць, змоўкнуць, калі яно ўжо аддадзена людзям.

Іван Пятровіч Чыгрын - у адной асобе літаратуразнаўца і паэт. Ягоная паэтычная кніжка мае назву "Капеж". Першая старонка яе - роздум пра сутнасць паэзіі, пра імкненне паэта пранікнуць у самую глыбіню жыцця.

Вершы пішуцца промнямі сонца
На лістах,
Назва якім -
Пералескі,
Сенажаці,
Лясы.

Калі ты не здатны рассоўваць хмары
над зямлёй,
Ніякі ты не паэт.

Згадваецца танкаўскае. Але гэта народжана сваёй верай, сваім разуменнем прыроды паэзіі, якая патрабуе надзвычайнага бачання, адчування, стараннасці і любові.

Напэўна, самым асноўным і самым балючым матывам, што пранізвае ўвесь зборнік і ўяўляе сабою фон, на якім адбываецца лірычнае дзеянне, з'яўляецца матыў адзіноты. Гэта менавіта фон, бо аўтар не падключае яго для стварэння нейкіх яркіх вобразаў. Наадварот, ён як бы свядома пазбягае гэтага слова. Але яно прабіваецца то ў нагляднай карціне, ад якой вее холадам, адчужэннем ("Стаяць камяніцы - канца не відно. Дрыжаць камяніцы адна пры адной"), то ў постаці адзінокага гараджаніна: "Вунь нехта з дачкою, там нехта з сынам, а гэты з сабакам удвух, небарак".

Дзе ж выйсце? Для лірычнага героя паэзіі Івана Чыгрына выратаванне - у любові да людзей, у імкненні аддаць свету цяпло свайго сэрца. Часам гэтае жаданне выказваецца шурпата, пэўна, ад разумення немагчымасці яго здзяйснення: "Хацеў бы шар зямны абняць, ды рукі кароткія". Гэтая каструбаватасць лірычнага выказвання і ад непрыхаванай іроніі, накіраванай перш за ўсё на сябе.

І яшчэ адно выйсце, магчымае для кожнага чалавека, - каханне. Яно, каханне, здольна напоўніць свет сапраўднасцю, натуральнай незвычайнасцю, адчуваннем патрэбнасці і паўнацэннасці жыцця, прынесці ў кожную тваю хвіліну радасць далучанасці да зямной прыгажосці. Тады ўсе рэаліі навакольнага свету адкрываюцца тваім вачам і сэрцу абноўленымі, існаванне іх паўнакроўнае, радаснае:

Сонца тады
Свеціць заўсёды ў пару.
Дождж ідзе - у пару.
Натхнёна, радасна
шчабечуць птушкі.
Зелень зыркая, сакавітая.
Снег - гарачы,
Зімы - казачныя.

На фоне гэтых, здавалася б, рэальна адчутых хвілін шчасця, дысанансам гучыць прызнанне: "У мяне няма каханай..." Можа, таму

душа лірычнага героя адкрытая для спачування. Ён блізка ўспрымае незайздросны лёс навагодняй ёлкі, перасохлай рэчкі, высечанага лесу, соснаў у парку, што "паміраюць стоячы, адзінока і горда". Ды і сам ён нечым нагадвае гэтыя сосны. Адзінокі і горды, ён так адчайна-востра адчувае непазбежнасць заканчэння свайго зямнога шляху (ізноў жа выказанай зусім непаэтычна, "шурпата": "скончуся з гадамі"), што пачынаеш забывацца пра ўсеагульны характар гэтай непазбежнасці, спачуваеш менавіта яму, бо тут, у гэтым, магчыма, адзіным і апошнім жыцці ён увесь поўніўся прагным імкненнем да людзей. Хіба можа пакінуць абыякавым такая кранальная просьба:

Я загадзя вас, людзі, папрашу:
Не рыйце, калі ласка, дол глыбокі.
Лавіць я дрэваў буду шум
І прагна слухаць вашы крокі.

У сістэме лірычнай вобразнасці паэта, бадай, самым асноўным з'яўляецца вобраз сонца. Паўтараючыся ў многіх вершах, ён становіцца скразной, нават, можна сказаць, "сувязной" дэталлю ва ўсёй паэтычнай сістэме. Менавіта дзякуючы гэтаму асобныя вершы ўступаюць ў складаныя асацыятыўнасюжэтныя сувязі з іншымі творамі. Тым самым скразная дэталь становіцца носьбітам агульнага значэння, выходзіць за межы адной сітуацыі, набывае шматзначны сэнс, становіцца сімвалічнай.

Сонца выступае як сімвал святла, цеплыні, з якім ніяк не хоча рыфмавацца слова "няма", а паэт мусіць ставіць іх побач, бо няма ў жыцці яго лірычнага героя шчасця і цяпла: "Рыфмую: "Сонца" і "няма". Сонца - як аснова, грунт вясновага абуджэння: "Настоены на сонцы грай вясенні"; як увасабленне той вялікай сілы, што натхняе паэта, надае творчы імпульс: "Вершы пішуцца промнямі сонца".

Пры ўсёй сваёй сіле сонца мусіць суцішыцца, схіліцца перад вечным рухам часу, перад абавязковым у гэтым свеце надыходам холаду, калі яно на нейкі час страчвае ўладу. "Сонца збянтэжана", калі выпадае першы снег...

Праўда, у некаторых вершах вобраз сонца не вызначаецца ў паэта навізной і свежасцю. А ўвогуле ў кніжцы сустракаюцца вершы, якія здзіўляюць незразумелай у дадзеным выпадку "нявопытнасцю", быццам належаць пяру вучня, ствараюць уражанне першай паэтычнай спробы. Характэрным у гэтым плане з'яўляецца верш "Яблынька", яму ўласцівыя спрошчанасць вобразнасці, прымітыўнасць параўнанняў (яблынька, нібы дзяўчынка), збітасць рыфмаў

(прасцінка - дзяўчынка, вядома - стома). У выніку верш уяўляе сабой праставаценькую замалёўку з натуры са звычайнай канстатацыяй фактаў.

Гэтымі ж недахопамі вызначаюцца вершы "І выйшаў на вуліцу раніцай...", "Ішла жанчына і курыла...", "Добры дзень, зіма...", "Аж смешна!..". Нават адкінуўшы характэрную для многіх непрыхільнасць да некаторых прадстаўнікоў нашай фауны, нельга ўсур'ёз верыць, што ў гарадскога жыхара могуць узнікнуць такія жаданні:

Хацеў бы паслухаць сімфонію жаб.
А мне каб па шыі пагладзіць вужа.
*(З летніх мрояў гараджан).*

Можна падзяліць, зразумець выказаную няхай сабе залішне рытарычна паэтаву ўпэўненасць - "І ўсё ж чалавецтву быць... Быць!" Але нельга згадзіцца з яго сцверджаннем, што чалавек "сам сабе бог" ("Вынаходства кола...").

Пэўна, не гэтае разуменне дае чалавеку надзею на тое, што ён будзе жыць, будуць жыць яго нашчадкі. Што ж аб'ядноўвае людзей, што з'яўляецца той мяжою адліку, дзе кожны пачынаецца як чалавек, дзе кожны адчувае сябе патрэбным, дзе найбольш утульна і цёпла тваёй душы? Сімвалам гэтай еднасці з чалавецтвам з'яўляецца пачуццё дому. Нават не канкрэтны нейкі вобраз дому, бацькоўскай хаты, а менавіта само пачуццё, адчуванне, што недзе на зямлі ёсць твой дом, твой прытулак. Мы ўсе адтуль. Мы жывыя і шчаслівыя, пакуль маем куды вяртацца. Вось з гэтай думкай, выказанай, як звычайна, шчыра і адкрыта, не згадзіцца нельга:

Няма ў жыцці другіх дарог
Пазбавіцца пакут і стомы.
Мы ўсе вяртаемся дадому
Пасля блуканняў і знямог.

## ДУШЫ НЯЗЛОМЛЕНАЕ СЛОВЫ...

***Рудольф Пастухов. Судьба.***
***Слоним, 1994.***

Гісторыя гэтай кнігі, як і "гісторыя аднаго з нас", яе аўтара паэта Рудольфа Пастухова, па словах Д. Бічэль-Загнетавай, незвычайная. І найперш таму, што ў яго асобе спалучыліся, арганічна зніталіся

розныя іпастасі чалавечага існавання, не зусім, на першы погляд, спалучальныя. Ён "жыве ў гэтым Краі. Ён - рускі, але тутэйшы, свой. Ён - электрык, але інтэлігент. У яго ўсё проста і адначасова ўсё заглыблена, перакручана, ускладнена. Ён паэт - але ўжо ў сталым веку выдае сваю кнігу. Але добрую".

Лёс. Інакшай назвы гэтая кніга і не магла мець. Бо гэта не проста паэтычны зборнік. Гэта балючая споведзь чалавечай душы, якую напаткаў у гэтым свеце жорсткі лёс.

"Злая памяць" - такую назву мае першая частка кнігі. Вершы вяртаюць тое, што было наканавана пражыць іх аўтару, бо злая памяць (інакшай яна і не можа быць) паслужліва малюе карціны пакутаў, прыніжэнняў, настойліва патрабуе выліць іх з перапоўненай болем душы. А ёй, гэтай душы, так хацелася дабра, яна так прагнула святла, чысціні, калі вакол панавала зло. Таму і выжыў паэт, бо не зламалася душа. Таму і словы "жыць", "жыццё" заменены ў вершах іншымі - "выжыць", "выжыванне". Бо штодзённую барацьбу за існаванне ці можна назваць чалавечым жыццём? Але было нешта, што дапамагло зберагчы людскасць, што кранае незвычайна. Як, напрыклад, лірычны сюжэт верша "Папяровы вянок", у якім герой – зэк - выручаныя за крадзены камбікорм грошы пакідае не "на кашу", не "на кіно", не "на сівухі стакан пад часнык", а на папяровы вянок для мамы. Нельга нават адразу вызначыць, чаму такія вершы хвалююць. Чаму за мастацкай, вобразнай, сюжэтнай спрошчанасцю і нават прымітыўнасцю бачыш нешта надзвычай высокае, велічнае? Чаму без усялякіх ваганняў зусім не зважаеш на звычайную безгустоўнасць - папяровы вянок? Больш таго, узнікае адчуванне, што гэта ў падобнай сітуацыі ёсць своеасаблівая выява эстэтычнага зместу. Мо таму, што чалавек, адкінуты на самы ўскраек людскасці, застаецца чалавекам, здольным на тонкія душэўныя рухі?

"Мерзну я ў шостай зіме..." - аповед пра спрадвечную чалавечую прагу сагрэцца ля цяпла жывой істоты. Гэтае імкненне, зноў і зноў разбіваючыся аб рэаліі жыцця, выпраменьваецца, струменіць з раскрыжаванай душы, каб зліцца, зрадніцца, перакрыжавацца з ёю, тою адзінай, якой так холадна недзе там і без якой так холадна тут, "у шостай зіме".

Ад твора да твора ўзрастае адчуванне беспрытульнасці, бяздомнасці. Чалавек цалкам вырваны з таго мікраклімату, з таго асяроддзя, якое адно і здольнае спрыяць нараджэнню роднасці, блізкасці са светам. А ўзамен - "турма і лагер - вось цяпер мой дом".

Вершы характарызуюцца і разнастайнасцю рытмікі, і адшліфаванасцю рыфмаў, і нечаканасцю параўнанняў. Так, у адным

з самых лепшых вершаў "Касцёр" - "трапеча зэк, як матылёк". Матылёк - сама легкаважнасць, чысціня, цяпло і прыгажосць, што бярэ пачатак ад класічнага Багдановічавага "Па-над белым пухам вішняў...". І побач - змарнелая фігура зэка. І мінус сорак два, і чыфір, і ручны лесапавал. Дзе ў яго сілы трапятаць? Цела і душа быццам памяняліся месцамі. Цела - ледзь трапеча, скуль выпетраны рэшткі фізічных сілаў. Душа ж моцная, загартаваная, як сталь, жывая, нязломленая, нескароная, што зрастаецца з усім існым, з водарам і шолахам духмянага сена, са святлом іскрыстай расінкі (верш "А сена пахне..."), перастае быць бяздомнай, беспрытульнай, напаўняецца жыццядайнымі сокамі. Дзякуючы чаму адбылася гэтая метамарфоза? Магчыма, сілы надае і матчын наказ, што "ляціць з таго свету": "Трэба жыць, трэба выжыць, //ты чуеш, сынок?" Гармонія, здабытая праз вялікія пакуты, дзіўнае сугалоссе са светам, згода з ім - і душа, ачышчаная, нібы рака, у якой гучыць голас ліры (верш "Горны пах чаромхі").

Што ж адбываецца ў свеце, там, па-за турмамі і лагерамі? Гэты свет, дзе пануе недарэчнасць, абсурд, часам паўстае вартым жалю. Свет захварэў, звар'яцеў. Карціна ўсеагульнага вар'яцтва па-дзіцячы наіўная, нават вясёлая, намалявана ў вершы "У маленькім горадзе". Ён нагадвае вядомыя дзіцячыя страшылкі, у якіх з самым шчырым замілаваннем і пяшчотаю здзяйсняюцца розныя садысцкія штукі:

Я смеюсь обаятельно,
представляя, как ловко
я сегодня приятелю
отломаю головку.

Вершы "Драблёнка", "Мы таксама былі на вайне", "Дарога, ці ліст да Сталіна", "Паштовая скрыня ЮЮ - 10/10. Песня прамотчыкаў", "Маклакова" і іншыя - і ёсць сведчанне злой памяці пра дзесяць гадоў выжывання, якія Рудольф Пастухоў правёў у турмах і лагерах. Дзе па-за межамі нармальнага чалавечага існавання адбываўся дзіўны, нечаканы і ў нейкай ступені парадаксальны працэс шліфоўкі чалавечай душы. Гэта творы, адносна якіх ніяк не выпадае гаварыць пра нейкія чыста літаратурныя недахопы. Як не выпадае напрыканцы жыцця "выполваць" ці перайначваць створанае, часам няроўнае, часам пачварнае. Бо ў зямным чалавечым лёсе нічога перайначыць нельга.

Большую прастору другога раздзела кнігі "Правей мяне ветрам, радасць" займаюць лірычныя вершы. Адкуль такая незвычайная назва-просьба? Бо радасць павінна заключаць у сабе асвяжальны, ачышчальны пачатак? Ці таму, што час жыцця "лета на адыходзе" і ў жыццё настойліва і незваротна ўрываюцца зімовыя, срэбна-белыя колеры стыні і холаду? І ўсё ж лірычныя вершы (а лепшыя з іх "Зноўку - ты...", "Навальніца", "Па начах неспакой...") у агульнай канве балючай споведзі выглядаюць не зусім натуральнымі ўпрыгожаннямі. Яны перасыпаны водгукамі ясенінскага ці каляясенінскага, дзе знаходзім і "половодье чувств", і "пену с черёмух", і "медовую свежесть". Гэтыя вершы нагадваюць літаратурныя вопыты, у якія закоўваюцца жывыя пачуцці. Вельмі ж па-літаратурнаму вытанчаныя і радасць, і сум: "Пара астыць асення'му кастру..."

Арганічна ўпісваецца ў гэтую незвычайную паэтычную кнігу гэткая ж незвычайная, не чаканая тут "Гісторыя аднаго з нас", куды ўвайшлі дакументы, што маюць непасрэдныя адносіны да аўтара: заявы, пасведчанні, адказы-адмовы-адпіскі, якія і складаюць тое замкнутае кола - чалавек ходзіць па пакутах і выйсця не мае. Асабліва калі ён хоча дайсці да ісціны, да разумення вельмі важнай сутнасці. Сапраўды, для магутнай сваёй чэрствасцю, бесчалавечнасцю сістэмы чалавек нішто, калі ён пры такім настойлівым жаданні не можа даведацца пра самае простае, неабходнае, здавалася б, элементарнае: з чаго ён пачынаецца на гэтай зямлі, хто яго бацькі, які іх лёс. І наколькі ж яны трафарэтна правільныя, гэтыя двайняты-адпіскі: "Установить не представилось возможным...", "Сведений не получили...". Кола замыкаецца. Нейкае сапраўды д'ябальскае кола, створанае сістэмай, на варце якой і зараз тыя, хто не здольныя "установить". Пякельнае кола, дзе зніклі людзі і не заставалася ад іх ніякага следу. Але не. Сляды ўсё ж засталіся. Па ўсёй зямлі Курапаты. Паэт пабываў там. І тое, што ўбачыў, - "не перадаць словамі". Хіба толькі словам паэтычным. Таму ў нечым сімвалічным з'яўляецца заканчэнне кнігі вершам "Курапаты" ў перакладзе Івана Сяргейчыка. У кастрычніку 1988 года ён быў надрукаваны ў "ЛіМе". Якраз напярэдадні тых памятных Дзядоў. Верш-стогн, верш-крык, што выходзіць з самых глыбіняў чалавечага болю, да якога спрычыніўся, калі яшчэ не мог усведамляць сябе, у тыя часы, калі выраслі Курапаты. Крык сцішаны, стрыманы, адчайны. Моцная дакладная рыфма гучыць водгукамі стрэлаў, якія знішчалі тут усё жывое, нават тое, што забіць нельга: "Час расстраляны напавал". Вобраз чорнага прывіду страшнай сталінскай эпохі, эпохі "гістарычнага правалу", дзе

...сталінізм
шалёна рваў –
як вецер веку,
хрыбет гісторыі ламаў
і чалавека...

Жудасныя ў сваёй непрыкрытай натуралістычнасці карціны гвалту над чалавечымі жыццямі:

Пляўком свінцовым са ствала -
ва ўпор ахвярам...
Крыж-накрыж целы,
пах крыві
і жах на тварах...

Атрымалася сапраўдная кальцавая кампазіцыя кнігі. Напачатку - злая памяць, карэнні якой - у зламаных жыццях, што гартаваліся ў сталінскіх лагерах і станавіліся мацнейшымі за сталь. А напрыканцы - Курапаты, што і сталі пачаткам зламаных лёсаў.

## "КАБ НЕ БЯДНЕЦЬ ДУШОЮ..."

***А.Пяткевіч. Літаратурная Гродзеншчына. Мясціны. Людзі. Кнігі. Мінск, 1996.***

Згадзіцеся, асабліва кранаюць кнігі, аўтараў якіх ведаеш, шануеш. Калі не проста чытаеш, а чуеш знаёмы голас, што распавядае. Такіх блізкіх мне кнігаў не так і шмат. Перагортваю старонкі "Паэтыкі беларускай народнай прозы" і зноўку чую эмацыянальнае, яркае слова Міколы Архіпавіча Янкоўскага, які так нечакана і недарэчна рана пайшоў ад нас. Такія, жывыя для мяне радкі кнігаў Данута Бічэль-Загнетавай, Алены Руцкай, Вольгі Іпатавай, Юрася Пацюпы... Такой стала для мяне і кніга Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча "Літаратурная Гродзеншчына" - сапраўдны падарунак чытачам, асабліва каштоўны для тых, хто звязаны з Гродзеншчынай "кроўнымі вязкамі" (Д. Бічэль-Загнетава).

Нашай Гародні, універсітэту надзвычай пашанцавала, што калісь, ужо роўна сорак гадоў таму, сюды прыехаў выпускнік аспірантуры пры кафедры беларускай літаратуры БДУ Аляксей Міхайлавіч

Пяткевіч. Якая шчаслівая выпадковасць: сустрэў на вуліцы аднакурсніка, што быў накіраваны ў Гародню, памяняліся накіраваннямі. Выпадковасць сапраўды шчаслівая, бо Аляксей Міхайлавіч стаў у нашым горадзе не проста выкладчыкам літаратуры. Ён разам з Васілём Быкавым, Аляксеем Карпюком, Данутай Бічэль-Загнетавай стварыў сапраўдны цэнтр беларушчыны. Ва ўсе часы заставаўся верным беларускаму слову, прыкладам для сваіх шматлікіх вучняў.

Захапляе і вялікая праца, зробленая даследчыкам, і шчырая любоў аўтара да таго, пра што расказвае. Скупыя звесткі пра творцаў (таго вымагала задума кнігі: як мага шырэй адлюстраваць багатую на таленты Гарадзеншчыну) з іх дакладнасцю, дакументальнасцю ахутаны глыбокім лірызмам. Уступнае слова да кнігі "Ад гродзенскіх палеткаў" - гэта шчыры лірычны маналог аўтара, гэта ўзрушанае, эмацыянальнае слова пра край, што стаў родным: "На гэтай зямлі здаўна жылі песні. Тут цанілі трапнае слова, любілі музыкаў, шанавалі ўсякія артыстычныя здольнасці. Тут, дзе цячэ імклівы Нёман..., дзе мудра ўзіраюцца ў даўніну пацямнелыя ад часу камяні шматлікіх замкаў і бажніцаў, а ў ціхія восеньскія вечары густа пахне на ўзлесках настоем хвоі, пажоўклага лісця асіны, ліпы, клёна, цягне з поля водарам перастаялага бульбоўніку, дзе ў добрым суседстве з беларускай жывой гаворкай вякамі чуліся гукі мовы польскай, яўрэйскай, літоўскай - тут нараджаліся, клапаціліся пра добрае, светлае і адыходзілі на вечны спачын людзі, вартыя добрай памяці. Яны адчувалі сілу і хараство слова". Гэта аповед і пра непарушную сувязь з мінулым, што дае надзею на будучае: "Цяперашнія старэйшыя і маладыя песняры, ідучы ўперад, мусяць азірацца назад, каб не бяднець душою. Мусяць слухаць галасы тых, што тут калісь узраслі. Чуць у іх паэтычным слове рытмы іх сэрцаў, разумець іх набыткі і страты, каб не збіцца з дарогі, знайсці свой кірунак. Азірацца і слухаць патрэбна ўсім, бо там Спадчына. Яна для ўсіх нас адна".

З першых старонак вырастае і ўсё больш узмацняецца ўпэўненасць у тым, што ўсе гэтыя творцы, і тыя, каго добра ведаў, ведае, і тыя, з кім размінуўся ў часе, блізкія, дарагія аўтару. Ён ганарыцца здзейсненым імі. Ды і сам ён - з іх кагорты.

Яркія, адметныя вобразы вядомых постацяў ствараюцца літаральна некалькімі фразамі-штрыхамі, што па-новаму высвечваюць асобу. Так, пра Цётку: "Была яна і лірычна цёплаю, задуменна тужліваю, калі азіралася на народныя палеткі з далечыні чужых дарог.

Бягу думкай ў край далёкі,
У лес цёмны, ў бор высокі,
Ў сваю вёску, ў сваю ніўку..."

Ці пра вытокі паэзіі Ларысы Геніюш, якая назаўсёды зраднілася з Прынёманскім краем: "Тут складалася яе мудрая і журботная, народнага паэтычнага ладу песня, якая поўніцца духоўнасцю, зычлівасцю да людзей, глыбокай пашанай да маральных запаветаў бацькоў і дзядоў".

Надзвычай паэтычна гучаць назвы многіх раздзелаў кнігі. "За смугою стагоддзяў". Так, нават з-за схаванай за завесам часу далечы ярка высвечваюцца справы невядомых, сціплых працаўнікоў, стваральнікаў кніг. Іх жаданне пакінуць след пра сваю працу, пра сваё дачыненне да вечнага зразумела. Зразумела і такое кранальнае самапрыніжэнне, тыя знішчальныя самахарактарыстыкі, якія суправаджаюць імёны творцаў ("многогрешный раб"), бо "ўласная асоба ўяўлялася маленькаю і нязначнаю перад веліччу кнігі як з'явы духоўнага жыцця".

"Час абуджэння і надзеі". Так пра сапраўды зорны час пачатку XX стагоддзя, калі "шырокаю і магутнаю хваляю разлілася народная патрыятычная дзейнасць па адрадджэнні Беларусі".

Пра многае, над чым не задумвалася, даведваюся ўпершыню з гэтай кнігі. І тым яна яшчэ больш каштоўная. Менавіта Паўліна Мядзёлка, незвычайная дзяўчына, акторка, другая выканаўца ролі Паўлінкі, упершыню ажыццявіла ў Гародні пастаноўку Купалавай «Паўлінкі». А было тое ў 1919 годзе, у часы БНР. Чаму б не пісаць пра тое на афішах і праграмках гэтага спектаклю зараз? Хоць наўрад ці працаўнікі сцэны сённяшняга абласнога небеларускага тэатру жадаюць ведаць пра гэта. "Паўлінка", праўда, вось ужо каторы сезон не ідзе.

Імёны, імёны. Лёсы людзей, што сталі гонарам гэтай зямлі. Іх творчасць. Толькі з мае Карэліччыны - цэлая плеяда: Ян Чачот з Малюшыч, Вінцэсь Каратынскі з Селішчаў, Янка Брыль з Загора, Ніна Тарас з Заполля, Алесь Башко з Даўгінава, Алесь Мілюць са Скорычаў, Вольга Іпатава, Янка Запруднік, Раман Тармола-Мірскі з Міра... Але асабліва дарагая мне надзвычай яркая, такая моцная праз дзесяцігоддзі нізка-повязь з зіхоткіх пацеркаў-імёнаў найпрыгажэйшых жанчын-паэтак Прынёманскага краю:

АДЭЛЯ – АЛАІЗА- ЛАРЫСА - ДАНУТА.

Кожнае з імёнаў як "песні радочак", велічнай, шматгалосай, шматфарбнай.

Старонкі кнігі А. М. Пяткевіча пра тых слынных дзеячаў беларушчыны, што былі звязаны з нашым горадам у 30-ыя гады, надзвычай арганічна пераплятаюцца ў маім уяўленні з вершам Д.Бічэль-Загнетавай "Вандроўка па Гародні з Уладзімірам Караткевічам вясной 1965". Гэтае паэтычнае падарожжа ў часе цікавае найперш тым, што па дарозе сустракаем цікавых асобаў. Аповед пра "турэмныя універсітэты" Піліпа Пестрака, якому "шанцавала" на гродзенскую турму, і ў кнізе, і ў вершы падсвечаны светлым гумарам, што, пэўна, было рысай характару гэтага мужнага чалавека:

І Піліп Сямёнавіч Пестрак
па-блазенску з трыбуны лясне:
- У Гародню ездзіць люблю,
у турме тут карміў прусоў.

Постаць Браніслава Тарашкевіча, вядомага палітыка, слыннага навукоўцы, таксама бачыцца нам за мурамі гарадзенскай турмы: "Астрожнай няволі ў Гродне паспытаў вядомы беларускі палітычны дзеяч, мовазнавец, публіцыст Бранілаў Тарашкевіч (1892 -1938). Тут ажыццявіў ён творчы подзвіг - у камеры-адзіночцы, не маючы ніякай дапаможнай літаратуры, пераклаў на беларускую мову паэму-эпапею А.Міцкевіча "Пан Тадэвуш". Верш дапаўняе гэты воблік:

Тут Бранілаў Тарашкевіч
наіўныя добрыя вочы
сляпіў у турэмнай цалі,
запісваў нам правілы
беларускай граматыкі,
каб памылкі паправілі,
што натварылі, наспех
натуючы апоўначы справы...

Бо беларусы ж адвеку блукалі ўпацёмках.

Са скрухай піша аўтар пра часы няволі, што правёў у Гародні Ігнат Дварчанін: "Не змог абмінуць гродзенскі астрог і Ігнат Дварчанін (1895-1937), актыўны ўдзельнік вызваленчага руху, літаратуразнавец і паэт". У вершы - тое ж пачуццё:

Ігнат Дварчанін,
другі беларускі пасол
за езуіцкім мурам
прадаўжаў сваю сцежку вязня.

Ва ўсе часы ва ўсіх гарадах Беларусі былі вязніцы, на жаль, не толькі для злачынцаў...

Фотаздымкі. Затрыманыя імгненні. Перамога чалавека, няхай прывідная, прымітыўная, над часам. Юны Анатоль Іверс у 30-ыя гады. Які светлы, далікатны твар, якія прыгожыя, чыстыя вочы! Якія надзеі... На нас пазірае юная Зоська Верас, што не ўяўляе нават, якой працяглай акажацца сцежка яе жыцця. Менавіта ёй наканавана будзе пайсці самай апошняй з усіх нашаніўцаў. Ларыса Геніюш, гэткая ж вечная на гэтай зямлі, як і сама Беларусь. І такі пяшчотны, цёплы здымак Дануты Бічэль-Загнетавай з дзецьмі. Малая Віка, што так адкрыта, старанна ўбірае ў сябе ўсю шматфарбнасць свету (і прыадкрытым роцікам таксама), каб пазней перадаць гэта на сваіх палотнах, і Алег Антонавіч Лойка, хіба ля Шчары, што няспынна сплывае ў вечнасць, як гады, прыбаўляючы мудрасці (ну і што, што і маршчынаў таксама). І шматлікія фотаздымкі з падарожжаў Яўгена Лецкі... Усё гэта ажыўляе кнігу, набліжае да нас постаці тых, пра каго так хораша расказвае аўтар.

У апошнім раздзеле "Гісторыі беларускай літаратуры" Максіма Гарэцкага, дзе зроблены агляд літаратуры пачатку стагоддзя, няма імя аднаго з самых слынных майстроў беларускай прозы, адкрывальніка новых жанраў, літаратуразнаўцы Максіма Гарэцкага. А на той час ён ужо быў аўтарам некалькіх кнігаў. Якая прыгожая сціпласць! У кнізе А. М. Пяткевіча, дзе названы імёны многіх ягоных вучняў, якіх без яго ўплыву папросту не магло б быць як літаратараў, няма аповеду пра чалавека, што так многа зрабіў для літаратурнай Гродзеншчыны, які мае некалькі кніг, які ўзначальвае кафедру беларускай культуры Гродзенскага універсітэта, які і сёння - у самым эпіцэнтры культурнага, літаратурнага жыцця Гродзеншчыны - Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча. Толькі аднойчы ўпамінаецца гэта імя, калі пералічваюцца сябры абласной філіі Саюза пісьменнікаў. Хораша аформлена кніга. На вокладцы светла-блакітнага колеру - выява-сімвал Паэта, чый погляд скіраваны ў вечнасць. І аўтографы - жывы след-дотык творцаў. Кніга выклікае вялікі гонар у душах тых, для каго Гародня - ніяк не правінцыя.

Кніга А. М. Пяткевіча - гэта цікавае падарожжа нястомнага вандроўніка па зямлі Гродзеншчыны, што адкрывае для чытачоў свет,

багаты на таленты. Падарожжа ў мінулае і сённяшняе. І ўпэўненасць, што ў гэтай зямлі ёсць заўтра: "Неўзабаве прыйдуць і іншыя, маладыя, незнаёмыя, каб стаць сваімі, блізкімі сэрцу.

Яны будуць пісаць ужо ў XXI стагодцзі... Будуць тварыць у сваёй сапраўды незалежнай беларускай дзяржаве. І тым больш застанецца нязменным штосьці вельмі істотнае ў іх духовай асабовасці... І па-ранейшаму будзе пахнуць прывялая атава на беразе Гаўі ці Зяльвянкі. А мяккае, меладычнае наша слова, як і спрадвеку, будзе выказваць уцеху і гаркоту жыцця на звілістых сцежках старажытнай прынёманскай зямлі".

## "ПА ЗЯМЛІ Я ХАДЗІЦЬ ПРЫВЫК..."

***Анатоль Іверс. Прыдарожныя сосны. Вершы. Слонім, 1995.***

"Прыдарожныя сосны" - так назваў свой новы зборнік вершаў Анатоль Іверс. Сасна - гонкае, прыгожае і такое непераборлівае дрэва, прывычнае да беларускіх беднаватых падзолістых, а то і пясчаных глебаў. Яно шуміць галінамі ў сасновым бары, яно суправаджае шлях падарожнага, засланяючы яго ад халодных вятроў ці даючы цень у летнюю спёку. Сосны, што ўвесь час пры дарозе чалавечага жыцця. Ды і люд наш тутэйшы як тыя прыдарожныя сосны. Гордыя, пакутныя, што воляй гісторыі няраз апыналіся пры дарогах войнаў і знішчэнняў, якія лавінай праносіліся па нашай зямлі, пакідаючы прагалы.

Прырода, а найперш лес - гэта прытулак душы чалавека, гэта свята сустрэчы з прыгажосцю, гэта адхланне для збалелага сэрца. Гэта - цэлы свет. Захапленне паэта перадаецца праз яркі метафарычны вобраз: "Сосны - царства медна-залатых беларускіх дрэў дзівосных".

Але ў вершах Анатоля Іверса - не толькі светлае любаванне прыгажосцю лесу, калькі разуменне яго трагедыі. Знішчэнне лясных багаццяў паэт непасрэдна звязвае з паднявольным становішчам тых, хто павінен быць гаспадаром на гэтай зямлі:

Бо былі мы пад пятой,
Загадалі - пустку робім.
Вось таму і лес не той -

Засталіся расцяробы.

І гэтыя расцяробы-пусткі не толькі ў лясах. Здзічэлымі прагаламі зеўраюць месцы, дзе былі хутары, а то і вёскі. Дажываюць, аджываюць свой век апошнія іх жыхары.

А ў лясах, ды і па ўсёй зямлі гаспадараць чужынцы, "госці"-браканьеры, што здольны нават "чалавека, ні то звера" знішчыць дзеля карысці.

Памяць як лейтматыў прысутнічае бадай, у кожным вершы кнігі. Бо хоць «і праляцелі гулам гады, а памяць - не». Памяць вяртае ў мінулае, яно ажывае, уваскрасае. Карціны цяперашняга і мінулага пераплятаюцца між сабой, ствараюць адзінае доўгае палатно, назва якому - жыццёвы шлях. Вяртаюцца дарагія паэту воблікі маці ("Святое пачуццё"), бацькі, якому сын глыбока ўдзячны за здольнасць зрабіць найлепшы падарунак - кнігу. Падараваў спачатку зборнік вершаў Купалы "Гусляр", пасля "Новую зямлю" Якуба Коласа ("Я да Коласа прыйшоў"). Вобразы тых, хто разам з паэтам змагаўся з фашыстамі: партызанскай сувязной ("Зімовы ранак"), дзяўчыны-радысткі, што "як песня Палесся" ("Радыстка"), юнай разведчыцы ("Разведчыца").

Вайна не адступае, вайна не сыходзіць са старонак кнігі Анатоля Іверса. Да паэта прыходзіць разуменне таго, што ўсё тое, што адбывалася тут у тыя трывожныя часы, - зараз спрошчана, абмалявана ў выключна белую ці чорную фарбы. "Не так усё проста, як малююць цяпер",- сцвярджае паэт у вершы "За край". Не можа ён згадзіцца з тым, што ўсе, хто жыў-працаваў пад нямецкай акупацыяй - ненадзейныя, "не маглі ўсе пакінуць родны дом, родны кут". Тое даўняе, ваеннае, трывожыць і таму, што сталася болем асабістым, стратай блізкіх:

Бо на сэрцы не загоіш
Ранаў з "дальняга таго".
І хаджу я так з тугою
Не адзін дзесятак год.

Верш з прысвячэннем Наталлі Арсенневай напоўнены глыбокай горыччу, выкліканай беспадстаўнымі нападкамі на беларускую паэтку. У балючым пытанні: "Ну скажыце, ці то вораг, // Калі славіць Беларусь// У цудоўных сваіх творах?.." гучыць і адказ. Чуваць спроба паэта давесці: Наталля Арсеннева - ніякі не вораг. Гэта сапраўдны мастак, якому давялося прайсці праз ліхалецці. Паэтка, што і ў гады

вайны асноўнай мэтай жыцця мела служэнне Беларусі. Аўтар пратэстуе супраць ганебнай звычкі далучаць да ворагаў усіх, без разбору. Верш мае назву "На сустрэчу". На сустрэчу з памяццю, каб яшчэ раз узважыць былое, каб упэўніцца ў сваёй праўдзе. На сустрэчу з прыродай, з лесам, каб пазбавіцца ад болю, каб аблегчыць сэрца ад горычы, што ўзышла ад несправядлівасці:

Сустракай жа, лес гаючы,
Адцягні з грудзей тугу!

Калдычэва - Курапаты. Словы, роднасныя па сваёй сутнасці, напоўненыя аднолькавым болем. Калдычэва - месца расстрэлу пад Баранавічамі, дзе нямецкія фашысты знішчалі людзей, Курапаты - месца расстрэлу пад Мінскам, дзе сталінскія фашысты знішчалі людзей. Верш так і называецца "Калдычэва - Курапаты". Верш - уражанне ад наведвання месца, дзе загінулі бацька і жонка паэта. Ён едзе туды, каб "пакланіцца ўсім ахвярам, //Нерасцвіўшым летуценням". Так, тыя ворагі, фашысты, акупанты. Але ж іншыя, што называлі сябе вызваліцелямі, тварылі на гэтай зямлі гэткі ж здзек:

Ад здранцвення застываю:
Ёсць у нас і Курапаты...

І ўсё ж не можа не здзіўляць тое светлае пачуццё аптымізму, якім ахутаны многія вершы, здольнасць аўтара ў такім паважаным веку бачыць хараство зямлі, радавацца, верыць у лепшае:

Каб рунела, спела ніва,
А надзея у душы.
Каб калоссе беражліва
Вецярочак варушыў.

Болева-трагедыйны матыў прарываецца ў вершаваныя радкі. Гэта і горкая памяць пра ваенны час, і знішчэнне прыроды, і здзек з роднай мовы (вершы "Роздум", "Наша слова"). "Звонам серабра" гучыць з нябёсаў мова жаўрука, "А на зямлі маю стапталі// Прышэльцы жудасных завей". Гэтыя прышлыя, што лічаць сябе гаспадарамі, прынеслі шмат гора беларускай зямлі. Але самыя страшныя, незагойныя раны - раны на людскіх душах. А "яны скалечылі і душы не аднаму з маіх сяброў".

Непарушная сувязь з зямлёй - вось тое асноўнае, што дае сілы выжыць, не зважаючы ні на якія напасці. З гонарам заяўляе паэт: "Па

зямлі я хадзіць прывык, //Пяруны не змаглі нават зрушыць". І хоць жыццёвая "завіруха зрывала не раз", спрабуючы зламаць, скрышыць, знішчыць, усё ж зямля - жыццядайная, бяздонная крыніца - ратавала, "ад зямлі прыбаўляліся сілы". І таму, як уласныя, баляць раны, што наносяць зямлі неразумныя "гаспадары":

Там праклаў па балоце дугу
Трактарыст, не падняўшы жалеза.
Што ты скажаш! Яму не баліць,
Абы выканаў норму, як робат...

Чалавек ідзе па зямлі. Па шырокай лясной дарозе. Гэта яго зямля. Ён жыве любоўю да яе. Яна плоціць яму ўдзячнасцю. На апошняй старонцы кнігі - фотаздымак Івана Дарафеевіча, зроблены Уладзімірам Калеснікам. Добрага шляху вам, шаноўны Іван Дарафеевіч! Няхай ён прывядзе Вас да светлага "Травеня"!

## "ПЕСНІ ВЫГНАННЯ"
## Ў ТВОРЧАСЦІ ТОДАРА ЛЕБЯДЫ

***Тодар Лебяда. Песні выгнання.***
***Менск, 1991.***

Сярод незаслужана забытых імёнаў беларускіх пісьменнікаў - імя слыннага паэта, драматурга, публіцыста Тодара Лебяды. Гэта псеўданім Пятра Фёдаравіча Шырокава. Ён з ліку тых дванаццаці студэнтаў Мінскага педінстытута, якія былі арыштаваны ў 1936 годзе па абвінавачванню ў буржуазным нацыяналізме. Яго блізкімі сябрамі, тымі, хто раздзяліў лёс выгнанніка, былі вядомыя зараз паэты-эмігранты Масей Сяднёў і Уладзімір Клішэвіч.

У беларускім друку згадкі пра Тодара Лебяду з'явіліся зусім нядаўна. Яго імя на пачатку не было ўключана ў шасцітомны біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі". З'явілася толькі ў шостым, дадатковым томе. Вяртанне паэта адбылося дзякуючы таму ж Масею Сяднёву, які ў гутарцы з пісьменнікам Барысам Сачанкам, што была апублікавана ў № 9 часопіса "Маладосць" за 1990 год, нагадаў пра свайго колішняга сябра. Няпростымі пошукамі, а слядоў не было амаль ніякіх, заняўся літаратуразнаўца са Слоніма Сяргей

Чыгрын. Яго артыкулы ў "Нашым слове'", "Літаратуры і мастацтве'" былі першымі публікацыямі пра Тодара Лебяду.

Гэты чалавек зведаў шмат пакутаў: сталінскія турмы і лагеры, жыццё ў акупаваным Віцебску, эміграцыю ў канцы вайны, невыносную тугу па Радзіме, якая і штурхнула на шлях вяртання на Беларусь. Тут яго ізноў чакаў арышт і самы страшны прысуд - расстрэл. Можна толькі здагадвацца, якія пакуты вынес паэт у той жахлівай камеры-адзіночцы для смертнікаў. З успамінаў Тодара Лебяды: "Часта мне здавалася, што са мною размаўляюць сваякі, якіх ужо не было на гэтым свеце. Ва ўяўленнях я бачыў іх. Відаць, вар'яцеў пацiху..." Праз два тыдні смяротнае пакаранне было заменена на 25 гадоў зняволення. Прыходзяць на памяць радкі вялікай паэткі нашай зямлі Ларысы Геніюш, што атрымала гэткі ж прысуд:

Крывёй напоўніліся поймы рэк,
Бурліць адчаем сэрц людскіх разводдзе.
Гляджу на свет. Я - лагернік, я - зэк,
Засуджаны на мукаў чвэрцьстагоддзя.

Ізноў тое ж невыноснае пекла. Тут, на Радзіме, куды Тодар Лебяда вярнуўся толькі ў 1960-ым годзе, ён не знайшоў прытулку з-за складаных адносін са сваёй жонкай. Апошнія гады пражыў на чужыне, на Разаншчыне, дзе і памёр у 1970-ым годзе, перанёсшы два інфаркты.

Самым значным дасягненнем творчасці Тодара Лебяды з'яўляюцца яго "Песні выгнання", што выйшлі ў Менску ў 1944-ым годзе. Дзякуючы кааперацыйнаму таварыству "Адраджэнне", якое ў 1991-ым годзе зрабіла факсімільнае выданне зборніка (наклад, праўда, усяго 500 асобнікаў), мы маем сёння магчымасць чытаць гэтыя незвычайныя творы паэта гэткага ж незвычайнага лёсу.

Тодар Лебяда - адзін з тых Гусляроў, якому ўдалося выжыць ва ўмовах бальшавіцкага пекла з яго адмысловым сатанізмам, каб расказаць пра гэта. Яго постаць нечым нагадвае купалаўскага героя з паэмы "Курган", але, у адрозненне ад апошняга, Бог дараваў яму жыццё. Як кожны сапраўдны паэт, Тодар Лебяда змог прадбачыць свой лёс, сваё шчасце вярнуцца з выгнання. Нібы прароцтва, гучаць радкі з верша-прысвячэння "Уладзіміру Хадыку":

Прыйдзе час і хтосьці, мо'адзіны,
Застанецца ўсё такі гусьляр!
Ён тады у сонечным прадвесьні

Пойдзе ў край вясёлкавых дарог, -
Ён тады з выгнаньня нашы песьні
Разьнясе па родных берагох.

Паэт разнёс песні выгнання па Беларусі, выконваючы велічную місію сонечнага прадвесніка з "краю вясёлкавых дарог". Гэты незвычайны светлы вобраз краю як нельга лепш стасуецца з Беларуссю як з адной з самых светаносных з'яў. Адсюль, канешне ж, і лірычны герой паэта, які надзвычай поўна адбіў праўдзівую ауру святла, нягледзячы на жахлівы шлях праз пекла. Нездарма ў вершах паэта так многа святла.

Ён выжыў там таму, што ўмеў лётаць услед за сваімі думкамі, якім няма "Сібіру, суровае кары" ў "край вясёлкавых дарог", каб адагрэцца там душою, набрацца моцы. Хоць на нейкі час пазбавіцца пякельнай пакуты, пабываць на Радзіме: "Ляці ж, мая думка, ляці ж, мая радасць, на родны, далёкі курган". Ізноў просіцца аналогія з Купалам, калі Гусляр прамаўляе: "Думка мая... сонцу, зорам, арлам толькі роўна".

Думкі, услед за якімі імкне герой, досыць розныя: аб родных загонах, аб маленькай дачушцы, аб яго ным каханні, што так нагадвае пачуццё Яго і Яе з Купалавай паэмы: "Я быў табе, як ты казала другам, і ты, здавалася, была ў мяне адзінай". Але ў гэтым "адзе" каханне існуе як мроя і фантазія, як злавесная галюцынацыя, якая сваёй здольнасцю высвечваць розныя бакі існавання іранізуе над пачуццём:

"Ха-ха-ха, паэт!.."
І з гэтым колкім смехам
Яна пайшла...
Павеяў лёгкі вецер.
На покліч мой -
Пачуў я толькі рэха,
І рэха потым
Плакала, здаецца.

(Сон )

Каханая для героя - зараз толькі рэха яго ўласнага ўспаміну, выкліканае магутнай думкай пра светлае пачуццё, якое сутыкнулася з чэрствасцю, неразуменнем самага блізкага, як здавалася, чалавека. Як годна ён пераносіць боль, выкліканы гэтай, мо самай балючай стратай - стратай каханай! Не, ён не заплача. Гэта рэха, што адно

толькі адгукнулася на покліч. Гэтак жа стрымана, кранальна, як у цудоўным вершы Максіма Багдановіча: "Не дзіўна ж, мае дарагія, што слёзы ў мяне праступаюць з-пад хмурных павек і кажу я: "Паменшыце свету ў газніцы, бо штось яна слепіць мне вочы".

Герой Тодара Лебяды пачынае адчуваць сябе ў "кагорце мерцвякоў", і гэта адчуванне ўвесь час узмацняецца, нягледзячы на моц духу паэта. Нават у адзін з самых лірычных вершаў "Развітанне з маленькай дачушкай" паэт уводзіць адчуванне смерці, вырастае пачуццё халоднага магільнага жаху:

Я еду ў край
Такі, што ты й ня сьніла,
Дзе многа, многа
Страшных мерцьвякоў,
Дзе кожны дзень
Капаюцца магілы
Дзеля замучаных,
Зьняволеных бацькоў.

Пяшчотнага развітання не атрымалася. Жудасныя ўмовы, у якія трапіў бацька, нашэптваюць яму словы гэткай жа жудаснай "казкі".

Беларусь як "край вясёлкавых дарог" - гэта мроя паэта, якой (а ён тое добра ведаў) супрацьпастаўлены жорсткія рэаліі сталінскіх часоў. У вершы "Цяжка, цяжка беларусу..." Тодар Лебяда перапрацоўвае фальклорны матыў - зварот да вольных птушак, дзікіх гусей, што лятуць на яго Радзіму. Узнікае карціна "забранага краю", дзе нішчацца спрадвечныя духоўныя скарбы, дзе пануюць чорныя сілы зла, дзе правіць баль сатана: "Змоўклі родныя чаруючыя песьні... Там гуляе адмысловы сатана". Нярадаснае прывітанне перадаюць птушкі з роднага краю, дзе ніяк не сыходзіць час панавання д'ябальскіх сілаў: "Мову родную спаганіў, перайначыў, гуслі звонкія да шчэнту ўсе разбіў..." Дзе ж тады знайсці прытулак беларускай душы?

Жахлівая адзінота, беспрытульнасць чалавека ў гэтым свеце, адчай, безвыходнасць гучаць у "Лістах да сябра". "Сібірская глуш", "дзікі ўсход - людская дамавіна", "дзікая тайга" - такімі эпітэтамі ўзнагароджвае паэт край свайго выгнання. У гэтых вершах асабліва выразна вымалёўваецца так характэрны эміграцкай паэзіі матыў '"тут - там". Там - шырокі бэз у квецені, тут - "пад кожнай шпалай... замучаны ў выгнаньні беларус", там - "шасьцяць калосьсем нівы", тут - "мёрзлая зямля".

Мысленне паэта ў выніку становіцца вельмі парадаксальным, калі святло і цемра ўяўляюць сабой адзіны непадзельны комплекс узаемазвязаных з'яў, дзе адбываецца рэзкае і імгненнае межаванне аптымізму і песімізму. З аднаго боку, нязгасная сіла веры ў "ранняе прадвесне" Беларусі, з другога - разуменне рэальнага становішча на Радзіме, адсюль - шчымлівы адчай уласнага "я" паэта. Грамадзянская асабістасць Тодара Лебяды нібы становіцца ў апазіцыю да яго душы. І калі з аднаго боку мы бачым найвялікшую веру, дык з другога - абсалютны адчай.

Дагару душою
Нават на прадвесьні,
Бо укралі сэрца
Цесныя муры.
Дагару - завяну,
Не прапеўшы песьні,
Разгубляўшы песьні
Рана на зары.
(Адцьвітаюць ружы...)

Паэт з "дагарэўшай душой", з "украдзеным сэрцам", з "непрапетымі песнямі" - што можа быць больш жахлівым для паэта. І калі гусляр з названага вышэй верша разнясе ў "сонечным прадвесні" з пылаючай душой песні выгнання па Беларусі (а гэта існуе на ўзроўні паэтавай веры), то тут ужо нараджаецца супрацьлеглае пачуццё нерэалізаванасці, нявер'я і песімізму, калі за гэтым паўстае пэўны ўзровень не толькі творчага, але і фізічнага нябыту. Паэт глыбока пакутаваў ад сваёй творчай цяперашняй і будучай непаўнаты, калі ўмовы савецкага фашызму знішчалі і мастацкі імпульс. Але, насуперак усяму, да нас прыйшло адчайна-светлае паэтычнае слова Тодара Лебяды, прыйшло, як Божы цуд і адначасна як пасланне з таго жахлівага свету, дзе давялося пабываць паэту з "сонечнай" душой.

Імя Тодара Лебяды вяртаецца з нябыту. "Прабач нас, Тодар Лебяда" - такую кранальна-шчырую назву мае верш Уладзіміра Адамовіча, жыхара горада Чэрвеня, праз які пралеглі жыццёвыя дарогі паэта. Незаслужана забытае імя павінна быць заслужана, годна вернута на Беларусь.

# ВЕРШЫ ВЯРТАЮЦЦА НА БЕЛАРУСЬ

*Уладзімір Лісіцын. Беларусь - мая калыска.*
*Кніга паэзіі. Мінск, 1990*

Шмат чаго патрэбна чалавеку, каб пачувацца шчаслівым. Але найперш сярод усіх гэтых патрэбаў самая неабходная - Радзіма. Яе ўвасабленне ў канкрэтных вобразах-рэаліях: бацькоўская хата, да якой вядзе спяжына, веснічкі, што рыпяць, калі іх адчыняеш, гародчык з кветкамі. А высока над усім светлаю душою дарагі - вобраз матулі. Адбяры гэта ў чалавека - і ніякія выгоды, ніякія самыя каштоўныя рэчы не запоўняць тую пустэчу ў сэрцы, што застаецца назаўсёды. Быццам даўкі камяк, які падыходзіць да горла, ціснe, душыць, а пазбавіцца яго немагчыма. Нават слёзы не даюць палёгкі.

Думаецца, асабліва тыя, хто перажыў страты, хто ўвогуле яшчэ не развучыўся суперажываць, не застануцца абыякавымі да нялёгкага, трагічнага лёсу беларускага паэта Уладзіміра Лісіцына. Нядобраю была тая зорка, пад якой ён нарадзіўся. Злою і жорсткаю. Бо ці ж не жахлівае тое месца, дзе паэт з'явіўся на свет, месца, што атаясамліваецца ў нашай свядомасці са здзекам і смерцю - канцэнтрацыйны лагер. Але і ў гэтым бачыцца глыбокі сімвалічны сэнс - нарадзіцца ў пекле! (Ці ж не выклік лёсу?) А затым - не проста існаваць і пакутаваць, а ўзняцца да вяршыняў духоўнага жыцця, адкрыць яшчэ адну, бясспрэчна цікавую і непаўторную старонку ў нашай літаратуры.

Ужо ў першым вершы "Пагосцішча", якім пачынаецца кніжка, поруч з замілаванасцю да роднага краю - такі непадробны і балючы матыў:

Завітаў бы я ў Пагосцішча,
У лясочку пагасціў.
Я б да той рачулкі госцейкам,
Як да маці, зачасціў.

Аднак зрабіць гэта было немагчыма. Не магло быць рэальна ўвасобленым самае запаветнае жаданне паэта, бо не было там ні хаты, якая б яго прытуліла, ні таго, хто б мог яго сустрэць. Гэты шчымлівы матыў засланяе нават філіграннае майстэрства валодання паэтычным словам, калі аўтар даходзіць да яго першавытокаў, да яго сапраўднай першароднай існасці, калі ўзнікае цэлая звязка слоў-

сваякоў і ўсе яны нясуць не толькі пэўны эмацыянальны настрой, але і глыбінны сэнс. Пагосцішча... пагасціў... госцейкі... Але злавесным ценем побач неадвязна ўзнікае нерэальна-ўмоўнае "б", што ўпарта сцвярджае сваё: гэта магло б быць, ды не будзе! Не будзе ніколі.

І сама Беларусь - як мара, як няздзейсненае жаданне, як успамін, што ўвасабляецца ў такім светлым і чароўным вобразе:

Беларусь - мая калыска,
Маці белая мая,
Прыглядзі, каб, як калісьці,
Зноў не выкуліўся я.

Вобраз шматгранны, сатканы адначасова з рэалій, што акружаюць чалавечае, у гэтым выпадку дзіцячае жыццё, і сімвалаў, у якія гэтыя ж рэаліі пераўтвараюцца. Паяднанне двух вобразаў - матулі і Радзімы - тэма не новая ў нашай паэзіі. Толькі як свежа, непаўторна і хараша гучыць яна ў вершы У. Лісіцына "Маці белая мая..."

Назаўсёды засталося ў памяці паэта жыццё на Радзіме з яго атрыбутамі сялянскай працы і побыту. І, пэўна, засталося нешта ў тым незвычайным, таемным кутку падсвядомасці, што не дало загінуць яго беларускасці, яго ўсведамленню прыналежнасці да гэтага народу, да гэтага краю, хоць такім нядоўгім быў час ягонага жыцця на Беларусі.

Лірычны герой паэзіі У. Лісіцына - чалавек выключны па сіле ўсведамлення сваёй далучанасці да жыцця прыроды. Ён "чуе, як чоўгае лета ў зялёных галёшах па ліпеньскіх лужынах", і "бачыць, як сонца кожнага дня лес фатаграфуе". Якую тонкую, уражлівую душу патрэбна мець, каб так чуць гукі, так наглядна ўспрымаць рухі навакольных з'яў! Трэба быць паэтам. Але гэтая яго выключнасць (такое, на жаль, было заўсёды) успрымаецца іншымі людзьмі, "цвярозымі рэалістамі" як дзівацтва або недарэчнасць, бо самі яны не здольны на зліццё з прыродным светам.

Для яго ж гэта не абраза, яго дзівацтва - нармальныя паводзіны чалавека, які сапраўды "рос сярод лесу". Праўда, неяк надумана і не зусім натуральна гучаць заключныя радкі верша: "А калі ўжо не там пераходжу дзе вуліцу - дык штрафуйце, - я ж не ў горадзе рос!"

Менавіта з жыцця прыроды прыходзяць у лірыку паэта непаўторныя вобразы, сапраўдныя паэтычныя здабыткі: "Пакацілася сонца з высокай гары, як маліна ў траву пераспелая", "Неба рассупоніцца маланкаю", "Падагнуў сушняк крысо суконнае", "У жыце

вясной з васількамі згубілася неба"... Пералік гэтых прыкладаў можна доўжыць, таму што бадай на кожнай старонцы паэтычнай кніжкі сустракаеш такія, напоўненыя паўнакроўным жыццём, асвечаныя сілай паэтычнага таленту радкі. Яны адметныя менавіта сваёй натуральнасцю, нейкім незвычайным уменнем бачыць свет прыроды праз прызму чалавечага, сялянскага светаўспрымання, што робіць вобразы прывабнымі, цікавымі, жывымі.

Адна з асаблівасцей лірыкі У. Лісіцына - пастаянны зварот да фальклору. Засваенне норм вуснай паэтычнай творчасці праяўляецца часам у рытміка-інтанацыйным ладзе твораў, у стылізацыі пад фальклор, напрыклад, у вершах "Распрагу свайго каня", "Пасаджу вярбу".

Знаходзіць у творчасці паэта адлюстраванне нялёгкае пасляваеннае жыццё. Сапраўдным драматызмам напоўнены верш "Варылі ўдовы самагонку", дзе паказана, як знішчаецца сама сутнасць жанчыны. Таму так моцна і цвёрда гучаць радкі:

Хто бачыў тыя вашы губы,
І жах, і горасць у вачах,
Калі вы асушалі кубак
Мацнейшай пробы першача...

Жах у іншых вачах - гэта разуменне беспаваротнасці, беспрасветнасці ў іх жыцці.

Самая вялікая трагедыя - у няздольнасці супрацьстаяць злу.

Калі ў вершы зусім яшчэ маладога творцы прыходзіць незразумелая нуда, калі песімізм надзейна пасяляецца ў яго светаўспрыманні, то чым гэта можна вытлумачыць, як не дарам пакутнага прэдбачання, прадчування:

... Каторы год сумненні і трывогі
Заводзяць у такія тупікі,
Што роспачы нічым ужо не сцешыць,
Цяжэюць нада мной мае гады...

А пайшоў ён з жыцця, не дажыўшы нават да трыццаці. Пахаваны ў далёкім Джанкоі. Толькі, як пісаў Рыгор Барадулін у прадмове да кнігі паэта, "На роднай Беларусі вершы ягоныя. Вершам патрэбна радзіма, радзіме патрэбны вершы, у якіх яна жыве".

# СПАЗНАЦЬ ГАРМОНІЮ БЫЦЦЯ.

*Раіса Баравікова. Люстэрка для самотнай.*
*Вершы, пераклады і драматычная паэма.*
*Мінск, 1992 г.*

Жанчына становіцца мудрай, калі навучаецца дараваць. Усім. Калі пачынае прымаць усё, што наканавана ёй высокім Лёсам. Калі перастае змагацца. Перш за ўсё з часам. Калі ва ўсім імкнецца бачыць прыгажосць, зладжанасць, гармонію.Менавіта такой паўстае перад чытачом лірычная гераіня паэтычнай кнігі нашай вядомай паэткі Раісы Баравіковай "Люстэрка для самотнай". Не, гэта не проста - узрост. Гэта не проста шматлікія і такія непазбежныя адзнакі, падораныя часам. Гэта нешта іншае. Гэта нейкі ні з чым не параўнаны стан жаночай душы, калі яна здольна ўзняцца на самую вяршыню свайго пакутнага зямнога шчасця, каб ужо ніколі не прынізіць сябе ні ганарлівым недаверам, ні недарэчнымі звадкамі, ні пустымі папрокамі. Стан усёдаравання і ўсёразумення, да якога здольны ўзняцца толькі душы чыстыя, светлыя, прыгожыя.

Мудрая і ад таго самотная. Бо ўсё разумее, усё бачыць у бязлітасна праўдзівым люстэрку, сатканым з хвілінаў, дзён, начэй, гадоў. Тое люстэрка і ёсць жыццё, на бяскрайнім фоне якога час, адведзены жанчыне, крыўдна кароткі.

Лірыка Р. Баравіковай адна з самых жыццярадасных, светлых старонак нашай паэзіі. Крытык В. Ліпневіч недарэмна назваў яе вершы падручнікамі шчасця: "Прыміраючы супрацьлегласці, прыгладжваючы іх гумарам, дабратой, розумам, яна вучыцца шчасцю сама і дзеліцца яго сакрэтамі з іншымі. Сёння гераіня паэткі мала падобна да ранейшай, вясёлай, жыццярадаснай, прагнай да шчасця і кахання, што выступала ў вобліках то адчайнай ганарліўкі, то зусім не самотнай адзінокай жанчыны, што чакае свайго госця, то гарэзлівай удавы Паўліны. Зрадняе іх тое, што нават у стане мудрай самоты жанчына знаходзіць святло, цяпло і гарачае полымя апошняга восеньскага адцвітання.

Матыў роздуму спакойнага, ураўнаважанага, накіроўвае паэтычную плынь зборніка. Нават думка ўвасабляецца паэткай у выглядзе звычайнай істоты, на якую можна глянуць з вышыні: "Якая ж ты простая, думка". Аказваецца, гэта зусім не складана: дайсці да вядомых ісцін. Складаней іншае: разуменне, што ўжо да многага дайшла, шкадаванне, што страчваецца нешта таемнае, што вабіла. Усё прасцей, што можна асвяціць думкай.

Адзін з самых цікавых вершаў-роздумаў - "На зары". У ім Баравікова своесабліва і даволі дакладна вызначае меру каштоўнасці нейкіх жыццёвых праяў, што праверана і пераправерана часам, праз прызму якога многае бачыцца інакшым:

І заместа пытанняў - адказы...
Ах, цяпер пасмяяцца б да слёз
Са шматзначнасці лёгкае фразы,
Што калісьці даймала ўсур'ёз.

Але праз гэту, здавалася б, надзейную заслону самаіроніі і прабіваецца жывая чалавечая пакута, што не паддаецца меркам цвярозага роздуму, што выліваецца ў балючае шкадаванне, беспрычыннае, як і скупая сляза. Ды вось яна - прычына: "... Ніхто і ніколі не верне юны пал, юны шал, юны грэх". Прычына - скарга на таго, што ніколі не прымае ніякіх скаргаў. На час.

Паэтка выкарыстала ў гэтым вершы элементы кальцавой кампазіцыі. Апошняя страфа ўяўляе сабой новыя варыянты думак, пачуццяў, вобразаў першай. Такое вяртанне да пачатку, але ўжо на новым вітку жыцця, надае вершу кампазіцыйную стройнасць, зладжанасць, падкрэслівае настойлівае імкненне лірычнай гераіні дайсці да сэнсу яе цяперашняга стану: "... Ці то развітанне, ці на новым дыханні жыццё". Так, многае ўжо зразумела, ды ўсё ж заключнае пытанне: "Дык па чым жа цяпер шкадаванне, скуль пякучасць, нібы ад ляза?..." - гучыць рытарычна: гэта шкадаванне па страчанай маладосці, але і не адназначна: жыццё яшчэ не скончана, бо пачынаецца новы дзень, які павінен прынесці новую надзею. А яна ўжо прачынаецца, абуджаецца, яшчэ нясмелая надзея на новае шчасце. Яна праглядвае праз вобраз зары, жывых трапяткіх дрэў, ужо скупой, не адчайнай, магчыма зараз апошняй слязы.

Часам мудрасць паэткі становіцца залішне рацыянальнай. Тады яна разважліва канстатуе: "Не мудры той, хто сэрцам на агонь кідаецца ў бяссільным намаганні". Але гэты "той"', хто не спапяляе сябе на агні пакутаў, сумнення, шкадавання, міласэрнасці, кахання, хіба можа быць паэтам? Вось тут прыходзіць разуменне, што да тых "нямудрых" адносіцца перш за ўсё сама паэтка і так блізкая ёй усё яшчэ няўрымслівая лірычная гераіня. Гэта сябе ўпрошвае яна жыць "адзінай ісціне сугучна: шукай не ласкі ветранай, а вучня". Праз імкненне да правільнасці, разважлівасці ўвесь час прабіваецца няўменне перамагчы сябе, перамагчы спакусу. Яно гучыць у адчайна-палымяных, балючых прызнаннях: "жар салодкі ў позняга спаткання",

"спакуса плоць тваю скрабе". Спее, разрастаецца сапраўдная бура ў цішыні, якая выліваецца праз неспалучальнае "спакой парываў, цела і душы".

У творчасці Р. Баравіковай здзіўляе ўменне гранічна наблізіць розныя з'явы, сутыкнуць не толькі розныя думкі, але вельмі неадназначна ўвасабіць іх. Здзіўляе, як у адным вершы, а часам нават у адной страфе змяшчаецца побач звычайная канстатацыя: "Нам не дадзена знаць, што будзе, знаем тое, што ўжо было" ("Прызнанне") з цікавым, нечаканым у сваёй парадаксальнасці і глыбіні вывадам: "І таму, як сляпыя - людзі бягуць ад святла і шукаюць святло". Ізноў жа за гэтым абагульненнем - адцягненым "людзі" - перш за ўсё яна сама, самотная жанчына. Гэта з яе ўласным прызнаннем - прадказаннем знаёмімся ў апошняй страфе:

І можа, аднойчы ў нечым нязнаным
(ні аблачынка, ні лёгкі дым)
адным уздыхам шапну: каханы,
ты і тут застаўся каханым маім...

Праўда, у некаторых вершах ужыванне побач розных малюнкаў, настрояў, што знешне стварае прыём паралелізму, не з'яўляецца плённым, бо такія паралельныя сінтаксічныя канструкцыі не толькі нельга змацаваць нейкай унутранай сувяззю, настолькі адвольна ўведзены яны ў канву верша побач, але і апраўдаць з боку іх вобразна-эстэтычных вартасцяў. У якасці прыкладу "паралелізм" з верша "І ўсё ж ...": "Груганом праляцеў "кукурузнік". Пыл салёны ляціць на зямлю. Ты ж, здаецца, зусім не распутнік, я цябе не такога люблю".

Дарэмна, на нашу думку, адбыўся ў зборніку "Паварот тэмы", які і замацаваны ў вершы з такой жа назвай. Вершы "О не, - прамоў няма ўрачыстых...", "Усе ўсё звальваюць на час...", «Патрэбны чалавек", "Іранічны верш" і іншыя вылучаюцца з агульнага зместу кнігі. Такія паняцці як лёс, доля, жанчына і яе час заменены вельмі актуальнымі праблемамі: чэргі, двурушнасць, падхалімаж, кар'ерызм. Гэтая змена тэмы натуральна садзейнічала зменам настрою, вобразнасці, мастацкіх сродкаў, ды і вобразу самой гераіні. Настойлівы паварот нашай сучаснай паэзіі "ў распракляты быт" стаў хваробай, што ператварылася ў эпідэмію. Што ж дапоўніла Р. Баравікова да таго, што не зусім мае адносіны да лірыкі? Партрэт нікчэмнага падхаліма ("Патрэбны чалавек"), "сухія" дэкларацыі тыпу "стаяць за праўду!" ("Усе ўсё звальваюць на час...") і зусім не іранічную іронію ў

"іранічным вершы", гераіня якога занадта гучна выказвае сваю крыўду: "Людцы, гляньце, шанцуе неразумным, о-о праклянцце!" Такія "крыкі душы" зусім не стасуюць да агульнай плыні лірычнага настрою самотнай жанчыны.

Такую ж неадпаведнасць зборніку "Люстэрка для самотнай" заключаюць у сябе і выдзеленыя асобна "Чатырохрадкоўі". І надзённа, і дасціпна, і востра-выкрывальна. Але не лірыка. Матэрыял у "Дзядоўнік на Парнасе".

Адзначаныя вышэй вершы ўвайшлі ў другі раздзел кнігі, і, безумоўна, не яны вызначаюць паэтычную вартасць зборніка. Таму без шкадавання зробім ад іх паварот да сапраўднай лірыкі.

Бадай што самым цэнтральным творам, у якім сфакусіраваны асноўныя тэмы кнігі, скразныя вобразы, з'яўляецца трыпціх "Люстра". Згадка пра тое, незвычайнае, прыгожае, што жанчына ўпрыгожвае фарбамі шчасця. Яно адначасна авеяна жалем, сумам, святлом таямнічае свечкі, што адбівалася ў люстры, агнём пяшчоты, што і зараз палымнее ў душы. Шчасцем, згадкай пра якое жыве жанчына, напоўнена ўсё. Яно асязальнае: «сцены пахнуць летам»; яно праглядвае ў рэчах і з'явах, што ўвабралі ў сябе пяшчоту мілосці і ад таго сталі сапраўднымі атрыбутамі чалавечага жыцця, спадарожнікамі, відавочцамі: «агеньчык на свечцы - крыло матылька», «пакойчык, бы ў ружах даліна», «сонечны зайчык, свавольны і шустры». Як ласкава, далікатна пералічвае іх жанчына, быццам баючыся разбурыць тонкую нітку пяшчоты, якою ўсё тут спавіта. І над усім гэтым бяздонным морам шчасця гучыць гімн прыгажосці і кахання, гучыць музыка, якая ўслаўляе самае высокае і самае зямное чалавечае пачуццё: «душы абуджанай парыў, шчымлівай музыкі ўзнясенне», «а музыка памкнецца ў высі». Сапраўды - чароўная пара!

Дысанансам у гэты ідылічны свет урываюцца словы, што вяртаюць гераіню ў рэальнасць, настойліва сведчаць пра яе становішча: «чужыя», «адчужэнне», «страшна». Але ці знойдзецца той бязгрэшны, што кіне ў яе каменем? «За што і хто папрок мне кіне?» - смела абараняе сябе жанчына, абараняе сваё права на шчасце.

Скразным вобразам усяго зборніка з'яўляецца вобраз люстра, які даў назву трыпціху. Мёртвае, халоднае шкло, занатаваўшы ў сваёй памяці малюнкі шчаслівых імгненняў, здаецца, ажывае. Яно - сведка, памяць, сімвал вяртання. Наогул, матыў вяртання таксама скразны ў кнізе. Вяртанне як вернасць, як прага вярнуць незваротнае. Шчымліва сумная «згадка даўняя», адначасна такая блізкая, тут, зусім побач, лунае ў гуках лёгкага, светлага вальсу.

Глыбока элегічна гучаць вершы «Калі знікае каханне», «У час аднаго шпацыру», «Усё цудоўна! Бусліны клёкат...», «Маладзіка халоднае свячэнне...», «Снег» і многія іншыя, што складаюць балючую споведзь жаночай душы, у якой – адказы - разуменне, але і пытанне, на якое нельга адказаць. "Што ж ты, мілы, прайшоўся завеяй па гарачаму лету майму?", "Няўжо мае сэрца пакінула шчырасць і гордасць твая падыграла яму?", "З якой жа надзеяй за іскрай сачу, за дымам над голлем траскучым?", "І ўсё ж... І ўсё ж... Навошта гэты снег?" Хто здольны растлумачыць жанчыне, навошта, куды знікае маладосць, навошта, куды знікае каханне?..

Што ж датычыць перакладаў з Анны Ахматавай, што ўвайшлі ў зборнік, то не ўсё ў іх вызначаецца дакладнасцю, псіхалагічнай выверанасцю. Вось, напрыклад, цудоўны верш Ахматавай "Твой белый дом и тихий сад оставлю..." у перакладзе - "Твой белы дом і сад не ўпанараўлю". Высокае гучанне ахматаўскага радка, у якім - пакутлівы гонар лірычнай гераіні, знішчаецца адным неасцярожным словам "не ўпанараўлю". Па-першае, парушаецца сэнс. У Ахматавай пакіну не таму, што "не ўпанараўлю", як капрыз. Прычына зусім у іншым, недагавораным, нераскрытым, як нежаданне гаварыць пра патаемнае, глыбокае, інтымнае, прыніжаць сябе і сваё каханне. Таму наступны радок гучыць велічна і годна: "Да будет жизнь пустынна и светла". Беларуская ж паэтка поўнасцю скажае змест, змяняючы яго словамі "Пакіну іх для іншага цяпла", тым самым падказваючы на нейкую прымітыўную, банальную прычыну - рэўнасць. І па-другое, нелітаратурнае, "шурпатае" слова "ўпанараўлю" таксама зніжае высокі лад гучання слова.

У другім вершы "Я улыбаться перестала..." роўны, правільны пераклад. Але зноў жа, адно слова ў першым радку "пасміхацца" істотна мяняе сэнс. "Улыбаться" па-беларуску - "усміхацца", "пасміхацца" ж па-руску - "насмехаться". Лірычная гераіня Ахматавай "не насмехается", а "улыбается". Хіба ж можна не адчуць розніцу паміж гэтымі словамі? Пасміхацца можна з нечага, з некага, жорстка, бяздушна і лёгка. Усміхацца - некаму, блізкаму ці проста добраму, або нечаму свайму, светламу, шчасліваму, што тут, у гэтым вершы, абрываецца, знішчаецца, таму за ўсмешкай схаваны боль. У Баравіковай жа за ўсмешкай схавалася зларадства, едкасць. Думаецца, без імкнення да таго аўтара.

У "Люстэрка для самотнай" увайшла таксама драматычная паэма ў дзвюх дзеях "Барбара Радзівіл", якая ўваскрашае не толькі гісторыю, колькі гісторыю кахання, сапраўднага, вялікага і

нешчаслівага, трагічнага. Таму гэты твор надзвычайна добра ўпісваецца ў агульны змест кнігі, стасуецца да самотнага пафасу.

У гэтай гісторыі шмат незразумелага. Перш за ўсё - таямніца смерці прыгожай Барбары. Паэтка падкрэслівае, што яе перш за ўсё цікавіць яна, жанчына, што кахае, пакутуе, памірае... Таму і ў назве - імя гераіні. У аснове паэмы - канфлікт паміж высакародным, прыгожым, чыстым і подлым, нізкім, паміж каханнем і барацьбой за ўладу. Прыгожая жанчына - ахвяра, прыкрыццё ў руках сваіх жорсткіх братоў, што прагна ірвуцца да ўлады, не выбіраючы сродкаў. Для Барбары ж каханне - усё, самая надзейная повязь, што звязвае дваіх, яе нельга параўноўваць з уладай: "І што карона?! Нас звязала бяздонне нашых губ: п'еш - не нап'ешся..." З вуснаў Мікалая Чорнага гучаць зусім іншыя словы: "Каханне ваша - цьфу! нам трэба ўлада!"

Раіса Баравікова не ідэалізуе Барбару. Пакуты рэўнасці, прыступы гневу, нават спроба здрады каханню з чалавекам, да якога яна абыякава - усё гэта не ўпрыгожвае гераіню. Але апошнія яе хвіліны, сцэна смерці, у якую арганічна ўпісваецца легенда пра Чорную даму - гэта яе ўзвышэнне. Гэта ўваход у браму вечнасці яе пачуцця. Уваскрасенне кахання.

"Люстэрка для самотнай" - адна з самых хвалюючых старонак нашай жаночай лірыкі, дзе ўзнята балючая праблема: жанчына і час. Але ж усё ж не час перамагае, нават калі жанчына перажывае сваю восень і прадчувае зіму. Бо спазнала гармонію быцця. І тым жыве.

## ЛІРЫЧНЫ МАНАЛОГ НА ТЭМУ: "ВОСЕНЬ".

*Таццяна Сапач. Восень: Вершы. Мінск, 1991.*

У мяне прад вачыма не кніга - Таццяніна восень, што ціха спадае пажоўклым лістом з ліста пабялеўшага на чорны малюнак зямлі.

І мне так здалося: то стан душы - восень. А час, анямелы, схварэлы, закрэслім. Ніколі да нас ён не быў літасцівы. Куды ён спяшае? Няўмольны, не вернеш. Закрэслім гады і хвіліны таксама, прыспешніцы холаду і развітання. І вось мы у дзіўным тым стане, ў бясчассі. Ці ў шчасці?

Таццяніна восень - надзеі, трывогі. І думкі, што ў роі бязладным імкнуцца то глянуць наперад, то ўраз перакрэсляць сябе - і не шкода, бо думкі - бадзянне з мінулага ў заўтра, дзе скончыш калісьці

сустрэчы, расстанні на гэтай зямлі і з самым шчаслівым, і з самым жаданым, "і нас панясуць на забытыя богам клады".

У тым стане нічога не шкода. Вось толькі ўраз холад чамусьці агорне асенні. У маладосці на сонечных крылах ўсе вёсны да шчасця ляцелі. І вось папярэджанне горкае - восень, сяброўка, дарадца. Ці здрайца? Найгорш, як адзіная восень сяброўка. Тугу не разгоніць. Што будзе за ёю? Снягоў ачышчэнне, зямлі прыцягненне? Нам ў восені трэба спытацца пра тое.

Што ў фарбах нязнаных, "няжоўтай і неблакітнай, і часам празрыста-чорнай" адсвечвае? Няўжо толькі дождж? Ён восені верны, ён з ёю сябруе. А мо то каханак, здрадлівы, халодны, разважны, бяздумны, ніякі. Найгорай - бяздушны, як вецер асенні. Пытанні, пытанні... Адказу няма. Ён, мабыць, ў апошнім з жыццём развітанні. У веры, што прыйдзе хвіліна (зноў час!), якая асвеціць усёведаннем. Нас там сустрэнуць. Там блізкія нашы. Пра гэта мы знаем. Таму там ніколі не будзе адчаю.

Ды гэта пасля. А зараз надзея: "Да часу! Будзе дзень і будзе дзея". Хоць што гэты дзень? Хіба заўтра за сёння нам больш паспрыяе? Хто знае? Чакайма. І прыйдзем, ўсе прыйдзем у восень. Бязвыхаднасць холаду і адзіноты:

А толькі мне няма куды ісці –
там
нехта ёсць,
і я яго баюся.

Ляціш з усіх ног да веснік, да роднага ганку (ў дзяцінстве) ў цяпло, у святло, бо гоніцца нехта, страшэнны і чорны, як ноч. Ляціш з усіх ног з адзіноты (усё жыццё), бо побач нікога няма. Ляціш да людзей. Там - нікога. Вяртаешся зноў у свой дом, у свой вечар, у восень. І так ўсё жыццё. Чаго яно варта? Мы - варта таго, што пакінулі продкі. Ці варта для гэтага быць на зямлі? Мы новае створым, якое - забытае здаўна старое. Ці створым мы вартае? "Мы - дзеці вялікага горада" і апошнія дзеці маленькіх вёсак, якія ў адчаі кідаем.

Усё ў павуціне падзей і адносін, усё пераплецена ў люстры жыцця. І як валадар ў ім, агідны і моцны

...там жыве павук;
ён дзень і ноч бязбожна выплятае
бязважкія карункі і узоры
на твары тонкім, чыстым і ўрачыстым,

знаёмым мне - і, можа быць, маім...

І гэта час ў аблічы павучыным. І ад яго не дзенешся нідзе. Мо знішчыць люстры? Смеху варта, глупства. А менавіта ў глупстве - сэнс, здаровы і выратавальны, як ранак пасля ночы адзіноты.

Мой дом, як і яе, самотны. Хто можа пахваліцца адваротным? Самота там, дзе свята не прыходзіць, ці дзе яно бывае найчасцей.

І што такое "я" урэшце? Адказ шукайма ў прыродзе: з яе мы выйшлі.

Дрэва, поўнае зроку,
сцяжына, поўная слыху –
насуперак сну і страху,
насупраць святла і лёху -
і гэта,
здаецца,
я...

Так, гэта, здаецца, яна. Як цяжка дрэву, што бачыць, бо дрэва расце высока, а значыць бачыць далека. І многа, што лепш бы не бачыць зусім. Як цяжка сцяжыне, што целам сваім адчувае крок кожнага неасцярожны. І часам жорсткі свядома. Крок цяжкіх салдацкіх ботаў, што ўжо не падыйдуць да дому; крок ножак маленькіх дзіцячых, якія ніколі не змогуць хадзіць, высокіх мадэльных абцасаў, якія так цяжка насіць, бо ногі ў матулі хворыя. І ім засталося нямнога...

А побач недзе ў прасторы, ці мо ў бясконцым далека, у гэтым часе ці ў іншым лунае яго імя. Як светлая мара жанчыны пра тое, што будзе недзе, няхай і не ў гэтым свеце, з'яўляецца вобраз той. Няхай і манерна вельмі, але ж так высока, светла, як крылы надзей жанчыны, узыдзе імя - Савелій.

А можа, надзея не ў заўтра, ў мінулае гляне вачыма, поўнымі шчырасці, свету, ўсяму свету на радасць ці злосць: "тут колісь іначай, тут лепш было". Што тут было? Тут народ усяго толькі тутэйшы. Што тут нам шукаць?

Шукаць - не знаходзіць, пайсці - не вярнуцца, фальшывы - сапраўдны, знаёмы - чужы, пачуццяў і фарбаў змяшанне, ўсе тэмы у чорным і белым змяшчаем. Толькі восень на белы бедная. Хіба павуцінка. Дык гэта ж прывід. Сама павука тварэнне, здольная нішчыць жывое. Як прыгажосць - павуціннe маршчын. У восені жоўты і чорны пануе. Жоўты - усяго толькі ўпрыгожанне,

ненадзейнае, кранальнае сваёй бездапаможнасцю, да першага ветру шалёнага. Чорны - вось аснова, на якой трымаецца лісце ад дрэва жыцця. Пад залатой аздобай - чорны шкілет магільнай жалобы. Няўжо ў жыцці аснова - чорная жалоба?

Жалобныя фарбы святлеюць ад вершаў Таццяны.

Няўжо ў маё жыццё ўваходзіць восень?

Мне так здалося...

## З ВЕРАЙ У ВЕЧНЫ ЗНІЧ

*Скобла Міхась. Вечны Зніч: Вершы. Мінск, 1990.*

Кожная паэтычная кніга пакідае ў нашай душы асаблівы след. Вершы Міхася Скоблы ўражваюць найперш хвалюючай шчырай неабыякавасцю лірычнага героя да складаных надзённых праблем. Адчуванне асабістай далучанасці да грамадскіх працэсаў, імкненне праз мастацкае слова перадаць гэтую далучанасць сведчыць пра абвостранае пачуццё адказнасці за лёс роднага краю, яго будучае.

Занядбанасць гістарычнай спадчыны, культуры, мовы, наступ на нашу зямлю чарнобыльскай бяды, водгукі афганскай трагедыі - так вызначае паэт тэматычныя абсягі сваёй кнігі "Вечны зніч". Усё гэта непасрэдным чынам адлюстроўваецца ў вобліку лірычнага героя, накладвае на яго светаадчуванне балючае, суровае адценне, малюе рэчаіснасць халоднымі, змрочнымі фарбамі.

Як знайсці сябе, вызначыць сваю ролю ў свеце, дзе пануе, здавалася б, безнадзейнасць і страх перад будучыняй, дзе раскашуюць ілжэпрароцтвы: "Маўляў, а як няўрод? Маўляў, а трыццаць сёмы?!" Паэт рашуча выступае супраць такіх прадказанняў. Светлая надзея на недарэмнасць прыходу ў гэты свет, здольнасць выканаць сваё прызначэнне гучыць у словах героя: "Я дзетак навучу Купалаваму слову". А гэта і ёсць самая высокая місія паэта, настаўніка - несці людзям веліч роднага слова, дайсці да іх душаў, абуджаць лепшыя пачуцці.

Трагічнае ўспрынягцце героем М. Скоблы рэчаіснасці абумовіла ўзнікненне ў яго лірыцы вобразаў з тым жа болева-трагедыйным напаўненнем: паранены вецер, здзічэлы сад, спілаваная, але яшчэ жывая таполя. Усе гэтыя прадметныя рэаліі прыроднага свету нясуць у сабе глыбокі сэнс, становяцца шматзначнымі сімваламі, якія ў нашай свядомасці набываюць новы змест.

Але бадай самым складаным і супярэчлівым для нашага ўспрыняцця з'яўляецца галоўны вобраз паэтычнага зборніка - Вечны Зніч. Гэта супярэчлівасць заключаецца ў тым, што, з аднаго боку, нельга не пагадзіцца з балючай паэтавай скаргай: "Праклятыы, збэшчаны, нічый, людзьмі падменены на новы", у якой гучыць страснае асуджэнне. Але, з другога боку, каго, за што асуджае паэт? Народ. Занадта глыбока ў мінуўшчыну заходзяць карані гэтай уяўнай народнай "здрады". І хіба "крыж чужы" ўжо даўно не перастаў быць чужым? Гістарычны лёс прывёў наш народ да хрысціянства. І ўжо зусім непрымальнай з'яўляецца занадта адкрытая знявага да тых, хто служыць новаму агню. Пагардлівы папрок, папярэджанне выказваеца ў вельмі недалікатнай форме: "І будзе каяцца народ, што верыў пудзілу ў сутане". Шмат прывабнага заключае ў сабе паганства. Ды і, безумоўна, у многіх з нас жыве ў глыбінях падсвядомасці яго прыцягальная зямная сіла. Бо мы - нашчадкі паганскага племені, няхай нават вельмі далёкія, няхай нават даўно адлучаныя ад спрадвечнага перуновага агню. Таму ў кожнай істоце, што выйшла з зямлі, імкнёмся бачыць жывую сутнасць, душу. Зачароўвае гоман лесу, шэпт траў, зыркі погляд непаўторнага тварэння прыроды - кветак. Гэта, пэўна, вынік дзейнасці той інфармацыі, што закадзіравана ў генах чалавека. Таму зразумець неспакой паэтавага сэрца з-за страты народам спрадвечнай веры можна. Але ці павінен ён выказвацца ў такой ваяўнічай форме?

Часам у свядомасці лірычнага героя ўзнікаюць страшныя, фантастычныя ў сваёй неверагоднай сутнасці карціны, у якіх, на жаль, ёсць пэўны сэнс. Такое цяжкае ўражанне пакідае верш "У апошнім музеі Беларусі". Усё такое жывое і блізкае сённяшняму чалавеку выступае ў выглядзе недарэчных пластыкавых экспанатаў:

Комін над зрубам з пластыку
тоіць цяпло няшчырае.
З пластыку нават ластаўкі –
вымерлі недзе ў выраі.

Слова "страта" гучыць лейтматывам, пранізвае ўсю прастору верша. Самая страшная страта - страта духоўнасці, якая абумоўлена найперш занядбанасцю гістарычнай спадчыны, яе духоўных і матэрыяльных выяваў.

Моцная повязь са светам гістарычнай мінуўшчыны, зацікаўленасць рамантызаванымі вобразамі беларускай даўніны натуральна прывяла паэта да жанру балады, што ўключае ў сабе

моцны эпічны стрыжань, наглядную сюжэтную канву і адначасна афарбавана высокім лірызмам. Эмацыянальна-экспрэсіўны фон падмацоўваецца прысутнасцю ў гэтых творах вобраза лірычнага героя. Такая непасрэдная прысутнасць адчуваецца ў пастаноўцы рытарычнага пытання ("Балада старое пушчы"), у лексіцы ацэначнага складу, у выказваннях у адкрытай форме сваіх надзеяў: "Іскрай «Мужыцкай праўды" жыцьме народны прысак" ("Балада-рэквіем. 1964 год").

Часам гістарычныя постаці, асабліва з нядаўняга нашага мінулага, уваходзяць у паэзію М. Скоблы не столькі ў вобразах гераічна ўзвышаных, а нясуць з сабой нейкую пэўную канкрэтную часцінку той жыццёвай рэальнасці, што акружала іх. Таму яны ўяўляюцца чытачу гранічна блізкімі, жывымі. Такі вобраз паэта Паўлюка Багрыма. Аўтар падае яго ў цікавым, некалькі незвычайным ракурсе. У цудоўную сваю жырандоль майстар уклаў усю душу - песню, "заміж перарванай, той". Жывыя жалезныя жаўрукі - яркая мастацкая дэталь і разам з тым канкрэтная рэч, што нясе ў сабе вялікую энергію, накіраваную ў будучыню.

Асабліва значную ролю адыгрываюць рэаліі знешняга свету ў вершы, прысвечаным памяці Ларысы Геніюш. Рэчы, што нясуць у сабе адзнакі жыццёвай дзейнасці чалавека, маюць здольнасць убіраць у сябе яго духоўную сутнасць, становяцца "знакамі духоўнага досведу" (Л. Гінзбург). І нават больш: рэчы пачынаюць жыць сваім жыццём, намагаючыся дубліраваць чалавека. У такіх выпадках асабліва кранае адчуванне пакінутасці, халоднай адзіноты:

Зніклі альвасы. І вата
жоўтая ў леташнім пыле,
і намагаецца хата
вокны расплюшчыць сляпыя.

Усё сказанае, магчыма, выкліча ўяўленне, што няма ў гэтай паэтычнай кніжцы нават парасткаў светлага чалавечага шчасця. Гэта зусім не так. Чорныя, змрочныя фарбы адыходзяць, калі мроі лірычнага героя вяртаюць яго да сваіх каранёў. Зразумела, гэта вяртанне не можа адбывацца на ўзроўні рэальнага дзеяння. Гэта імкненне захаваць у сваёй душы памяць пра роднае, блізкае, уваскрасіць святло, якое дапамагае жыць. "Бацькаўшчыны прысненне..." "Прысненне" - такое далікатнае, светлае слова, што так хораша зрыфмавана са словам "сена", якое ўваскрашае непаўторны водар.

Ад трагізму чалавека сярод адзіноты бясконцага Сусвету здольна ўратаваць толькі цяпло нечай душы. Як гэта па-чалавечы хораша гучыць у вершы "Сузор'і замярзалі":

Снягі навокал. Я дыхаю на зоры,
спадзеючыся,
што калісьці далёкай-далёкай
жнівеньскай ноччу
з чорных халодных лапаў космасу
вызваліцца хоць адна зорачка,
адагрэтая маім дыханнем.

Паэт здолеў перадаць тонкае, далікатнае чалавечае пачуццё, што нечым нагадвае высокае Багдановічава "Я хацеў бы сустрэцца з Вамі на вуліцы..." Але ў гэты прыгожы паэтычны свет мроі дысанансам, чужой, фальшывай нотай урываецца недарэчнае слова "лапаў", якое зніжае эмацыянальны стан верша. Ці не лепш было сказаць "абдымкаў"? Гэта наогул адзін з выдаткаў мастацкага стылю М. Скоблы - увядзенне ў паэтычную канву верша неадпаведнага астатняй прасторы слова ці выразу. Асабліва ў вершах інтымнага складу сустракаюцца банальныя, ненатуральныя фразы накшталт: "Вуснамі адпіхвала душу". Яе, душу, можна закрануць, ускалыхнуць, параніць толькі паняццем такога ж высокага плана, як і яна сама: словам, поглядам, каханнем...

Са шчырымі пачуццямі вернасці, веры, адцанасці і любові ўвайшоў у паэзію лірычны герой М. Скоблы. Няхай гэтыя пачуцці назаўсёды застануцца з ім.

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

# *ПУБЛІЦЫСТЫКА*
# *УЧОРА. СЁННЯ.*
# *ШТО ЗАЎТРА?*

### ВЯСНА. РАЗЛАД. І ПРАРОЦТВЫ КУПАЛЫ.

*Лірычна-палітычныя нататкі*

Расцвілі каштаны. Асабліва хораша пальмнеюць яны на адной з самых светлых вулак нашай Гародні - вуліцы Ажэшкі. Сваёй квеценню каштаны яшчэ раз сцвярджаюць: ізноў вясна ўвайшла ў свой зеніт, каб успыхнуць, уразіць і сыйсці. Маю надзею: сярод гарадзенцаў ёсць яшчэ тыя, што здольны заўважаць гэтую легкадумна-вясеннюю цнатлівасць прыроды, жыць яе чысцінёй, абуджацца яе абуджэннем:

Нібы кветкі каштанаў,
белай хваляй плывуць твае словы,
ападаюць на вочы і вусны
далікатнай, празрыстаю явай.
Нешта светлае і жаданае
зачароўвае, ап'яняе,
То не словы твае, то проста
белай хваляй плывуць каштаны...

Толькі вось сёлета ў светлы вясенні настрой чорнай гадзінай дамешваецца тое жорсткае, злое, але, на жаль, праўдзівае: гэты люд, што бясконца снуе па веснавых вулках, што бессаромна плюе семкавым лушпіннем на штораніцы падмеценыя ходнікі, толькі і заслугоўвае таго, што з крыўдай і болем выказаў вялікі Купала ў сваім вершы "Разлад":

Куды ні глянеш людзі, людзі,
Куды ні глянеш шэльмы, шэльмы..,

што накшталт нашых кандыдатаў у народныя абраннікі "б'юцца ў грудзі, што значыць: правільныя вельмі". Не саромеюцца салодка-ўедлівым голасам прызнавацца ў вечнай любові: "Я вас люблю, гродненцы". Адразу і ўсіх? І тых, хто ўжо даўно страціў чалавечы воблік і чыя "высокаарганізаваная" матэрыя здольна нараджаць толькі адну думку-праблему: дзе пахмяліцца, - каб пасля, няважна якімі сродкамі, але ажыццявіць яе? А хіба можна любіць, здавалася б, нармальных, зусім яшчэ юных стварэнняў і мужчынскага і жаночага полу, што цынічна плююць сліной пад ногі або табе ў спіну брудным расейскім матам, маючы ад гэтага часам асалоду, а часцей выкарыстоўваючы '"перлы" "великого и могучего" ў якасці надзейнага, адзіна магчымага сродку дзеля звязкі словаў, тых, што здольныя абразіць, прынізіць у кожны момант, што няздольныя рэагаваць прыстойна ні на адну праяву нармальных чалавечых зносін? І разам з тым, па сутнасці, заўсёды баязліўцаў, сіла якіх толькі "в куче", у якую "сгруздились малые" (няхай даруе мне расейскі паэт за выкарыстанне яго верша ў такім кантэксце). Мушу прызнацца: не маю ніякіх сілаў любіць такіх гарадзенцаў. Мне крыўдна, што па нашай светлай Гародні ходзяць тыя, пра якіх ізноў жа Купала ў тым жа "Разладзе" вымавіў: "А чалавек - ком гною, сала..." На класіка крыўдаваць нельга, бо класіка (і гэта аксіёма) не памыляецца. Як нельга крыўдаваць і на жанчыну, асабліва калі яна - паэтка. Такая светлая, прыгожая, праўдзівая, беларуская, як Таццяна Сапач. Ужо колькі часу прайшло пасля "ўсенароднага волевыяўлення", а ў маёй душы ўсё гучыць яе цудоўны верш, у якім - мой настрой, мой сённяшні боль:

Так, невыносна жыць на гэтай зямлі, калі без
цябе і крыху іранічных вершаў пра бэз,
ані да цябе не падобных і нават да
мяне ані не падобных, а толькі бадай,
да нашых з табою магчымых дзяцей,
якім таксама - шкада... ня будзе прасьцей
на гэтай зямлі...

Так, нашым дзецям не будзе прасцей. Мая дачушка, ужо васьмікласніца, правучыўшыся шэсць гадоў у беларускай школцы на маёй Радзіме, мусіць зараз вучыцца на расейскай мове ў расейскамоўным класе, бо ні ў адной са школаў Гародні, "где имеются перегибы во введении белорусского языка", няма ні аднаго яе беларускамоўнага класу. Цяжка ёй будзе і таму, што кожная бязграматная гандлярка-хамка мае поўнае права кінуць ёй, як зараз

яе маці: "Говорите на нормальном языке!" І таму, што сярод сябровак-аднакласніцаў родная мова - гэта "наш родной русский язык", а беларуская - у страшэнным загоне

... на гэтай зямлі. Яна па звычцы -
завецца нашай,
а звалася некалі белай...

Так, я разумею, чаму ў гэту глыбока лірычную, светла-журботную плынь роздуму паэткі ўрываецца грубая, жорсткая аплікацыя-ўстаўка:

Ідзіце на... шай-
таны, паскуды, крывыя, рагатыя, гады,
свінні, якім даўно нічога "ня нада",
абы вакол штурхаліся, жэрлі такія ж свінні...

Разумею, бо яны ўсюды - свінні, гады, шайтаны. І ім, сапраўды нічога "ня нада". Яны хочуць, каб усе мы сталі такімі. Яны ўсюды гаспадараць. Прабачаю шаноўнай спадарыні Сапач за гэту абсалютна неабходную грубасць (праўда, магчыма, ёй зусім не патрэбна мае прабачэнне). Але ўсё ж грубасці ў "жаночай" паэзіі прыжывацца непатрэбна, каб мы не сталі такімі ж свіннямі. Нам трэба выжыць, застацца людзьмі, каб дажыць да таго часу, калі над нашай усё ж белай зямлёй залунае бел-чырвона-белы сцяг...

Сапраўды, усюды разлад. Найперш - у грамадстве, дзе абвастраюцца супярэчнасці паміж багаццем і галечай, паміж уладай адных і поўным бяспраўем другіх:

Адзін накраў - багацце ўмножыў,
Другі згалеў, галей сабакі...
Бяду нажыці ўсякі можа,
Бяды пазбыціся - не ўсякі.

У тым і веліч класікі - яна прадбачыць. Купала напісаў гэты верш у 1907 годзе, у ім жа - пра сённяшняе нашай зямлі:

Аслу з напоўненай машною
Леў акаваны лапу ліжа...

Але бадай што самым страшным разладам ёсць разлад у душы чалавечай, спаганенай, занядбанай, скуль вынішчаны нават самыя мізэрныя рэшткі святога, рэшткі ўсялякай веры: і ў Бога, і ў камуністаў. Хаця, не. У камуністаў, здаецца, рэшткі веры яшчэ не вынішчаны. Вельмі ўжо прывабная тая светлая будучыня, дзе без асаблівых высілкаў - рай для ўсіх. Надзеі на "светлое будущее" разам з "великим русским народом" - гэта, як паказалі вынікі выбараў і рэферэндуму, нешта лепшае, чым сённяшняе нішто. У знявечаных асколках чалавечых душаў перакрыжоўваюцца, пераплятаюцца і не знаходзяць ніякага водгуку ні вышэйшыя праявы дабра і справядлівасці, ні самыя шчырыя імкненні свядомых беларусаў данесці сутнасць таго, што творыцца.

Дабро і зло - ў аднолькай мерцы;
Свіння святыя думы блоце,
Вужакі сыкаюць на сэрцы,
Душа валяецца ў балоце.

А мо і праўда: гэта ўсё яго работа - чорнага, магутнага д'ябла, што разгуляўся па нашай зямлі? Сапраўды, час сатаны. Бо інакш як растлумачыць тое жахлівае спусташэнне, якое пануе ўсюды? Адказ - ізноў жа ў Купалы:

Адзін чорт весел, зубы скаліць,
Загаціў пекла да варотаў;
Рад шэльма: польку з ведзьмай валіць...
Такі разлад - яго работа.

Ці доўга яшчэ будуць панаваць на нашай Беларусі д'ябальскія сілы? Да тых часоў, пакуль людзі, што жывуць на гэтай зямлі, не ўсвядомяць, хто яны, дзе жывуць, што ёсць іх Радзіма, іх дзяржава, не зразумеюць, што і яны - не бязмоўныя, у іх ёсць вялікі скарб - свая гісторыя, свая мова. Нічога не зменіцца, пакуль гэты люд будзе "пракляццем свайго краю" (Купала), пакуль ён здольны будзе знішчаць сваіх Прарокаў, верыць прайдзісветам, іх салодкім ілжэпрароцтвам, а ў сапраўдных пасланцоў Сонца пытаць: "Па колькі нам дасі чырвонцаў, Калі мы пойдзем за табой?" Пакуль не пачуюць такіх праўдзівых сёння словаў аднаго з самых вялікіх Прарокаў беларускай зямлі Янкі Купалы: "Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу" (1919 г.), пакуль не зразумеюць, што яны і ёсць -

беларускі народ, і яны варты "людзьмі звацца", а не быць "свіннямі, якім даўно ўжо нічога "ня нада".

*Травень, 1995 г*

## "ТОЛЬКІ МАЛАДЫХ!"

Штораз, бываючы ў сталіцы, імкнуся выкарыстаць вячэрні час, каб наведаць тэатр. Гэтым жа разам давялося трапіць у жахлівы тэатр абсурду, у праўдзівае зачараванае пякельнае кола, дзе творыцца здзек і гвалт над людзьмі, дзе пануе нянавісць. Тым вечарам, 30-га травеня, моладзь ладзіла пікет у абарону зняволеных за ўдзел у Чарнобыльскім шляху. Ужо на самым пачатку пачалося нешта неверагоднае, дайсці да сэнсу чаго было немагчыма. Ланцугі міліцыянтаў абкружылі моладзь, пачалі хапаць і цягнуць да машын людзей, збіваючы іх. Натоўп хлынуў на праспект. Нейкая сотня чалавек перарасла хіба ў тысячны натоўп, што запрудзіў ходнікі.

Каля нас, махаючы дубінкамі, жахлівай лавінай пранеслася сапраўдная зграя ў белых касках. Ашаламілі воклічы, што ў якасці каманды несліся над гэтай нялюдскай сілай, якая наганяла на людзей жах: "Толькі маладых!", "Біце толькі маладых!, "Хватайце толькі маладых!" На гэта абураная бабулька з адчаем усклікнула: "А нас - што!?" Мужчына побач не без іроніі заўважыў: "І Вы хочаце дубінкай па галаве?" Не, ніхто з нас не хацеў дубінкай па галаве. Але ж мы не хацелі, каб на нашых вачах білі людзей, што не заслужылі гэтага. Ніхто не сыходзіў. Прыпыняліся выпадковыя прахожыя. Ды і прайсці было немагчыма.

Людзьмі апанавала жахлівая нянавісць. Да гэтага нялюдскага рэжыму, да прыніжэння. Да тых, хто павінен берагчы лад і спакой на нашых вуліцах, а заміж гэтага - наладжвае сапраўднае паляванне на тых, хто выказвае сваю нязгоду з рэжымам.

Над натоўпам воклічы: "Ізноў гоняць!" Акружаюць моладзь жалезным колам, кідаюць у машыны. Хапаюць за валасы. Маладых хлопцаў, дзяўчат. Дзе іх бацькі?

У галаве - жах, адчай ад сваёй няздольнасці нешта зрабіць, дапамагчы. Ад бяссілля. І з тых, савецкіх часоў услед за воклічамі: "Толькі маладых!" выплывае агульнавядомы матыў: "Молодым везде у нас дорога..." Якую ж дарогу вызначылі сённяшнія ўлады нашай моладзі? Гэтыя ўлады з учарашняга дня, што так настойліва вялі нас у светлае заўтра. Яно ж аказалася злавесным сёння.

Над усім праспектам неслася магутнае: "Ганьба!", "Свабоду!", "Жыве Беларусь!" Падумалася: гэты стогалосы вокліч змог гучаць толькі над праспектам Скарыны. Мінуў час заўсёды спакойнага Ленінскага праспекта. Моладзь Беларусі паспела глытнуць нейкі глыток свабоды.

Мой менскі сябра сказаў на развітанне, крыху іранізуючы над маімі правінцыйнымі эмацыйнымі ўсплёскамі: "Можна разыходзіцца. Мы выканалі свой грамадзянскі абавязак". У мяне ж засталося неадольнае жаданне, якое я так і не змагала спраўдзіць. Увесь час хацелася падыйсці да людзей з дубінкамі, верачы, што яны ўсё ж людзі, і спытаць: "Адкуль у Вас такая нянавісць да моладзі? Хто навучыў Вас біць бяззбройных людзей? Яны ж сабраліся ўсяго толькі дзеля таго, каб адкрыта выказаць свой пратэст". Але мае добразычлівыя сябры, што ўжо не раз былі на такіх "імпрэзах", папярэджвалі: гэта будзе для іх прычынай схапіць і цябе. Я не жадаю, каб мяне хапалі. Але мне зусім не сорамна за гэты страх. Мне ненавісны ўсялякі гвалт. Як кожнаму чалавеку. Мне хацелася задаць наша спрадвечнае беларускае пытанне, якое шаптаў "са слязьмі і так ціха, што не чуваць і сабе самому", паміраючы, няшчасны беларус Хомка: "За што?.." (М. Гарэцкі "Ціхая плынь").

Наша абуджаная беларуская моладзь не жадае больш здавацца ціха. Яна праснулася. Яна ўжо - не бясслоўная ахвяра. У ёй жыве нязгода з гвалтам. У ёй гучыць магутнае -"Жыве Беларусь!"

"... Помніцца, калі ў рэдакцыю ў тым часе адзінай беларускай часопісі "Наша ніва" ўрываліся жандармы і "ахраннікі", здзекаваліся над людзьмі, працуючымі там, забіралі рукапісы і ўрэшце цягнулі ў вастрог нічым не павінных людзей..."

Вялікі Купала! Гэта пра сённяшні час тваё балючае слова. Гэта сёння ў рэдакцыю адноўленай "Нашай нівы" ізноў "урываюцца", ізноў здзекуюцца з людзей, цягнуць у вастрог. Ізноў рэкамендуюць, "барані Божа", не чытаць апазіцыйную прэсу.

Артыкул, які цытую, мае ўзнёслую і так актуальную сёння назву: "Моладзь ідзе!" У душы кожнага, хто бачыў магутны поступ беларускай моладзі ў нашай сталіцы гэтай вясной, разам з пачуццём трывогі, болю не можа не ўзнікнуць і пачуццё вялікага гонару. Яшчэ раз нагадаем словы нашага Прарока:

"Адбудаванне незалежнасці Беларускай Дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь.

Чэсць і слава табе, беларуская моладзь!..

Ты сама сваімі рукамі адбудуеш сабе і сваім патомкам лепшую і святлейшую будучыню.

Набок з дарогі, Панове і гаспада з Захаду і Усходу!

Беларуская моладзь ідзе!"

*Травень, 1996 г.*

## ПАМЯНЯЙЦЕ НУМАР, НУЛІ!

Шмат цяжкасцей на нашай зямлі. Адна з самых крыўдных - быць на Беларусі беларусам. Маю на ўвазе не тых "тожа беларусаў", як іх трапна называе Алесь Мікалаевіч Белакоз. Не іх, пашпартова-папяровых, што ў пэўныя моманты прыпамінаюць сваю нацыянальнасць. Калі раптам накачваецца хваля беларусізацыі, што, як і кожная хваля, уздымае трэскі на самы грэбень. І яны, разбухлыя ад усведамлення сваей значнасці, падмацаваныя сілай гэтай хвалі, прыліпаюць да яе - тады пачынаецца мода. Мода на беларускасць, на беларускамоўнасць. Нічога не можа быць крывадушней, чым мода на родную мову. Агульнавядома, што гэтая пані вызначаецца надзвычайнай капрызлівасцю і непастаянствам. Як не ўспомніць радкі Ларысы Геніюш:

Гаварыць па-беларуску гэта модна,
Мовы маці, кажуць, не забыць.
Для мяне ж гэта не модна, толькі родна,
Гэта так, як піць, як есць, як жыць...

Але мода здольна яшчэ і да вяртання, і да паўтарэння.

Апошняя хваля беларусізацыі нават паспела ўзняць да жыцця нашы спрадвечныя святыні – бел-чырвона-белы сцяг і Пагоню. І той "молодой политик", што (у літаральным сэнсе) унёс у залу парламента наш сцяг, яго і вынес. Ужо не сваімі, праўда, рукамі: не царская гэта справа. Па прынцыпу Тараса Бульбы дзейнічаў: сам спарадзіў, сам і знішчу. Памыліўся, безумоўна: не ён спарадзіў, не яму знішчыць, бо святыні ўвогуле знішчыць немагчыма. Таму і адбываюцца на нашай зямлі (і над ёю) кур'ёзы накшталт нядаўняга, калі кароль Іспаніі, пралятаючы над Беларуссю, вітае яе прэзідэнта - Станіслава Шушкевіча. Недарэмна, бо з імем гэтага светлага чалавека і звязаны найвышэйшы ўздым апошняй хвалі беларусізацыі. На жаль, яна сталася надзвычай хуткаплыннай. І тыя, што вымушаны былі па

пасадзе сваёй ці ідучы ўслед за павевамі моды, павярнуцца тварам да беларускай мовы, сёння паказваюць ёй свае атлусцелыя спіны. Крыўдна. І сорамна.

Асабліва сорамна за школу. Як жа ўмее яна падхапіць моду, а пасля хуценька пераапрануць строі зусім іншага фасону. Гэта ж сейбіты не толькі разумнага і добрага, але і вечнага. Нядоўгавечнай аказалася іх прыхільнасць да беларускай мовы.

... Калі глядзіш ім у вочы і ветліва кажаш-пытаеш: "Калі ласка...", то яны - прадаўцы ў крамах, касіры, працаўнікі пошты і інш. - рэдка дазваляюць сабе грубасць. Хіба недаўменне ці шчырае неразуменне: "С чем-чем батон?" (з разынкамі). А вось з тымі, хто бязлікі, схаваны'за нулямі (0-1, 0-2 і г. д.), вельмі цяжка. Асабліва не шанцуе мне з 0-9. Адно маё ветлівае прывітанне "Добры дзень" адразу ператварае іх напачатку ласкавае прамармытанне свайго парадкавага нумару ў непрыязнае: "Говорите, что Вам надо!" Пачынаю тлумачыць. У адказ сапраўдны шквал абурэння. А то і абразы-патрабаванні: "Говорите на нормальном языке!" І часам нават трубку кідаюць, хоць і спрабуеш давесці: музей ён і парасейску музей, і што такое бібліятэка таксама і таму, хто па-беларуску "не понимает", здагадацца можна.

Хто ж вы, нулі 0-9? Няўжо і сапраўды, бястактныя, крывадушныя, абсалютныя нулі? Змяніце нумар!

Звяртаюся да ізноў жа бязлікага (хоць "героя\ў" і трэба ведаць у твар) кіраўніцтва нулямі: правядзіце са сваімі падначаленымі растлумачальную працу ў перапынках паміж агітацыяй ісці на рэферэндум. Давядзіце ім, што, выказваючыся "за двухмоўе" на мінулым рэферэндуме, людзі выказаліся і за дзяржаўную беларускую мову. Урэшце рэшт правядзіце "вучэнні" свайго "баявога саставу" па прадметах "Асновы беларускай мовы" і "Асновы прафесійнай этыкі".

Так, усе мы толькі людзі. Усе мы стамляемся, як герой песні Шалкевіча, "гаварыць тыя самыя словы". "Пра народ і пра мову..." Перачытала напісанае: так, тое самае. Але як інакш даклікацца-дастукацца да вас, нулі, калі не словам? Ды і ці можна стаміцца быць беларусам, калі ты не проста "тожа беларус"?

Пакуль беларуская мова існуе толькі часовай модай-хваляй, цяжка быць на Беларусі беларусам.

*Лістапад, 1996 г.*

## ФАРА ВІТАЎТА ПАВІННА ПАЎСТАЦЬ З НЯБЫТУ

У нашай гісторыі шмат датаў. Адны - тыя, што шануем, што сталі святымі, святамі. Другія - наша ганьба. Звязаны яны з велізарнымі стратамі. Найперш духоўнымі. Бо калі матэрыяльны ўрон прыблізна можна змераць, то мерак для духоўнага - няма. Знішчэнне, разбурэнне таго, што павінна было застацца назаўсёды.

Такой ганебнай датай для нашай Гародні стаў дзень (больш дакладна - ноч) 29 лістапада 1961 году, калі была ўзарвана фара Вітаўта. Храм, што меў надзвычай няпросты лёс, але заўсёды аднаўляўся, адраджаўся, паўставаў. Фара Вітаўта, касцёл Прачыстай Маці Боскай, Гродзенскі фарны касцёл - самы вялікі, самы прыгожы, самы першы ў горадзе рыма-каталіцкі касцёл.

З таго часу сыйшло 35 гадоў. У залатым веку гараднянкі, што нарадзіліся тады. Але ці ў залатым Гародня?

...Ён быў студэнтам Гродзенскага педінстытута ў 50-ыя гады. Прыехаў сюды амаль праз сорак. Прыехаў у горад свайго юнацтва. Хадзіў па вулках, успамінаў. Прыйшоў на плошчу. Устрывожаны, збянтэжаны, не пазнаў яе. "Не, гэта не тая плошча. Не разумею, што здарылася, але гэта - не тая плошча", - разгублена паўтараў ён сыну. Такім гэта места ён пазнаў і не прызнаў. Паехаў расчараваны, пакрыўджаны. І толькі пасля яго ад'езду сын успомніў, што шукаў бацька...

Заглянем у той час.

Яны рыхтаваліся старанна."Мерапрыемства" павінна было прайсці арганізавана. І найпершы клопат - пра людзей! У нас заўсёды клапоцяцца пра народ. Жыхароў навакольных дамоў папярэдзілі, каб не спалохаліся, каб ведалі, што ўсё адбываецца па плану, законна. Забітыя вокны. Горад падрыхтаваны да наступу. Супраць святыні. Гэта была сапраўдная вайна. Шырокамаштабны наступ. На веру, на народ, на Беларусь. Па ўсёй нашай зямлі руйнаваліся храмы...

У самым цэнтры горада, у самым людным месцы - пустэча. А мо адсюль, са святога пустога месца і павінны пачынацца экскурсіі па Гародні. Што было, што ёсць, што павінна быць.

Чаму такое магло здарыцца ў месцы, дзе калісь прызямліўся Хрыстос? Чаму ўвогуле такое магло здарыцца? Хто ўрэшце "героі", што здзяйснялі? Ні адна такая справа не вырашалася ў тыя часы на Беларусі без "кіруючай і накіроўваючай". А "першым" на Беларусі тады быў тав. Мазураў, у вобласці - тав. Міцкевіч. Не, іх імёнаў не знойдзем пад дакументамі, што захаваліся ў архівах. Але без іх згоды ці прамога ўказання на тое не магло здзейсніцца ні адно "геройства"

такога зместу. Засталіся прозвішчы тагачаснага старшыні гарсавету Воранава М. М., яго намесніка Тупоўскага У. І., начальніка гараддзелу міліцыі Назаркіна П. П... Але яны "ні ў чым не вінаватыя", як сцвярджаюць самі ці іх нашчадкі. Яны выконвалі загад! А спадар Тупоўскі У. І., які быў старшынёй утворанай па гэтай справе дзяржаўнай камісіі, нават не прысутнічаў, па яго словах, на паседжанні гарвыканкаму, дзе вырашалася справа знішчэння касцёлу. Як ён тлумачыць, асноўная прычына зносу: аварыйны стан, немагчымасць рэстаўрацыі. Ды і непатрэбны: столькі касцёлаў вакол! Вось як! Добра ўжо і тое, што гэты чалавек, ізноў жа па ягоных словах, і тады, і цяпер супраць такога варварства. Але ніхто ягонай згоды на тое не пытаў.

Рашэнне за нумарам 213 пра знос "аварыйнага будынка былога ваеннага касцёлу" было прынята на паседжанні гарвыканкаму 7 сакавіка 1961 года. Бадай самае непрыемнае, што зафіксавана ў пратаколе паседжання, - аўтарства прапановы па зносу. Яе зрабіў дырэктар краязнаўчага музею Собаль Мікалай Ісакавіч. Той, хто павінен быў абараняць найперш. Чаму? "Час быў такі", - растлумачыла яго былая калежанка, якая з вялікім болем гаворыць пра гэтае злачынства.

Хто ж непасрэдна выконваў загад тых, хто выконваў вышэйшы загад? Спецыялісты "высокага класу", "прафесіяналы". Ні адна шыба ў дамах не вылецела. Ды і гул ад узрыву быў не надта каб і моцным. Брыгада "спецыялістаў" была дастаўлена з самога Ленінграду. На чале з таварышам Пінам. Бяздумныя, неразумныя марыянеткі-чужакі без Бога ў душы, без цара ў галаве, якія не ведалі, што тварылі. Выконвалі загад! Замкнутае кола. Але ўсё ж якая сіла раскруціла, завяла гэтую ганебную машыну знішчэння? Падказала, накіравала, натхніла? Хіба сам д'ябал. Без ягонай волі тут не абыйшлося. І да сённяшняга часу ён вольна гуляе па нашай Гародні. І гора сее. І натхняе, накіроўвае. Час сатаны працягваецца.

Няўжо супраць слугаў Чорнага не знайшлося тых, хто здольны быў супрацьстаяць? Святар Міхал Арановіч, некалькі вернікаў, што сталі на парозе храма. Невялікая сіла. Усё ж трымаліся цэлы дзень. Ды слугам д'ябла ноч - не перашкода. Яны асабліва любяць правіць свой баль у цемры. І справілі. Пякельны феерверк. Аж да неба. І неба адвярнулася ад Гародні.

35 гадоў. Гадавіна злачынства. Іх ужо судзяць справядлівым судом. Не ў нас. У Літве. Не за гарамі Літва. Але як далека ад Беларусі сёння?! У нас яны адраджаюцца, аднаўляюцца. У нас яны нават

праваслаўныя... атэісты. Якая бязглуздзіца! І ў храмы ідуць, што не паспелі знесці ці што паспелі згодна з новым ветрам адбудаваць.

Лістапад - самы чорны месяц на нашай зямлі. Няўжо сёлетні лістапад не вырвецца з ланцуга жахлівых лістападаў-папярэднікаў? Няўжо і сёння на Беларусі перамогуць чорныя сілы? У іх ёсць шанц. У іх ёсць на што абаперціся: на зруйнаваныя людскія душы, на апусцелыя галовы. Без Бога ў душы. З сатаной у галаве. Яны прыйдуць, каб аддаць яму даніну. Іх страшэнна многа. Бо слугі д'ябла старанна рыхтавалі іх да чарговага "волеизъявления". Няўжо гэты лістапад стане старонкай іх гісторыі? І нашай нацыянальнай ганьбы? Мы - у нябыце. І няўжо нам не быць?!

Святое месца пустым не бывае. У нас, у наш час - яно пустое. Але быць такім не павінна. І яшчэ дзякаваць Богу, што не збудавалі яны на гэтым месцы які-небудзь дом маскультуры. Храм павінен быць адроджаны. Для таго не лепшы на Беларусі час? А калі ён быў лепшым? Фара Вітаўта павінна паўстаць з нябыту! Мо тады і прыйдзе залаты час на нашу зямлю.

*Лістапад, 1996 г.*

## НЕ ПРАЧЫТАЦЬ СВАЮ КНІГУ

Сёння я ўпершыню чула яе голас. Адтуль, з таго другога берага, з той далёкай зямлі, што для нас, беларусаў, як іншая планета - з Амерыкі. Недзе там жыве наша вялікая паэтка, якая нядаўна атрымала сваю новую кнігу, але не можа прачытаць яе, бо вакол - цемра. Паэтка не хоча, не можа згадзіцца з тымі нязломнымі кратамі, што ўтварыла цемра вакол яе. Але хто ў такіх выпадках зважае на чалавечую згоду ці нязгоду? Усё адбываецца так, як па чыёйсьці волі павінна быць. Паэтка не можа прачытаць сваю кнігу. Наталля Арсеннева.

Ягоныя творы ведае ўвесь свет. Кожная нацыя павінна ганарыцца, што ўзгадавала такога творцу. І прызнанне ў свеце - ёсць. У мінулым годзе ён быў узнагароджаны вышэйшым ордэнам Італіі. Ён - сумленне нашай нацыі. І раптам даведваемся: яго кнігу не будуць друкаваць. Ужо падрыхтаваную, адкарэктаваную. І нават прычыны нейкія, забыўшыся на ўсялякае сумленне, называюць. Прычыны, што не маюць ніякага дачынення да прычынаў сапраўдных.

Пісьменнік не можа прачытаць сваю кнігу. Васіль Быкаў.

І недзе тут, на Беларусі, за кратамі пакутуе паэт, які не можа прачытаць сваю кнігу, выдадзеную, канешне ж, за мяжой, бо туды, за краты, цемра не дазволіць прыйсці Слову. І гэтыя краты таксама зламаць немагчыма. Бо спрадвеку не было на нашай зямлі сілы, што здольна была б паспяхова змагацца з цемрай.

Паэт не можа прачытаць сваю кнігу. Славамір Адамовіч.

Гэта - сёння.

Што заўтра?..

*14.01.97.*

## ЗМЕСТ